# Наша Гісторыя

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

ISSN 2617-2305

№ 1 – 2018

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ПСІХАЛОГІЯ СУПЕРАГЕНТА
ЯК АДНА З САМЫХ ПАСПЯХОВЫХ АПЕРАЦЫЙ СПЕЦСЛУЖБ СКОНЧЫЛАСЯ НАЙБОЛЬШЫМ ПРАВАЛАМ



БАЦЬКА МІНАЙ: «Я НЕ ЗМОГ ЗБЕРАГЧЫ ДЗЯЦЕЙ, І ГЭТАЯ ДУМКА МЯНЕ СТРАШНА МУЧЫЦЬ»



ПРАВАЛ ВЯЛІКАГА РЭФАРМАТАРА



КУХНЯ МІХЛІ СІНАЕЎНЫ

## ХТО З ВЯЛІКІХ КНЯЗЁЎ БЫЎ САМЫ-САМЫ

ЛІТВІНЫ ЦІ РУСІНЫ?

З ЧАГО СМЯЯЛАСЯ ЧАЛАВЕЦТВА

ЯК НЕМЦЫ З ЯЎРЭЯМІ АБ’ЯДНОЎВАЛІ СЛАВЯН



ЭКСПЕРЫМЕНТ ГЕТМАНА АСТРОЖСКАГА

16+

Наша Гісторыя
1/2018
www.nn.by

№1-2018

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар** Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснік галоўнага рэдактара** Аляксандр Пашкевіч

**Дызайн і вёрстка** Уладзя Бурымская

**Дызайн вокладкі** Зміцер Герасімовіч

**Лагатып** Генадзь Мацур

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на два месяцы.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 24.07.2018.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова № 0706/18.
Наклад 5000 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

**Шаноўныя сябры!**

Вы трымаеце ў руках першы нумар новага часопіса, які мае назву «Наша гісторыя». З хваляваннем аддаючы часопіс на ваш суд, мусім сказаць некалькі слоў пра тыя прычыны, якія схілілі нас да таго, каб узяцца за яго выданне.

Беларуская гісторыя — вельмі багатая і насычаная, але працяглы час яна не мела магчымасці выйсці з цяні гісторыі суседніх народаў. Палітычная падпарадкаванасць беларускай нацыі цягнула за сабой і падпарадкаванасць культурную. Гэта суправаджалася, сярод іншага, навязваннем беларусам каланіяльнага погляду на ўласную гісторыю — як на нешта другаснае, падпарадкаванае, правінцыйнае, а таму малацікавае. Доўгі час існавала нават непасрэдная ці ўскосная забарона на вывучэнне пэўных тэмаў, разгляд якіх мог паставіць пад сумнеў тыя ці іншыя ідэалагічныя тэзісы. На такім ідэйным падмурку ўзгадаваліся многія пакаленні беларусаў.

Нацыянальнае адраджэнне прабіла мур і надало новы імпульс беларускім гістарычным даследаванням. Хоць умовы не заўсёды былі спрыяльнымі, за апошнія дзесяцігоддзі беларускім гісторыкам-навукоўцам усё ж такі ўдалося шмат зрабіць для таго, каб сфарміраваць погляд на нацыянальную гісторыю з уласнай перспектывы, не праз чужыя акуляры. Нягледзячы на многія аб'ектыўныя ды суб'ектыўныя перашкоды і супярэчнасці, гэта ўдалося зрабіць супольнымі намаганнямі як дзяржаўных акадэмічных структур, так і незалежных даследчыкаў. Дзеля таго сённяшні ўзровень развіцця айчыннай гістарычнай навукі не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што было 30 гадоў таму. Беларускім гісторыкам за гэты час удалося звязаць у адно арганічнае цэлае і трывала ўпісаць у нацыянальны кантэкст самыя розныя эпохі, у якіх больш за тысячу гадоў жылі і тварылі гісторыю нашы далёкія і блізкія продкі: перыяды старажытных княстваў, Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, знаходжанне беларускіх земляў у складзе Расійскай імперыі, савецкі і незалежны перыяды.

Нягледзячы на безумоўныя поспехі, дагэтуль у нас не вырашана базавая праблема — дасягненні беларускай навуковай гістарыяграфіі недастаткова ўплываюць на масавую гістарычную свядомасць беларускага грамадства. Галоўная прычына такога стану — на паверхні. Да сёння ў Беларусі слаба развіта сістэма папулярызацыі нацыянальнай гісторыі. Большасць беларусаў па-ранейшаму лепш арыентуецца ў гісторыі суседзяў, чым у сваёй уласнай. Існуе відавочны разрыў паміж тым, што сёння ведаюць пра гістарычны шлях свайго народа навукоўцы, і тым, што пра яго ведае грамадства. Збольшага чужымі вачамі большасць нашых суайчыннікаў сёння глядзіць і на гісторыю ды сучаснасць іншых народаў свету.

З гэтага і вынікае наша місія — пераадолець разрыў паміж навукай і масавымі ведамі.

Сярод нашых аўтараў — найлепшыя гісторыкі-навукоўцы, а пішуць яны пра розныя эпохі, герояў і ліхадзеяў. Галоўная ж для нас узнагарода — калі дзякуючы нашаму часопісу нашы людзі стануць больш ганарыцца сваёй краінай, сваімі продкамі, сабой і больш упэўнена глядзець у будучыню, абапіраючыся на досвед мінулага.

Рэдакцыя


14


10


30


26
Głosujcie tylko na LISTĘ
WSZYSCY ŻYDZI,
KOBIETY i MĘŻCZYŹNI,
GŁOSUJĄ
jak jeden mąż
NA LISTĘ
16




19




34




48


68


64


74


84


54




86

**Хто з валадароў Вялікага Княства Літоўскага быў самы паспяховы? Чыя гістарычная роля была самая значная для фарміравання той магутнай дзяржавы? Хто бачыў далей за іншых? Разважае рэдактар «Нашай Нівы» Андрэй Скурко.**

# Хто з вялікіх князёў быў **самы-самы?**



WIKIMEDIA COMMONS

Міхал Гадлеўскі. Ягайла. 1863 год.

## Міндоўг: паказаў як

Міндоўг быў, канечне, герой. Ён і ўсе яго сваякі-супернікі — Таўцівіл, Транята, Войшалк — нагадваюць еўрапейскіх варварскіх каралёў якога-небудзь V стагоддзя. Готы, вандалы, бургунды — от там і гісторыі з выкраданнем жонак, і сітуацыйныя хрышчэнні, і забойствы разамлелых пасля лазні канкурэнтаў. Гэта значыць, што ў XIII стагоддзі мы мелі семсот гадоў цывілізацыйнага адставання ад Захаду. Цяпер разрыў удалося скараціць у чатырнаццаць разоў. Ёсць падставы для аптымізму!

Чаго дамогся Міндоўг? Першаснай цэнтралізацыі ды іерархізацыі. Пасля Міндоўга пасланцы суседніх краін хоць бы разумелі, хто тут галоўны і з кім гаварыць. Параўнаем: у 1219 годзе на заключэнне міру з Галіцка-Валынскім княствам прыехала пяцьдзясят (!) літоўскіх правадыроў.

Калі б не арганізатарскія таленты Міндоўга, увогуле невядома, як склаўся б лёс нашага маляўнічага кутка Еўропы, у які не сунуліся нават манголы. Тое, што літва ім не скарылася, у адрозненне ад рускіх княстваў, заўжды ўздымала нацыянальны дух. Але будзем рэалістамі: манголы, якія заваявалі Кітай, запраста растаўклі б і нашы лясныя дружыны.Вось толькі — які сэнс? Прыбытку — нуль, славы — таксама. Полацкі князь некалі браў даніну з літвы хоць венікамі, а татары і ў лазні не парыліся... Праўда, залётныя атрады мангольскіх разведчыкаў і фуражыраў нашы продкі перамагалі. Калі, вядома, гэтыя народныя легенды — пра Батыевых, а не крымскіх татараў XVI стагоддзя.

Так, каб Міндоўг не задаў вектар далейшай цэнтралізацыі літоўска-беларускіх земляў і не паказаў, як гэта рабіць, па Дняпры ўжо ў XIV стагоддзі, магла б стаць, як у тым анекдоце,

нямецка-кітайская мяжа. Але забяспечыць пераемнасць улады яму не ўдалося. І наступнікі аж да Віценя пераадольвалі гэтую інерцыю, рэжучы горла адзін аднаму. Ад некаторых нават імёнаў не засталося.

## Віцень: аўтар «Пагоні»

Пра Віценя таксама няшмат вядома, але ён асоба значная. Заснавальнік дынастыі, якую, праўда, назвалі Гедымінавічамі ад імя яго сына. Магчыма, Віцень быў кампраміснай фігурай, накшталт цара Міхаіла Раманава ў Маскве, якая дапамагла спыніць міжусобную разню. Пра высокі аўтарытэт сведчыць і легенда, што Віценя забіў пярун. Такая смерць у нашых продкаў-паганцаў лічылася знакам асаблівай міласці багоў.

Яшчэ Віцень «ізмыслі сабе герб», цалкам еўрапейскі — і з тых часоў мы пад «Пагоняй».

## Гедымін: пакінуў велічныя руіны

Калі мы і маем магчымасць візуальна ўявіць веліч Вялікага Княства, дык толькі дзякуючы Гедыміну. Руіны замкаў рознай ступені захаванасці дасталі да нашых часоў у Лідзе і Крэве («Замкі Беларусі» ды іншыя дзяржаўныя і недзяржаўныя праграмы дазволілі паадналяць многае, што ляжала разбуранае).

Гедыміну прыпісваюць і заснаванне Вільні — акрэсленай сталіцы ВКЛ і цэнтра прыцягнення беларускіх і літоўскіх земляў на наступныя пяцьсот гадоў.

Пра Гедымінавічаў напісана ніжэй.

## Альгерд: дзед з дзідай

Гэты вялікі князь грэе сэрца патрыёта сваімі трыма паходамі на Маскву і рытуальным прыніжэннем усходняга суседа — прыхінаннем дзіды да маскоўскай брамы. (Памятаеце легенду пра кіеўскага князя Алега, які прыбіў шчыт да варотаў Царграда?) Гэта супраць Альгерда ў Маскве экстрана будавалі белакаменныя ўмацаванні. Хоць узяць Крэмль 70-гадовы вялікі князь ні разу не здолеў — адкупляліся. Зрэшты, сэнс вайны ў тыя часы такі і быў: каштоўнасці, палонныя, коні, сена, запасы харчоў на наступны сезон.



WIKIMEDIA COMMONS

Гісторыкі мяркуюць, што **Ягайла адпускаў бараду ў час аб'ездаў Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы, а ў Кракаве, — збрываў.** На фота: фрэска ў замкавай капліцы ў Любліне.

## Ягайла: Хрысціцель

А вось ён якраз падаецца самым недаацэненым вялікім князем літоўскім. «Хітры», «хцівы», «здрадлівы» — паўтараем мы следам за «Хронікай Быхаўца», аўтарам якой быў палітычна ангажаваны дзеяч XVI стагоддзя. Жартачкі: забіў дзядзьку Кейстута, зняволіў брата Вітаўта. Але тут ён проста першы паспеў. Такія факты — хутчэй правіла, чым выключэнне ў біяграфіі кіраўніка тых часоў. Вітаўту ж даў уцячы, а мог пасадзіць на ланцуг у жалезнай масцы на сорак год, як некаторыя прагрэсіўныя заходнія каралі.

Ці можна злічыць, колькі ў славянскіх дзяржавах людзей з імем Уладзімір? Колькі ў Нарвегіі Олаваў? А ці ёсць у Беларусі хоць адзін Ягайла? Тым часам ён такі самы Хрысціцель, як Уладзімір Кіеўскі ці нарвежскі кароль Олаў І. У 1386-м Ягайла ў загадным парадку зрабіў каталікамі апошніх паганцаў Еўропы — жыхароў сучасных паўночна-заходняй Беларусі і Літоўскай Рэспублікі.

Ягайла першы асмеліўся прызнацца сабе, што паганская краіна ў цэнтры Еўропы не мае перспектывы. Яна вораг усім. Што тычыцца прагрэсіўнасці мыслення і стратэгічнага бачання,

Ці можна вялікіх князёў лічыць беларускімі? Нехта кажа, што беларусаў у XIII–XV стагоддзях не было. Дык і літоўцаў не было, і эстонцаў, і фінаў. Нацыі з'явіліся ў XVIII–XIX стагоддзях. І «сваімі» яны могуць лічыць усіх дзеячаў, якія спрычыніліся да іх з'яўлення.

Ягайла падаецца на галаву вышэйшым за папярэднікаў і многіх нашчадкаў.

Гэтага якраз не хапала задушанаму па загадзе Ягайлы Кейстуту — смеламу рыцару і прынцыповаму паганцу. Быў бы хрысціянінам — абвясцілі б святым пакутнікам з такой біяграфіяй і цнотамі.

А як можна забыцца на Ягайлавы поспехі ў замежнай палітыцы? Крыжакі, якія на пачатку яго кіравання рабілі ў Жамойці тое ж, што Расія цяпер на Данбасе, былі разбітыя пад Грунвальдам, страцілі ўплыў і пры Ягайлавых унуках сталі васаламі ВКЛ. Польшча таксама перастала быць пагрозай, бо Польшчай зрабіўся сам Ягайла. З татарамі ён сябраваў і нават абяцаў узяць удзел у Кулікоўскай бітве на іх баку. Але прыйшоў пазней і абабраў пераможцаў.

І галоўную, паводле Генрыха VII Цюдора, справу караля Ягайла таксама зрабіў: пакінуў нашчадкаў. Ягелоны і вытворныя ад іх кіравалі ўсім рэгіёнам ад Швецыі да Венгрыі яшчэ тры стагоддзі. А Вітаўту не ўдалося даць сваё імя дынастыі.

## Вітаўт: ахвяра іроніі лёсу

От у гонар каго гатовыя называць дзяцей беларусы. Тым больш што хрысціянскае імя Вітаўта было Аляксандр.

Гэта самая раскручаная масавай культурай асоба яшчэ з часоў Вацлава Ластоўскага, аўтара народнай песні «Слаўся, князь Вітаўт, гаспадар на Літве». Вітаўт сёння — гэта і князь, ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Каралеўская пячатка Ягайлы 1389 года (копія).**




**Надгробак Ягайлы** 1432 года ў Кафедральным саборы ў Кракаве.

і шампанскае, і электробус. Неўзабаве, думаю, будуць і вуліцы яго імя.

Энергічны, жорсткі і прагматычны Вітаўт зрабіў рэвалюцыю ва ўнутранай палітыцы. Пры ім ВКЛ пачало набываць рысы моцнай цэнтралізаванай дзяржавы. Вітаўт першы наважыўся здымаць удзельных князёў-анархістаў, не пераймаючыся іх рэакцыяй, і мяняць на лаяльных стаўленнікаў. Асабліва шэдэўральна гэта было ў стратэгічна важным Смаленску: вялікі князь узяўся вырашыць спрэчку нашчадкаў, паклікаў іх да сябе і выслаў к чортавай мацеры, а ў горадзе пасадзіў вернага чалавека.

Але пасля смерці Вітаўта ў ВКЛ кіравалі нашчадкі Ягайлы. Нашчадкі Вітаўта — іронія лёсу — кіравалі Маскоўскім княствам, куды ён аддаў замуж адзіную дачку.

У Навагрудку праектуюць помнік Міндоўгу, у Лідзе — Гедыміну, у вёсцы Пеляса Воранаўскага раёна стаіць драўляны Вітаўт, у Полацку — бронзавы Андрэй Альгердавіч, у Віцебску — сам Альгерд, прычым конны.

## Жыгімонт Кейстутавіч: кіназорка

Жыгімонт Кейстутавіч зусім не раскручаны сёння, у адрозненне ад роднага брата Вітаўта. Але маскультурны патэнцыял ёсць і ў яго. Хоць цяжка назваць Жыгімонта паспяховым дзеячам — змрочны, маніякальны, недамоваздольны, мядзведзяў любіў больш за людзей. Яго ўрэшце забілі качаргой змоўшчыкі ва ўласнай гасцёўні. Але згадзіцеся: які персанаж для гістарычнага блокбастара! А сыграць Жыгімонта мог бы Юрый Жыгамонт.

Жыгімонт Першы быў апошнім вялікім князем, які не займаў адначасова і польскі трон. Далей Вялікім Княствам і Польшчай кіравалі адны і тыя ж манархі. Як яны размяркоўвалі сілы і сімпатыі — гэта ўжо зусім іншая гісторыя. ◆

**Канановіч, Уладзімір. Рыцар на полі бітвы: Клецк, жнівень 1506 года**: гісторыка-антрапалагічнае даследаванне. — Смаленск: Інбелкульт, 2017. — 410 с.

У кнізе рэканструюецца ход і характар бітвы пад Клецкам 1506 года, якая была адной з найбольш важных і знакамітых у вайсковай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага.
Гэтая падзея разглядаецца на фоне агульнага ваенна-палітычнага становішча ва Усходняй Еўропе на мяжы XV–XVI стагоддзяў.
Даследаванне праведзена з выкарыстаннем метаду гістарычнай антрапалогіі: адзін з яго раздзелаў уяўляе сабой палітычную біяграфію галоўнага героя бітвы пад Клецкам Міхаіла Глінскага, не абмінутыя таксама ўвагай і іншыя найбольш яркія палітычныя постаці тагачаснай дзяржавы Ягелонаў.
Акрамя таго, аналізуецца гісторыя стварэння памяці пра Клецкую бітву 1506 года: складванне вобразу бітвы і яе галоўнага героя ў свядомасці сучаснікаў і нашчадкаў, а таксама трансфармацыя гэтага вобразу на працягу стагоддзяў.
**Найпрасцейшы і найтаннейшы спосаб набыцця выдання — праз сайт arche.by.**



# Літвіны ці русіны?



ФОТА СЯРГЕЯ ЗІНІНА

## Кім былі продкі беларусаў

**Заблытацца ў нашых каранях прасцей, чым разабрацца. Апроч складанасці саміх гістарычных працэсаў, дакапацца да навуковай праўды перашкаджаюць уплывы разнастайных ідэалогій. Пытанні да мінулага між тым застаюцца. Як і калі з'явіліся беларусы? Ці праўда, што мы з расіянамі адзін народ? І чаму пры велічнай спадчыне мы так лёгка сталі самай савецкай з усіх савецкіх рэспублік? На ўсе пытанні адказвае кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч. Бярыце аловак, ужо можна пачынаць чарціць сабе тлумачальную схемку.**

**Кожны чалавек мае дзядуль, бабуль і больш аддаленых продкаў як па бацькоўскай, так і па мацярынскай лініі.** У сённяшнім урбанізаваным, змешаным грамадстве яны часта паходзяць з розных мясцін, а часам і належаць да розных народаў. Бывае і так, што этнічныя ці сацыяльныя групы, да якіх яны належаць, не вельмі ладзілі паміж сабой, а то і ставіліся адна да адной як бацькі Рамэа і Джульеты. Тым не менш усе яны — нашы продкі, і мы па магчымасці памятаем і шануем іх усіх. Здараюцца сітуацыі, калі чалавек ведае сваіх продкаў толькі па адной лініі. У мінулым такіх называлі байструкамі, і гэта было вельмі крыўднай мянушкай. У любым выпадку такая сітуацыя ўспрымаецца як непажаданая, як адхіленне ад нормы.

**Народы, ці па-навуковаму этнасы, з'яўляюцца на свет не так, як людзі.** Аднак працэс іх складання, які называецца этнагенезам, мае і пэўнае падабенства з нараджэннем і сталеннем чалавека. Як правіла, новы этнас паўстае ў выніку змяшэння двух ці болей старых этнасаў. Часта гэта адбываецца ў выніку міграцый, калі новае насельніцтва змешваецца з абарыгенным, мясцовым (субстратным). Незалежна ад таго, была міграцыя мірнай ці адбывалася ў форме заваёвы, рана ці позна паміж абедзвюма групамі пачынаецца збліжэнне: пераймаюцца моўныя і культурныя рысы, нараджаюцца дзеці ад змешаных шлюбаў. І калі такое змяшэнне заходзіць далёка, суседзям становіцца ўжо няёмка называць такія групы іх старымі імёнамі. Тады нараджаецца новы этнонім, азначаючы тым самым і ўзнікненне новага этнасу.

**Усё сказанае ў поўнай меры тычыцца і беларусаў. Іх сучаснае ►**

**Вячаслаў Насевіч** (нар. 1957) — кандыдат гістарычных навук, жыве ў Мінску. Адзін з найлепшых знаўцаў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, сацыяльнай гісторыі, мікрагісторыі. Асноўныя працы выдадзеныя пад адной вокладкай у зборніку «Беларусы: станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя» (Смаленск, 2015).

▶ **імя замацавалася параўнальна нядаўна, у другой палове XIX – пачатку XX стагоддзя**. Менавіта тады іх адрозненні ад суседніх народаў, вывучаныя і сістэматызаваныя этнографамі і мовазнаўцамі, сталі настолькі відавочнымі для ўсіх, што спатрэбілася адмысловая назва. Утварылася ж гэтае ўнікальнае спалучэнне прыкмет дзякуючы доўгаму працэсу інтэграцыі дзвюх продкавых груп, у мінулыя часы вядомых пад назвамі «літвіны» і «рускія» («русіны»). Праўда, ніводная з іх не была субстратам (асновай) для другой, іх змяшэнне адбылося дзякуючы шчыльнаму суіснаванню ў супольнай дзяржаве — Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім.

**Беларускую сітуацыю вельмі ўскладняе тая акалічнасць, што абедзве групы спрычыніліся і да ўзнікнення суседніх народаў**. Зліццё літвінаў з жамойтамі ў межах таго ж Вялікага Княства прывяло да фармавання сучасных літоўцаў. Этнічная група, якую крыніцы абазначаюць імем «літва», ужо з XIII стагоддзя была змешанай. Прытым продкавых кампанентаў у яе было ажно тры: субстратнае насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі і дзве прышлыя групы — балцкая (аўкштайты) і славянская (дрыгавічы і крывічы), якія шчыльна змяшаліся з тубыльцамі і паміж сабой. Прытым гутарковая мова літвінаў была запазычана ў асноўным ад балцкага кампанента, а вось мова пісьменнасці, на якой ствараліся дакументы ВКЛ, — ад славянскага. Што да рускіх-русінаў, то продкамі беларусаў стала толькі частка гэтай супольнасці, якая і ў складзе ВКЛ захоўвала назву «русь». Іншыя часткі ўліліся ў склад сучасных рускіх і ўкраінцаў.

**Сёння толькі гісторыкі памятаюць, што за карэнным этнасам Расіі імя «рускія» канчаткова замацавалася ажно ў XVIII стагоддзі**. Раней суседзі для вызначэння гэтай этнічнай групы ўжывалі назвы «маскавіты», «масквічы», часам — «маскалі». Нават назва «Рускае царства», афіцыйна прынятая ў якасці дзяржаўнай у сярэдзіне XVI стагоддзя, прыжывалася слаба. Навокал прынята было называць гэтую дзяржаву «Масковіяй». Такую назву можна пабачыць і на многіх старых картах.

**Пры гэтым сучасныя рускія маюць сярод продкаў не толькі рускіх-маскавітаў**. Другая па значнасці група — жыхары Наўгародскай зямлі, якія пры Іване Жахлівым «масквічамі» ні ў якім разе не лічыліся. Наўгародцы мелі ў сваім складзе іншы, неўласцівы маскавітам продкавы кампанент — субстратнае фінскамоўнае насельніцтва, ды і дзяржава ў іх з XII да XVI стагоддзя, да ўчыненага Іванам Грозным пагрому, была свая, самастойная.

**Што тычыцца «маскоўскіх» і «літоўскіх» рускіх, то супадзенне іх назваў не выпадковае.** Яны мелі агульных продкаў па дзвюх лініях. З аднаго боку, гэта славяне (блізкародныя крывічы, дрыгавічы, радзімічы і вяцічы), якія жылі ў Старажытнай Русі — дзяржаўным утварэнні з цэнтрам у Кіеве. З другога боку, іх агульныя продкі — субстратнае, карэннае, насельніцтва Падняпроўя, Падзвіння і Паволжа, якое на падставе лінгвістычных меркаванняў часта вызначаюць як «дняпроўскіх балтаў». Гэтая назва няўдалая, бо, па-першае, насялялі яны не толькі берагі Дняпра.

## Няважна, Русь акультурыла Літву ці Літва заваявала Русь. Важна, што нашымі продкамі былі і тыя, і другія

А па-другое, з сапраўднымі балтамі — цяперашнімі латышамі і літоўцамі — агульных продкавых кампанентаў у іх амаль няма. Хіба што ў літвінаў-аўкштайтаў і дрыгавічоў агульным продкам былі носьбіты культуры штрыхаванай керамікі, а ў латгалаў (адной з этнічных груп латышоў) і крывічоў агульным субстратам былі носьбіты днепра-дзвінскай археалагічнай культуры. Да ўсяго, тлумачэнне мясцовай гідраніміі (перанятых славянамі назваў рэк і азёр) праз аналогіі ў балцкіх мовах не заўжды бясспрэчнае. Мноства назваў мае не менш пераканаўчыя аналогіі ў фінскіх мовах. Найбольш імаверна, што абарыгенныя мовы належалі да самастойнай, ужо цалкам зніклай моўнай групы.

**Была ў XIV—XVII стагоддзі і яшчэ адна этнічная група з імем рускіх ці русінаў — жыхары Галіччыны, заходняй Валыні і Закарпацця**. Сваё імя яны атрымалі ад таго ж продкавага кампанента — Русі. Прытым яны не мелі кампанентаў субстратнага кшталту, бо былі карэннымі жыхарамі сваёй зямлі — прынамсі, з пачатку V стагоддзя, калі менавіта там адбылося ўтварэнне славянскага этнічнага масіву. Пазнейшыя ж асаблівасці набываліся праз кантакты з этнасамі тых дзяржаў, у якія згаданыя русіны ўваходзілі. Галіцкія і заходневалынскія русіны існавалі ў складзе Польскага Каралеўства. Закарпацкія русіны былі падданымі Венгрыі, а затым Трансільваніі.

**Пазней менавіта гэтая частка рускіх стала адным з продкавых кампанентаў украінцаў**. Другім кампанентам было насельніцтва, якое ўтварылася практычна нанова на працягу XV—XVII стагоддзяў у працэсе міграцый у лесастэпавы абшар сярэдняга Падняпроўя, раней малалюдны з-за пагрозы татарскіх набегаў. Гэтае насельніцтва паходзіла з розных частак Русі, і не толькі з яе. Яго адметнасць была відавочнай ад самага пачатку, і таму вызначалі тамтэйшых жыхароў звычайна як казакаў, часам «чаркасаў», а іх зямлю — як «ускраіну». Адсюль паходзіць і назва сучаснай Украіны.

**У Савецкім Саюзе ідэалагічнай мэтай было зліццё этнічных адметнасцей і ўтварэнне адзінага «савецкага народа».** Але ствараўся ён на падставе выключна рускага этнічнага кампанента. Таму ў народаў, якія гэтага кампанента не мелі ўвогуле, савецкая ідэнтычнасць была вельмі хісткай. Яе можна было лёгка абрынуць адной фразай, як адбылося ў дзяцінстве з адным маім знаёмым казахам. Ён неяк глядзеў мультфільм, у якім Ілья Мурамец сек у капусту карыкатурна пачварных, касавокіх

ворагаў. Якім жа быў ягоны шок, калі маці раптам сказала: «А гэта нашы продкі!»

**Беларусы зусім не выпадкова сталі самым «саветызаваным» народам.** Для гэтага меліся важкія аб'ектыўныя прычыны: той «рускі» продкавы кампанент, на які рабіўся і дагэтуль робіцца акцэнт у ідэнтычнасці рускіх, сапраўды супольны ў іх з беларусамі.

## Нашымі продкамі былі і літвіны, і русіны. Беларусы ўзніклі ў выніку іх доўгай інтэграцыі

Пры гэтым літвінскі кампанент у этнагенезе беларусаў савецкая ідэалогія ігнаравала. Таму ўжо ў незалежнай Беларусі натуральнай рэакцыяй стала з'яўленне ў пэўных колах ідэалогіі «літвінізму». Бяда толькі ў тым, што новая ідэалогія не адмаўляецца ад «байструкоўства», а толькі мяняе ягоны змест: акцэнтаванне літвінскага кампанента адбываецца за кошт ігнаравання рускага.

**Гэта бяда не толькі беларусаў: стаўленне сучасных народаў да продкавых этнічных груп пераважна застаецца «байструкоўскім».** Акцэнтуецца сувязь толькі з адной лініяй продкаў, а астатнія ігнаруюцца ці, прынамсі, знаходзяцца на перыферыі ўвагі. На гэтым грунтуюцца і афіцыйная ідэалогія, і пабытавыя ўяўленні. Прытым тычыцца гэта не толькі народаў былога Савецкага Саюза. Для сучасных венграў і румын, напрыклад, не характэрна засяроджвацца на славянскім продкавым кампаненце. У балгар жа ён якраз акцэнтуецца, у той час як цюркскі, уласна балгарскі ў першапачатковым сэнсе, адыходзіць у цень (у ідэалогіі Асманскай імперыі, куды доўгі час уваходзілі балгарскія землі, было якраз наадварот).

**Для нас наспеў час прызнаць і ўшанаваць усе лініі нашых продкаў — не зважаючы на тое, якія гістарычныя калізіі існавалі між імі ў мінулым.** З гэтага пункту гледжання бессэнсоўна спрачацца, якім чынам утварылася Вялікае Княства. Няважна, ці гэтую дзяржаву стварылі нашы рускія продкі праз скарэнне літвінаў (альбо праз акультурванне — у больш мяккай версіі), ці наадварот — нашы літвінскія продкі праз заваяванне Русі. Калі памятаць, што нашымі продкамі былі і тыя, і другія, усё можа выглядаць крыху інакш. ◆

**Латышонак, Алег. Нацыянальнасьць — Беларус** / Навук. рэд. Аляксандр Пашкевіч. — 3-е выд., папраўленае і дапоўненае. — Смаленск: Інбелкульт, 2017. — 720 с.

У кнізе беларускага гісторыка з Беластока сабраныя пад адной вокладкай асноўныя напісаныя ім творы, датычныя розных пытанняў беларускай гісторыі ад сівой старажытнасці і амаль да нашых дзён. Большую частку аб'ёму кнігі займае фундаментальная праца «Ад белых русінаў да беларусаў: ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі», якая была габілітацыйнай працай аўтара, выйшла друкам па-польску ў 2007 годзе і перадрукоўваецца па-беларуску ў гэтым выданні. Рэшту кнігі склалі разнастайныя паводле аб'ёму і жанру артыкулы, прысвечаныя нарманскаму фактару ў старажытнай гісторыі Беларусі, асобным аспектам беларускай гісторыі падчас яе знаходжання ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, зараджэнню ўсвядомленай беларускай ідэі ў XIX стагоддзі, некаторым праблемам яе далейшага развіцця і г. д.




**Улашчык, Мікалай. Збор твораў у 3-х тамах. Том 1: Працы па археаграфіі і крыніцазнаўству** / Пад рэд. Д. Віцько, Д. Столяра, М. Гальпяровіча; прадм. А. Каўкі; падагульн. рэд. Д. Віцько. — Смаленск: Інбелкульт, 2017. — 1360 с.




Першы том збору твораў вядомага беларускага гісторыка ўключае ў сябе крыніцазнаўчыя і археаграфічныя даследаванні, г. зн. манаграфіі «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» і «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання», артыкулы, рэцэнзіі і прадмовы да розных публікацый на адпаведную тэматыку, а таксама два пасмяротныя выданні, якія планаваліся як трэцяя і чацвёртая кнігі гэтай тэматычнай серыі: «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі дасавецкага перыяду: частка другая» і «Мемуары і дзённікі як крыніцы па гісторыі Беларусі».

**Найпрацейшы і найтаннейшы спосаб набыцця гэтых і іншых выданняў — праз сайт arche.by.**

**Лазня па выхадных, сківіца, што выпадае, ды іншыя дэталі асабістага жыцця**


НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ У КРАКАВЕ

# Сорак гадоў барацьбы — дваццаць два месяцы ўлады: лёс вялікага князя Свідрыгайлы

**Ці лёгка напісаць біяграфію сярэднявечнага князя і пра што ў ёй пойдзе гаворка? Бітвы, рэформы, інтрыгі? Самае цяжкае — разгледзець за сведчаннямі крыніц, часам скупымі, жывога чалавека з яго характарам. Пра малавядомыя факты з жыцця аднаго з самых загадкавых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага піша кандыдат гістарычных навук Сяргей Палехаў.**

Нашы веды пра людзей Сярэднявечча рэдка грунтуюцца на іх уласных выказваннях пра сябе. Асабліва ва Усходняй Еўропе, дзе наратыўныя крыніцы — летапісы, хронікі, аналы — пераважаюць над дакументальнымі, а паведамленні летапісаў моцна залежаць ад інтарэсаў заказчыкаў і густу летапісцаў.

Так склаўся, напрыклад, пазітыўны вобраз Вітаўта. А вось яго шматгадоваму суперніку — Свідрыгайлу — пашанцавала менш. І Длугаш, і ананімны смаленскі летапісец, а пасля Мацей Стрыйкоўскі і Альберт Віюк-Каяловіч стварылі вобраз легкадумнага, вераломнага і жорсткага князя, а да таго ж п'яніцы, які мае схільнасць да «рускай веры і народу».

Імідж сыграў з князем злы жарт: калі багатую эпісталярную спадчыну Вітаўта выдалі яшчэ ў канцы пазамінулага стагоддзя, то не менш багатая перапіска Свідрыгайлы, без якой немагчыма характарызаваць гэтага князя, дасюль слаба ўведзена ў навуковы абарот. Навошта марнаваць сілы на такога непрывабнага персанажа?

Абапірацца на меркаванні сучаснікаў у ацэнцы сярэднявечных дзеячаў таксама небяспечна. Сучаснікі жылі ў свеце чутак і нярэдка рабілі высновы на падставе іх. Яскравы прыклад — нямецкі храніст Эберхард Віндэке, які пісаў пра жаніцьбу Свідрыгайлы з кіпрскай прынцэсай і яго ўдзел у бітве з туркамі, хоць такога ніколі не было.

### Любімы сын Альгерда?

Ёсць вялікая спакуса ацэньваць дзеянні той ці іншай асобы з пункту гледжання сучаснай псіхалогіі, але чалавечы светапогляд з часоў Сярэднявечча моцна змяніўся. Сярэднявечныя кіраўнікі дзейнічалі ва ўмовах абмежаванасці рэсурсаў, а дзяржава адрознівалася ад таго, што мы прывыклі называць гэтым словам цяпер: раней многае будавалася на асабістых сувязях, а фармаванне шматлікіх дзяржаўных інстытутаў толькі пачыналася.

## Прасіў у папы дазволу па выхадных хадзіць у лазню

Свідрыгайла, які нарадзіўся паміж 1369 і 1376, быў малодшым сынам вялікага князя Альгерда. Амаль праз паўстагоддзя, спрабуючы абгрунтаваць свае правы на пасад, ён сцвярджаў, быццам бацька, паміраючы, распарадзіўся: Свідрыгайла стане вялікім князем, калі Альгердаў спадчыннік Ягайла будзе каралём у іншай дзяржаве.

**Пячатка Свідрыгайлы 1420 года.** Нацыянальны архіў у Кракаве. Адна з нешматлікіх прыжыццёвых выяў князя, аўтар якой дакладна бачыў Свідрыгайлу на свае вочы. За жыццё Свідрыгайла змяніў не менш за шэсць пячатак, але гэта адзіная з кірылічным надпісам.

Мы не ведаем, якое распараджэнне насамрэч аддаў Альгерд перад смерцю, але многае паказвае на тое, што ў крытычны момант Свідрыгайла спрабаваў маніпуляваць пачуццямі свайго даўно памерлага бацькі да малодшага сына.

### Праваслаўны памылкова

Вядома, што Свідрыгайла правёў дзяцінства і юнацтва ў Віцебску пад наглядам маці Ульяны, дачкі цвярскога князя Аляксандра Міхайлавіча, і старэйшага брата Ягайлы. Ён дакладна зведаў уплыў рускай культуры, але ўплыў гэты не варта пераацэньваць: Свідрыгайла насіў літоўскае, паганскае імя — у адрозненне ад сыноў Альгерда ад першага шлюбу, якія вядомыя выключна пад хрысціянскімі імёнамі (Андрэй, Фёдар, Уладзімір, Дзмітрый).

Меркаванне, быццам ён быў ахрышчаны ў праваслаўе пад імем Леў, памылковае: выдаўцы адной позняй крыніцы проста не паставілі коску паміж імёнамі князёў Льва Данілавіча і Свідрыгайлы... Затое вядома, што Свідрыгайла быў ахрышчаны ў каталіцтва пад імем Баляслаў і заставаўся набожным каталіком. Ён не раз звяртаўся да папы рымскага па пытаннях асабістай пабожнасці (напрыклад, прасіў дазволу хадзіць у лазню па святах і выхадных — бо лічылася, што лазня вядзе да граху). Вёў перамовы аб уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў і нават — нечуваная справа! — загадаў спаліць мітрапаліта ўсяе Русі Герасіма за кантакты са сваім супернікам Жыгімонтам Кейстутавічам.




**Свідрыгайла? Людовік Венгерскі? Уяўны кіраўнік?**
Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні (1581). Гэты партрэт Свідрыгайлы надзвычай папулярны ў эпоху інтэрнэту, аднак дастаткова ўважліва пагартаць выданне, каб пераканацца, што тое ж клішэ, толькі без рамкі, было выкарыстана на некалькі старонак раней для выявы польскага і венгерскага караля Людовіка Анжуйскага, які, па словах аўтара, нічым асаблівым не праславіўся...

### Барацьба за вотчыну

Гэтымі трыма словамі можна апісаць жыццё Свідрыгайлы. З цягам часу Свідрыгайла разумеў вотчыну ўсё шырэй: ад Віцебска да Вялікага Княства Літоўскага. Пры гэтым ён шукаў падтрымкі ў суседзяў, «прыяцеляў» і сваякоў — у венгерскага караля, у Тэўтонскага ордэна, у мазавецкіх князёў, у аўстрыйскага герцага, у вялікага князя маскоўскага і нават у татарскага хана...

Адносіны з жыхарамі ВКЛ складваліся не так прадуктыўна. Нават найбуйнейшы яго поспех — уцёкі са зняволення ў Крамянцы і захоп Луцка — скончыўся бяздарна. Вітаўт затачыў Свідрыгайлу ў Крамянцы ў 1409 годзе за кантакты з Тэўтонскім ордэнам напярэдадні Грунвальдскай бітвы. Князь прасядзеў дзевяць гадоў, вызвалілі яго паплечнікі толькі ў 1418-м. Вызваліцелямі аказаліся князь Аляксандр Нос, праўнук князя Нарымонта, які яшчэ цешыў сябе спадзяваннямі на Пінск, і Дашка Астрожскі. Яны дапамаглі Свідрыгайлу ўцячы ў Луцк, але нешта пайшло не так. Урэшце князю прыйшлося ўцякаць праз Малдавію да Жыгімонта Люксембургскага і шукаць саюзнікаў за межамі ВКЛ.

Перыяды барацьбы за ўладу з братамі Вітаўтам і Ягайлам змяняліся прымірэннем. Свідрыгайла паспеў пакіраваць на Падоллі і ў чарнігава-северскіх землях. Гэтым ён быў абавязаны заступніцтву роднага брата Ягайлы, тады як Вітаўт некалькі разоў гатовы быў расправіцца з мяцежным стрыечным братам.

Усё змянілася, калі Вітаўт захварэў і памёр. Свідрыгайла заняў пасад насуперак пагадненням з Польшчай, пры падтрымцы шляхты ВКЛ. ▶

### 5 гарадоў Беларусі, звязаных з князем Свідрыгайлам

**Віцебск**. Тут Свідрыгайла выхоўваўся пасля смерці бацькі, тут жа ён у 1393 годзе, неўзабаве пасля смерці маці, падняў паўстанне, забіўшы Ягайлавага намесніка Фёдара Вясну. У выніку горад узялі Вітаўт і Скіргайла, а Свідрыгайла быў адпраўлены ў ганаровае зняволенне на каралеўскі двор у Кракаў.

**Ашмяны** двойчы сыгралі фатальную ролю ў лёсе малодшага Альгердавіча. У ноч з 31 жніўня на 1 верасня 1432 года тут па дарозе на сустрэчу з польскім каралём на яго напалі змоўшчыкі, але яму ўдалося ўцячы і выступіць у паход у Літву. Паход скончыўся паразай у Ашмянскай бітве 8 снежня таго ж года.

**Полацк**. Сюды Свідрыгайла ўцёк у верасні 1432-га з купкай прыхільнікаў на 14 конях пасля нападу змоўшчыкаў у Ашмянах. Палачане прынялі яго як належыць — і неўзабаве выгнаны гаспадар стаў збіраць у Полацку войскі для паходу на Літву, а ў пасольства да лівонскага магістра з просьбай пра дапамогу ездзіў полацкі баярын Леанід Патрыкеевіч. Сюды ж Свідрыгайла вярнуўся пасля ганебнай паразы ў Ашмянах.

**Мсціслаў**. Сюды Свідрыгайла накіраваўся восенню 1433-га пасля няўдалага паходу ў Літву. Але надоўга ён тут не затрымаўся, бо абаронай горада заняўся ўцякач з Жыгімонтавага палону мсціслаўскі «отчыч» Юрый Лугвенавіч. Абарона была такой паспяховай, што Жыгімонт прастаяў пад горадам некалькі тыдняў і сышоў ні з чым. Свідрыгайла ж з'ехаў у Кіеў.

**Валожын**. Адсюль Свідрыгайла 16 снежня 1431 года пісаў вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна Паўлю фон Русдорфу, што Свідрыгайлу з ім не разлучыць нават увесь свет (паведамляючы пра перамовы з палякамі). Здавалася б, дробязь, але якая характэрная — у ёй, як у кроплі вады, адбілася ўся палітыка Свідрыгайлы!

▶ Тая, на хвалі «каранацыйнай буры», бачыла ў Свідрыгайлу кіраўніка, здольнага адстойваць самастойнасць іх краіны гэтак жа годна, як Вітаўт. Аднак хутка наступіла расчараванне.

### Дробязнасць і пракрастынацыя

Такое ўражанне, што Свідрыгайла не вельмі разумеў, што рабіць з уладай, якая нарэшце ўпала яму ў рукі. Ён спрабаваў дзейнічаць па-старому, абапіраючыся на даўнія сувязі, зацягваючы і адкладаючы абмеркаванне наспелых пытанняў...

З Польшчай за некалькі месяцаў справа дайшла да вайны. Пры гэтым Свідрыгайла раз за разам адпрэчваў умовы прымірэння, якія прапаноўвала Польшча, і выяўляў дэманстратыўны недавер, згадваючы пра вераломства Ягайлы паўвекавой даўніны: тады Кейстут, што прыехаў для перамоў, быў зняволены ў Крэўскім замку, дзе пасля і памёр (або быў забіты).

Ён па-ранейшаму шукаў падтрымкі ў суседзяў, нярэдка абапіраючыся на тых жа людзей, што і ў часы барацьбы за ўладу. Пасля заняцця пасады ён пісаў Жыгімонту Люксембургскаму, што не забудзе «хлеб, з'едзены ў вашай літасці», а кантакты з Ордэнам ён выбудоўваў праз «старога маршала», а цяпер фогта Братыяна — Генрыха Хольта, з якім быў знаёмы яшчэ падчас уцёкаў у Прусію трыццаць гадоў таму.

**Магістр Тэўтонскага ордэна ў якасці суцяшальнага падарунка даслаў Свідрыгайлу арбалет, пасля чаго перастаў адказваць на лісты**

Цяжка ўявіць сабе Вітаўта, які пісаў бы ў Ордэн, што іх не разлучыць нішто на свеце. Дый вайна з Польшчай, нягледзячы на ўсе напружаныя моманты, пры Вітаўце не разгарэлася і ўласнае асяроддзе не спрабавала скінуць яго.

Тэарэтычна, Свідрыгайла змог бы прадухіліць падпарадкаванне ВКЛ


ФОТА СЯРГЕЯ ПАЛЕХАВА

**Даверчая грамата Свідрыгайлы паслу ў Прусію, 1438 год.** Сакрэтны дзяржаўны архіў Прускай культурнай спадчыны, Берлін. За скупымі радкамі і ўрачыстым тытулам «вялікага князя літоўскага і рускага» стаіць трагедыя чалавека, які змагаўся за ўладу амаль чатыры дзесяцігоддзі, атрымаў яе воляю лёсу і ўсё страціў за некалькі гадоў.

Польшчы. Аднак для гэтага трэба было мець стратэгічны план, якога якраз і не было. Гэта вельмі хутка зразумела асяроддзе. Свідрыгайла зацягваў пагадненне з Польшчай, што пагражала вайной. Вялікі князь, які дамагаўся трону амаль сорак гадоў, прасядзеў на ім толькі «два гады без двух месяцаў» (па словах летапісца): змоўшчыкі ўзвялі на трон Жыгімонта Кейстутавіча, брата Вітаўта. У ім яны бачылі больш згаворлівага і прадказальнага кіраўніка.

Змоўшчыкам, аднак, не ўдалося арыштаваць Свідрыгайлу, ён уцёк у Полацк. Так пачалася вайна, якая будзе доўжыцца шэсць гадоў.

Раней гісторыкі бачылі мудрагелісты разлік рускай шляхты ў тым, што яна падтрымала Свідрыгайлу пасля звяржэння. Маўляў, змагалася з літоўскай шляхтай за ўплыў на дзяржаву. Аднак аналіз кар'ер рускіх вяльможаў пры велікакняскім двары не пацвердзіў гэтай версіі. Няма нічога незвычайнага ў тым, што Русь падтрымала Свідрыгайлу: ён заставаўся для яе легітымным кіраўніком. Куды больш здзіўляе, з якой настойлівасцю змоўшчыкі падтрымлівалі Жыгімонта Кейстутавіча нават на краі катастрофы (напрыклад, падчас Свідрыгайлавых паходаў на Літву ў 1432 і 1433 гадах).

### Спаліў мітрапаліта

Чаму ж у вайне перамог Жыгімонт Кейстутавіч, які доўгі час заставаўся даволі безаблічным, а потым заслужыў характарыстыку «вельмі дзіўнага гаспадара» (калі да яго прыбывалі паслы Тэўтонскага ордэна, выпускаў палонных лівонцаў, як толькі ад'язджалі — зноў закоўваў у кайданы)? За гэты час Жыгімонт многаму навучыўся, хоць яшчэ ў першы год вайны яго лічылі жорсткім вар'ятам (казалі, нібыта ён звар'яцеў ад страху перад наступам Свідрыгайлы), у той час як Свідрыгайла ў 1432–1433 гадах дзейнічаў удала і слаў пераможныя рэляцыі вялікаму магістру Тэўтонскага ордэна Паўлю фон Русдорфу і польскаму каралю Уладзіславу Ягайлу.

Але Ягайла адмаўляўся прымірыцца са Свідрыгайлам на яго ўмовах (вяртанне княскага пасаду). Русдорф спрабаваў лавіраваць, але пасля некалькіх ваенных няўдач заключыў «вечны мір» з Польшчай і Жыгімонтам, а Свідрыгайлу ў якасці суцяшальнага дару даслаў арбалет, пасля чаго перастаў адказваць на яго пасланні.

Свідрыгайла сам адштурхнуў частку сваіх прыхільнікаў непапулярнымі мерамі. З незразумелых прычын ён загадаў пакараць смерцю таленавітага і вопытнага палкаводца, кіеўскага ваяводу Міхаіла Гальшанскага, які вось толькі што разбіў Жыгімонтава войска. Праз два гады той жа лёс чакаў мітрапаліта Герасіма. Герасіма спалілі, абвінаваціўшы ў здрадзе: ён удзельнічаў у змове супраць Свідрыгайлы. Мэтай было перадаць Жыгімонту Свідрыгайлавы ўладанні, а самога яго забіць. Абвінавачанне не было беспадстаўным. Свідрыгайла сцвярджаў, што перахапіў «пераветныя граматы»,

і мне ўдалося знайсці адну з іх — яна прысвечана прызнанню царкоўнай улады Герасіма над уладаннямі Жыгімонта.

Падтрымка Свідрыгайлы падавалася ўсё менш перспектыўнай, асабліва пасля разгрому яго войскаў у Вількамірскай бітве (1435) і правалу пагаднення з Польшчай, якое магло б забяспечыць яму спакойную і нябедную старасць як кіраўніку Кіеўшчыны, Валыні і ўсходняга Падолля.

У Кёнігсбергскім архіве (знаходзіцца ў Берліне) захавалася даверчая грамата Свідрыгайлы, выдадзеная яго паслу ў Прусію Мікалаю Рагалю Падкраеўскаму ў кароннымі Пярэмышлі 6 снежня 1438 года. За скупымі радкамі і асыпанай пячаткай стаіць трагедыя: князь, які ўсё жыццё змагаўся за вотчыну, дамогся яе і страціў, але па-ранейшаму называў сябе «вялікім князем літоўскім і рускім». У грамаце ён звяртаецца да вярхоўнага маршала Тэўтонскага ордэна, нават не ведаючы яго імя, застаўшыся без уладанняў, без грошай і без былых прыхільнікаў — напэўна, у разліку на дапамогу, якой ужо не дачакаецца...

### Сківіца выпадае, жонка ў палоне

Не варта забывацца: у час усіх гэтых падзей і Свідрыгайла, і Жыгімонт Кейстутавіч, і Ягайла былі вельмі немаладымі людзьмі, якія мелі сур'ёзныя праблемы са здароўем. Сучаснікі адкрыта казалі пра тое, што кароль Ягайла аслеп і стаіць адной нагой у магіле. Знакаміты саркафаг, які сёння можна ўбачыць на Вавелі ў Кракаве, быў амаль гатовы да сярэдзіны 1430 года. А Свідрыгайла ў 1433-м даверліва пісаў венцаноснаму брату, што ў яго «выпадае сківіца» (на думку лекараў, гаворка ідзе пра падвывіхі).

Прытым у Свідрыгайлы, у адрозненне ад яго братоў — роднага і стрыечнага, — па-ранейшаму не было нашчадкаў мужчынскага полу: адзіны сын, пра якога нешта вядома, памёр неўзабаве пасля нараджэння, а жонка Ганна (Соф'я), стрыечная сястра цвярскога князя Барыса Аляксандравіча, доўгія гады правяла ў палоне ў Жыгімонта Кейстутавіча.

### Апошні шанец

Здавалася б, удача зноў усміхнулася Свідрыгайлу пасля забойства Жыгімонта Кейстутавіча. Відаць, гэта адбылося не без ведама старога вялікага князя, бо сярод забойцаў быў яго прыхільнік, князь Іван Чартарыйскі. Аднак паны каронная Русі схілілі Свідрыгайлу да адмовы ад прэтэнзій на трон у абмен на ўладанні пад Львовам.

Нягледзячы на ўсе перыпетыі, у Свідрыгайлы заставаліся прыхільнікі. Калі малады кіраўнік дзяржавы Казімір Ягелончык ды літоўскія князі і паны, якія кіравалі ад Казіміравага імя, паспрабавалі зацвердзіць ягоную ўладу на Валыні, знайшліся незадаволеныя. Якраз яны — валынскія князі і баяры — запрасілі Свідрыгайлу княжыць у Луцк вясной 1442-га. Той пачаў зацвярджаць там свае пазіцыі, шчодра раздаючы землі і прывілеі. Луцкае княства, хоць і ўваходзіла ў ВКЛ, было вельмі самастойным, і нават вялікі князь не мог паўплываць на рашэнні тамтэйшай знаці.

Праз год стары князь прымірыўся з маладым каралевічам. Нам застаецца толькі здагадвацца, што адчуваў Свідрыгайла, сустракаючы пры двары Казіміра тых самых князёў і баяраў, якія некалі звяргалі яго з пасаду, а потым верай і праўдай служылі яго заклятаму ворагу Жыгімонту. Як бы там ні было, Свідрыгайла нарэшце змог пасля доўгага расстання ўбачыцца з жонкай, а Казімір — заручыцца падтрымкай дзядзькі, неабходнай для таго, каб Луцкая зямля пасля ягонай смерці апынулася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, а не Польскага каралеўства.

Задумка ўдалася: пасля Свідрыгайлавай смерці 10 лютага 1452 года Луцкая зямля яшчэ больш за стагоддзе заставалася ў складзе Вялікага Княства Літоўскага (пакуль не перайшла ў склад Польшчы), а стары князь, які за два дзесяцігоддзі да таго займаў віленскі пасад, спачыў у кафедральным саборы ў Вільні, побач з Вітаўтам, Жыгімонтам Кейстутавічам і яго сынам Міхаілам (Міхайлушкам). Былыя супернікі і заклятыя ворагі пасля смерці аб'ядналіся ў пантэоне кіраўнікоў, каб увасабляць ідэю літоўскай дзяржаўнасці. ◆

### Трагічны лёс жонкі Свідрыгайлы

Ганна з сям'і цвярскіх князёў выйшла замуж за Свідрыгайлу ў 1431 годзе даволі юнай. Верагодна, пасля шлюбу яна перахрысцілася ў каталіцызм, паколькі ў лацінскіх крыніцах згадваецца пад імем Соф'я. Яе лёс склаўся трагічна: калі змоўшчыкі ў ноч з 31 жніўня на 1 верасня 1432 года напалі на Свідрыгайлу ў Ашмянах, ёй, цяжарнай, не ўдалося вырвацца з іх рук, у адрозненне ад мужа, што ўцёк у Полацк. Неўзабаве, падчас свайго першага паходу на Літву, ён спрабаваў вызваліць жонку, якая толькі што нарадзіла першынца. Яму дапамагаў князь Яраслаў — брат Ганны, які княжыў у Гарадзецкім удзеле, найбольш высунутым да заходніх межаў Цвярской зямлі (цяпер яго цэнтр мае іншую назву — горад Старыца) . Але ўсё было дарэмна. Убачыцца з жонкай Свідрыгайлу ўдалося толькі ў 1443 годзе, калі ён прымірыўся з Казімірам. Неўзабаве Ганна-Соф'я атрымала Давыд-Гарадок. Яна перажыла мужа прыкладна на два дзесяцігоддзі.




**Падобны арбалет вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Паўль фон Русдорф даслаў Свідрыгайлу як знак прыхільнасці** ў канцы 1437 года, пасля чаго абарваў усе кантакты.
Малюнак з «Кнігі прыроды» Конрада фон Мегенберга, спіс каля 1442–1448 гадоў. Бібліятэка Гейдэльбергскага ўніверсітэта.

# Мінай Шмыроў:



## «Я не змог зберагчы дзяцей, і гэтая думка мяне страшна мучыць»

**Як і любая гісторыя, якая з часам ператварылася ў штосьці сярэдняе паміж легендай і агіткай, гісторыя Міная Шмырова поўная белых плямаў і супярэчлівых момантаў. Бясспрэчная ў ёй толькі страшная трагедыя — смерць ад рук нацыстаў чацвярых дзяцей партызанскага камандзіра, піша Уладзь Швядовіч.**

Мінай Філіпавіч Шмыроў нарадзіўся ў сям'і стараабрадцаў 11 снежня 1891 года. Сям'я была вялікай — аж 13 чалавек.

З афіцыйнай біяграфіі Міная Шмырова:

«Бацькі, Філіп Сямёнавіч і Алена Пятроўна, былыя прыгонныя сяляне. На вялікую сям'ю прыпадала толькі 5 гектараў зямлі, і, каб не памерці з голаду, усе члены сям'і вымушаны былі ад цямна да цямна працаваць на панскіх і кулацкіх нівах за кавалак хлеба. З шасці гадоў Мінай пайшоў у батракі».

Як расказваў пасля Мінай, хлеба са сваёй зямлі хапала толькі на некалькі месяцаў.

У выніку ў школу хлопец трапіў аж у 11 гадоў.

Мінай у 1940 годзе напіша ў кароткай аўтабіяграфіі, што працаваў наёмным пастухом да 15 гадоў. Плюс пастаянная праца на сямейнай зямлі.

Як узгадваў пасля былы батрак па прозвішчы Сіманькоў, Мінай у 1907 годзе ўжо даглядаў панскіх коней у маёнтку Пудаць, які належаў пану па прозвішчы Радзянка. Праца была цяжкая, плацілі мала. Сезонны батрак атрымліваў 5 рублёў за месяц, жанчына — 3 рублі. Пудаць быў 16-м маёнткам Радзянкі і лічыўся самым бедным.

Але конюхам Шмыроў прабыў толькі 2 гады. Сіманькоў сцвярджае, што Міная выгналі з працы «за самаадукацыю і чытанне палітычнай літаратуры». Пасля Шмыроў быў вымушаны працаваць падзённа «ў мясцовых кулакоў», бо на сталую працу яго ўжо браць не хацелі.

Сам жа Шмыроў расказваў, што зарабляў 4 рублі за год. Гэтага не хапала, таму ён па сваім жаданні і кінуў такую працу. Пасля ў «кулакоў» ён зарабляў нашмат лепш.

Суседскі пан плаціў Мінаю 75 капеек за дзень, а ў «кулакоў» можна было зарабіць і больш, расказваў Шмыроў у 1942 годзе палітруку Шкадарэвічу.

«Кулакі хіба не біліся за мяне, бо я быў моцны, спрытны мужчына. Я касіў, напрыклад, у кулака Мітрочанкі, быў такі скваліны кулак. Ён карміў адкідамі ўсіх падзённых, да яго ніхто не ішоў, акрамя мяне. Мне ён плаціў больш на

5 капеек, бо мною даражыў. Я гэтыя 5 капеек ад бацькі хаваў. Аддаваў бацьку толькі 75 капеек», — узгадваў Шмыроў.

## Са стараабрадцаў

Варта адзначыць, што лёс шматлікіх братоў і сясцёр Міная фактычна невядомы (акрамя дваіх чалавек). Сам Шмыроў пасля вайны раскажа, што ў яго было 10 старэйшых сясцёр і двое малодшых братоў: Міхаіл і Данііл.

Лёс братоў склаўся трагічна — яны разам з бацькам Філіпам загінулі падчас грамадзянскай вайны. Што стала з сёстрамі — невядома.

Маці Міная, Алена, дажыла як мінімум да 99 гадоў.

У адкрытых крыніцах можна знайсці яшчэ некалькіх аднафамільцаў і аднавяскоўцаў Міная. Расійская арганізацыя «Мемарыял», якая збірае звесткі пра загінулых падчас вайны і ахвяр палітычнага тэрору ў СССР, узгадвае дваіх. Першы — гэта Яфрэм Фёдаравіч Шмыроў. Ён нарадзіўся ў адзін год з Мінаем, у той жа вёсцы. Атрымаў няскончаную вышэйшую адукацыю, трапіў у Маскву, дзе працаваў рахункаводам-калькулятарам (фактычна бухгалтарам) на Трохгорнай мануфактуры, буйным прадпрыемстве па вытворчасці тэкстылю. Праўда, лёс Яфрэма быў кароткім і стандартна трагічным для свайго часу. У кастрычніку 1937 года яго арыштавалі. Абвінавацілі ў контррэвалюцыйнай агітацыі і ў тым, што «служыў у Белай арміі Дзянікіна ў чыне паручніка да поўнага разгрому яе чырвонымі часткамі». Вядома, што Яфрэм сапраўды быў «белым», служыў у чыне паручніка, а ў 1922 годзе трапіў у палон. Тады, у грамадзянскую вайну, ён выжыў, але мірны час аказаўся больш крывавым. Тройка НКВД вынесла Яфрэму вырак — «вінаваты». У снежні 1937 года яго расстралялі.

Другі аднавясковец Міная, Міхаіл Шмыроў, які нарадзіўся ў 1921 годзе ў той жа вёсцы Пунішча, быў прызваны ў Чырвоную Армію пасля пачатку вайны з немцамі. Ён памёр у 1943 годзе пад Пермю ад хваробы.

Невядома, ці меў Мінай нейкае сваяцтва з гэтымі двума Шмыровымі. Па вясковай завядзёнцы ў адной мясцовасці магло быць распаўсюджана некалькі прозвішчаў, якія насілі амаль усе мясцовыя жыхары.

Але ж калі сярод сваякоў Міная былі людзі кшталту Яфрэма Шмырова — і ён тое ведаў, — то не дзіўна, што ён не распаўсюджваўся пра лёс іншых Шмыровых. Гэта было проста небяспечна.

Паводле афіцыйнай версіі, усе дакументы і фотаздымкі сям'і Міная загінулі на пажары, які здарыўся ў 1946 годзе. Тады дом Шмырова згарэў цалкам. А іншых канцоў ніхто не шукаў, лічылі, што дастаткова расказаў самога героя-партызана.

Мінай жа расказваў у асноўным пра сябе. Прычым большасць фактаў, якія з часам увайшлі ў канон «Бацькі Міная», не мае аніякіх пацвярджэнняў, акрамя слоў самога Шмырова.

## Тройчы георгіеўскі кавалер

У 1913 годзе Міная Шмырова забіраюць у царскую армію. Праз год пачынаецца Першая сусветная вайна. Мінай служыць у артылерыі. Ваюе на Мазурскіх балотах, затым Прусія, Румынія.

Цікава, што ўсе біёграфы і інтэрв'юеры Міная пішуць пра ўзнагароды Шмырова. Ён нібыта атрымаў тры георгіеўскія крыжы — гэта ўзнагарода для ніжніх вайсковых чыноў, давалі за адвагу і баявыя заслугі. Але адзінае пацвярджэнне гэтаму — словы самога Шмырова. Ані дакументаў, ані саміх узнагарод не засталося.

Але ўзнагароды нібыта выратавалі Мінаю жыццё. Ён расказваў, што ўдарыў афіцэра.

З успамінаў Шмырова:

«З 1913 па 1917 год я служыў у царскай арміі. Тут я быў уражаны бяспраўем, дэспатызмам і асабліва цялеснымі пакараннямі. Неяк на маіх вачах афіцэр збіў дваіх салдат. Я не мог раўнадушна пераносіць гэта і ўдарыў афіцэра, за што мяне аддалі пад ваенна-палявы суд, і толькі 3 георгіеўскія крыжы і 2 медалі выратавалі ад цяжкага пакарання».

Але ізноў, адзінае пацвярджэнне — словы самога Міная. ▶


Здравствуй тов Магиндович!
Получил ваше письмо вот уже
дня три тому назад, а ответить
никак несоберусь.
Сообщаю вам о судьбах некоторых
товарищах, которые были в 1941 г.
с нами вместе. Например, Печегу.

**Лісты да Юды Магендовіда — партызана, з якім ён разам ваяваў.**
З архіваў Віцебскага абласнога музея М. Ф. Шмырова.

▶ Як бы тое ні было, Шмыроў застаўся жывы. Калі ў 1917 годзе рэвалюцыйны дух захапіў і армію, Мінай перайшоў на бок рэвалюцыі. Неўзабаве яго выбралі ў салдацкі дывізійны камітэт. Шмыроў застаецца служыць — цяпер ужо ў Чырвонай Арміі, у 1920 годзе ўступае ў партыю і атрымлівае ад ЦВК СССР імянны сярэбраны гадзіннік.

## Лізе Шмыровай было 14 гадоў, Сяргею — 10, Зіне — 7, а Мішу — 3

Падчас службы Мінай моцнае хварэе. Ён знаходзіцца ў расійскай Калузе, дзе пераносіць, па розных версіях, ці то тыфус, ці то так званую «іспанку» — сур'ёзны вірус грыпа (у 1918–1919 гадах «іспанскі грып» забіў ад 50 да 100 мільёнаў чалавек па ўсім свеце). Але Мінай выжывае.

### Ліквідацыя бандытызму

Пасля Шмыроў вяртаецца ў сваю вёску Пунішча. У 1921–1923 гадах ён займаецца ліквідацыяй бандыцкіх атрадаў на Віцебшчыне.

Падчас грамадзянскай вайны па краіне пачынаюць арганізоўвацца банды. На Віцебшчыне і Смаленшчыне дзейнічаюць банда Вераб'я, банда братоў Жыгалавых, банда барона фон Кіша. Яны рабуюць усіх.

Улада вырашае з імі разабрацца. Шмыроў узначальвае 14-ы Чырвоны партызанскі атрад па барацьбе з бандытызмам. Для яго гэта не проста праца: раней ад рук бандытаў загінулі два браты Міная і яго бацька.

З заданнем Мінай спраўляецца паспяхова. За ліквідацыю бандаў Шмыроў атрымлівае сваю першую савецкую ўзнагароду — ордэн Чырвонага Сцяга.

### З конюхаў у дырэктары

Пасля крывавай працы Мінай займаецца працай адміністратыўнай: узначальвае зямельны аддзел Суражскага павета, працуе прарабам у мясцовых ляспрамгасах, пэўны час узначальвае калгас, ільнозавод. У 1935 годзе Шмыроў атрымлівае пасаду дырэктара карданажнай фабрыкі імя Вароўскага ў вёсцы Пудаць. У той жа вёсцы, дзе калісьці ён быў конюхам.

Даследчыкі расказваюць, што кіраўніком Шмыроў быў выдатным. Нібыта планавалася нават пабудаваць невялікі аэрадром каля фабрыкі.

Але Мінай не толькі дырэктар, а яшчэ і шматдзетны бацька. У яго чацвёра дзяцей: Ліза, Сяргей, Зіна і Міша. Старэйшая, Ліза, нарадзілася ў 1927 годзе. Малодшы, Міша, — у 1938.

Затым у сям'і Шмыровых пачынаюцца няпростыя часы. У 1940 годзе памірае жонка Міная.

А ў 1941 пачынаецца вайна з немцамі.

### Райкам загадаў застацца

Савецкая ўлада ведае, што спыніць немцаў трэба любымі сродкамі. Па ўсёй краіне ствараюцца партызанскія атрады. Па рашэнні райкама партыі ўжо 9 ліпеня арганізуецца партызанскі атрад з мясцовых жыхароў, у асноўным з работнікаў фабрыкі.

Міная, які вайскоўваабавязаным не быў, выклікаюць у райкам і паведамляюць, што ёсць рашэнне — каб усе камуністы сышлі ў партызаны. Шмырову, як старому партызану і чалавеку з ваенным досведам, даручаюць стварыць свой атрад. Райкам выдае яму 10 вінтовак.

Спачатку ў атрад набіраецца каля 20 чалавек. Ужо наступнай ноччу прадукты з мясцовых крамаў вывозяць на лясныя базы, туды ж вывозяць зброю. Затым атрад сыходзіць у лясы.

Праз некалькі дзён немцы ўваходзяць у Сураж. Першыя баі з імі партызаны праводзяць, па розных звестках, ці то 17-га, ці то 25 ліпеня. Затым атрад паціху павялічваецца.

Першапачатковыя задачы атрада — засады на шашы, падрыў мастоў. У засадах сядзела па 15–20 партызан, расказваў Шмыроў. Немцы калонамі не ездзілі, у асноўным на асобных машынах. Іх падбівалі, затым машыну спальвалі. Падбіўшы некалькі машын, атрад адступаў.

### Не злавіўшы Міная, схапілі дзяцей

За няпоўныя два летнія месяцы, па словах Шмырова, яго атрад знішчыў каля 30 мастоў, 49 машын і забіў 250 фашысцкіх салдат. З іх — 48 афіцэраў і 1 генерала. Лічбы, з улікам колькасці партызан і нямецкай актыўнасці ў гэтай зоне, выглядаюць перабольшанымі.

У верасні 1941 года ў Міная было ўжо 105 чалавек. І атрад вырашыў атакаваць нямецкі гарнізон у Суражы. Ноччу з 9 на 10 верасня была праведзена аперацыя, партызаны забілі шмат немцаў, падарвалі некалькі машын, ім удалося разбурыць тэлефонную станцыю.

Немцы зразумелі, што партызаны становяцца сур'ёзнай праблемай. Міная Шмырова завочна прыгаварылі да смяротнага пакарання. За яго галаву паабяцалі сур'ёзную грашовую ўзнагароду.

«Бацька Мінай» узгадваў, што ў кастрычніку немцы адправілі два карныя батальёны — ачапіць лясы. Таксама павялічылі колькасць патрулёў, пачалі арганізоўваць засады. Выходзіць з лесу па прадукты партызанам стала цяжка.

Плюс знайшліся мясцовыя жыхары, якія пагадзіліся паказаць лясы. Здраднікі фактычна навялі фашыстаў на лагер Міная. Быў бой. Па словах Шмырова, фашысты страцілі 19 чалавек забітымі і 5 параненымі. У партызанаў забілі траіх, астатнія сышлі праз балоты.

Заставацца разам было небяспечна, дый цяжка знайсці харчаванне. У выніку Мінаю давялося загадаць атраду разбіцца на невялікія групкі. Большасць з іх накіравалася ў бок фронту, пад Суражам застаўся Мінай з невялікім атрадам з 10 чалавек і яшчэ адна група.

Бой з немцамі адбыўся 10 кастрычніка. А 20 кастрычніка фашысты прыйшлі па дзяцей Міная.

На думку самога Шмырова, прычынай стала тое, што ў лагеры партызан засталіся яго дзённікі. У іх Шмыроў фіксаваў усе дзеянні партызан, усе свае ацэнкі страт немцаў. Па яго ацэнках, на кожнага забітага партызана прыходзілася 140 забітых нацыстаў.

### Хакас аказаўся японцам

Увогуле, звесткі пра гэты перыяд складаюцца з двух дакументаў. Першы — артыкул Міная, напісаны ім пасля вайны. Другі — дзённікі яго партызанскага атрада, частка іх захавалася і была апублікавана. Трэці — гутарка Міная Шмырова з палітруком, якая адбывалася ў Маскве ў 1942 годзе.

Ва ўсіх гэтых крыніцах пэўныя моманты трохі адрозніваюцца. Але, напэўна, галоўным можна лічыць не праграмны артыкул у савецкім друку ці адрэдактаваныя (хутчэй за ўсё) перад публікацыяй дзённікі атрада, а ўсё ж стэнаграму гутаркі, якая адбывалася непасрэдна падчас вайны.

У ёй Мінай расказвае цікавыя рэчы. Напрыклад, узгадвае, што ў іх сярод партызан быў хлопец з Хакасіі. Ён далучыўся да іх як фельчар, жыхар адной з вёсак. Але пазней высветлілася, што ён нямецкі шпіён. А па нацыянальнасці — японец.

«Сувора мы з ім расправіліся», — кажа Шмыроў.

### І сястру, і цешчу

Расказвае ён і пра тое, што двое партызан збеглі неўзабаве пасля стварэння атрада. «Пабачылі, што цяжкасці прыходзіцца перажываць», — тлумачыць Мінай.

У той жа гутарцы Мінай узгадвае, што, калі яму загадалі сысці ў партызаны, дзяцей яму не было куды падзець.

«Адправіць не было з кім, самому вывезці мне не далі, сваякоў талковых паблізу не было», — расказвае Шмыроў. У выніку дваіх малых ён адправіў да сястры, дваіх — да цесця. А сам накіраваўся ў лясы.

Але немцы забралі і дзяцей, і сястру Мінаю, і цешчу. Тыя сталі закладнікамі.

### Не хаваў слёз

Пасля затрымання дзяцей Міная немцы па ўсёй акрузе распаўсюдзілі лістоўкі. У іх паведамлялася, што, калі ён не прыйдзе здавацца ці ў Суражскім раёне загіне яшчэ хоць адзін немец, дзяцей заб'юць.

Што рабіць, Мінай не ведаў.

«Можа, каб я сябе забіў, то дзяцей бы выратаваў? Але, канечне, гэта не так. Дзяцей бы ўсё роўна знішчылі, асабліва калі б я прыйшоў. Зрабілі б так, як шмат з кім рабілі: спачатку павесілі б дзяцей на маіх вачах, а пасля — мяне», — узгадваў пасля Шмыроў.

## На лагер Міная фашыстаў **навялі** здраднікі з мясцовых

Па «афіцыйнай» версіі, якая вандравала з артыкула ў артыкул у савецкі час, старэйшая дачка Ліза перадала бацьку запіску. Нярэдка прыводзіцца нават яе «даслоўны» тэкст:

«Тата, за нас не хвалюйся, нікога не слухай, да немцаў не ідзі. Калі цябе заб'юць, то мы нямоглыя і за цябе не адпомсцім. А калі нас заб'юць, тата, то ты за нас адпомсціш».

Вось толькі зноў пацвярджэння гэтаму факту няма. Сама запіска не захавалася. Некаторыя аўтары спасылаюцца на словы самога Міная... Але ці праўда тое? Невядома. У 1942 годзе, падрабязна расказваючы палітруку пра тыя падзеі і нават пра свае пачуцці, Мінай, як адзначыць палітрук, не хаваў слёз.

Але пра кранальную запіску ад дачкі Шмыроў нічога не сказаў. Хаця, як пішуць некаторыя, «усю вайну насіў яе каля сэрца».





Рэканструяваны пасляваенны працоўны **кабінет Міная**, які знаходзіцца ў Віцебскім музеі М. Шмырова.

### 14 лютага

Лічыцца, што самі партызаны, якія засталіся з Мінаем, прапанавалі яму атакаваць гарнізон у Суражы, дзе трымалі яго сям'ю. Але ён разумеў, што гарнізон пасля партызанскага нападу ў верасні ўмацавалі і плёну атака не дасць.

У выніку Мінай вырашыў нічога не рабіць.

14 лютага яго дзяцей расстралялі. Лізе Шмыровай было 14 гадоў, Сяргею — 10, Зіне — 7, а Мішу — 3.

Расстралялі і цешчу з сястрой Міная. Ён напіша пасля свайму сябру-партызану: «Я застаўся не толькі без дзяцей, але і без усякага радства, бо знішчылі ўсіх таксама сваякоў. Увогуле, са мной яны расправіліся пад арэх».

У тым жа лісце Мінай адзначыць: добра, што, калі дзеці былі ў закладніках, ён не скончыў жыццё самагубствам, «але гэта вельмі хацелася зрабіць».

Як бы тое ні было, сваё рашэнне ён прыняў. «Здароўе адарвалі яны [немцы] ў мяне крэпка, колькі ўжо месяцаў ніводнай ночы не сплю, каб не паплакаць. Часам усю ноч кручуся, — узгадваў пасля Мінай. — Прыйсці я [да немцаў] ніяк не мог, але думка такая бывае, што каб я знішчыў сябе, то, магчыма, дзеці былі б жывыя. Але справа зараз не ў адных маіх дзецях, справа ідзе аб жыцці маёй краіны і майго народа. Ён [вораг] здароўе ў мяне адарваў, а нянавісць яшчэ больш узмацнілася пасля знішчэння дзяцей».

Прычым са словаў Шмырова вынікае, што ён ведаў, што адбываецца з дзецьмі.

«Жудасна здзекаваўся ён [немец] з дзяцей. Ён іх арыштаваў у кастрычніку, нават бялізны не даў узяць з сабою. Дзеці былі 4 месяцы ў той бялізне, у якой з дому выйшлі. Памяшканне было халоднае, не тапілі, зіма жудасная, ані бялізны, ані вопраткі не было, каб прыкрыцца. Яны мерзлі, галодныя былі, пакутавалі, — расказваў Шмыроў палітруку ў Маскве. — Кармілі — ведаеце, як немцы кормяць. Каб ён іх забіў адразу, то лягчэй было б, а то колькі здзекаваўся вораг з іх, а пасля знішчыў.

Расплату рыхтую, але лягчэй расплачвацца, калі адчуваеш сябе моцным, бадзёрым. А ён у мяне адабраў здароўя напалову, больш. Як хочаце — дзеці. Калі ў вас ёсць дзеці, вы разумееце».

### Абмен дзяцей на разведчыка?

Існуе, праўда, і іншая версія падзей. Яе выклаў украінскі гісторык і журналіст Уладзімір Літвінаў, старшыня Міжнароднага руху былых малалетніх вязняў фашызму. Ён сцвярджаў, што ў 1980-х знайшоў Алену Фядура, ►

жонку аднаго з партызанскіх камандзіраў, якая ў 1943 годзе трапіла ў канцлагер Асвенцім. Фядура нібыта распавяла, што бачыла дзяцей Мінaя ў канцлагеры. Яна пазнала іх, бо сама была родам з-пад Суража. Пасля іх нібыта адвезлі ў Швейцарыю. Па версіі Літвінава, рыхтаваўся абмен шпіёна абвера Шульцэ-Хольтуса на дзяцей Шмырова. Але абмен нібыта не адбыўся па рашэнні Сталіна, і дзяцей адправілі ў іншы польскі лагер, далейшы лёс іх невядомы.

Але варта адзначыць, што пацвярджэнняў у гэтай версіі, акрамя словаў Літвінава, няма зусім ніякіх. Дый абмен нямецкага разведчыка на дзяцей партызанскага камандзіра выглядае, мякка кажучы, фантастычным.

### Жыццё з нуля

Пад канец зімы 1942 года зноў пачалі збірацца партызанскія атрады. Вясною 1942 года была створана 1-я Беларуская партызанская брыгада, камандзірам якой стаў Мінай. Некалькі месяцаў партызаны ўтрымлівалі так званыя «Суражскія вароты» — 40-кіламетровы разрыў лініі фронту, праз які сыходзілі мірныя жыхары, пастаўлялася зброя для партызан, перасякалі лінію фронту савецкія дыверсанты.

Увосень 1942 года Мінaя выклікалі ў Маскву. Туды ён паехаў ізноў сямейным чалавекам — ажаніўся з партызанкай Ірынай. Усынавіў яе сына Расціслава, а ў 1943 годзе Мінай стаў бацькам дзвюх дачок: Клары і Дзіны.

**Увосень 1942 года Мінaя выклікалі ў Маскву. Туды ён паехаў ізноў сямейным чалавекам — ажаніўся з партызанкай Ірынай**


ФОТА З ФОНДАЎ ВІЦЕБСКАГА АБЛАСНОГА МУЗЕЯ М. Ф. ШМЫРОВА

**З дзецьмі ад другога шлюбу** і другой жонкай.

Больш Шмыроў не ваяваў. Ён дапамагаў у Цэнтральным штабе партызанскага руху, кансультаваў партызан і войска. У 1944-м «Бацька Мінай» становіцца Героем Савецкага Саюза і вяртаецца на радзіму. Пасля вайны ён працаваў намеснікам старшыні Віцебскага аблвыканкама па сацыяльных пытаннях. Прасцей кажучы, дапамагаў уладкавацца і знайсці жыллё былым франтавікам. Неаднаразова абіраўся дэпутатам Віцебскага аблсавета і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Мясцовыя ведалі, хто такі Шмыроў. Да яго шмат людзей ішло па дапамогу, пісалі яму лісты з усёй краіны.

Але таксама Мінай фактычна працаваў «Бацькам Мінаем» — жывым помнікам самому сабе, свайму болю і вайне.

«Як памерла Іванаўна [першая жонка — рэд.], так з тых часоў пачаліся чорныя дні ў маім жыцці. Я часта думаю, чаму гэта не я, а менавіта яна. І калі была жывая яна, то няма сумневу, што яна б змагла зберагчы дзяцей. А я ... я гэтага не змог. І гэтая думка ў мяне не сыходзіць ніколі, і яна мяне страшна мучыць, — пісаў Мінай у сваім лісце да жонкі сваяка. Тэксты лістоў публікаваліся ў 2014 годзе ў «Советской Белоруссіі». — Праўда, я сышоўся з тым чалавекам, з якім можна жыць. Нажылі двое дзяцей. Дзеці добрыя. Вось 6 красавіка ім быў год. Кларыса ўжо ходзіць. Сёе-тое пачынае гаварыць. Усё як быццам бы добра. Але цяжар на сэрцы ніколі мяне не пакідае пра тую сям'ю. І часам мая Мацвееўна [другая жонка] гэта заўважае і злуецца, але я сам сябе перасіліць не магу. Увесь час хаджу з цяжкім каменем на сэрцы. І ён, відаць, мяне не пакіне на ўсё жыццё».

Памёр Мінай Шмыроў 3 верасня 1964 года.

### У пантэоне

Савецкі пантэон герояў Вялікай Айчыннай прыняў Мінaя Шмырова з усімі адпаведнымі ўшанаваннямі. Пра яго пісалі песні і кнігі, малявалі карціны, ставілі спектаклі. Нават назвалі ў яго гонар сорт чорнай парэчкі.

Гісторыя Шмырова, паціху абрастаючы новымі падрабязнасцямі, выдатна ўбудавалася ў савецкую міфалогію. Вобраз героя-пакутніка, які помсціць ворагам за знішчаную сям'ю, стаў кананічным, а выраз «бацька Мінай» — сінонімам імя партызанскага камандзіра «ад сахі». Бяда ж чалавека, якому райкам загадаў ісці ў партызаны, не даўшы магчымасці схаваць дзяцей, падаецца сакральнай ахвярай, ускладзенай на алтар перамогі. Бо міф мацнейшы за боль, а подзвіг — прыгажэйшы за трагедыю. Чалавек у гэтай гісторыі паціху становіцца персанажам. А ў любой імперыі персанажы важнейшыя за людзей. ◆

Рэдакцыя выказвае падзяку за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялу адміністрацыі Віцебскага абласнога музея Героя Савецкага Саюза М. Ф, Шмырова і персанальна галоўнаму захавальніку фондаў **Дзянісу Якаўлеву**.

## Чаму Багдан Сташынскі раскаяўся ў забойстве Бандэры?

# Псіхалогія суперагента:

## як адна з самых паспяховых аперацый КГБ закончылася найбольшым правалам

**Для КГБ было прынцыпова, каб Бандэру забіў украінец. Але менавіта гэтае жаданне прывядзе савецкую спецслужбу да праколу. Удар па рэпутацыі быў такі, што СССР запусціў спецаперацыю па дэзынфармацыі. Але і яна была выкрыта. Раскрыццё архіваў савецкага часу Службай бяспекі Украіны зрабіла даступнымі тысячы новых дакументаў аб Багдане Сташынскім, ягоных куратарах і сям'і. Дзякуючы архівам, удалося пабачыць тыя падзеі вачыма органаў і вачыма аднавяскоўцаў Сташынскага, за якімі старанна сачылі сакрэтныя агенты. Пра вярбоўку і раскаянне кілера піша ўкраінскі гісторык Дмытро Лукін.**

Багдана Сташынскага ў Маскве лічылі адным з самых таленавітых агентаў — пры гэтым нават пасля шматгадовага пражывання ў ГДР і ФРГ ён так і не навучыўся чыста гаварыць па-нямецку.

Сям'я Сташынскага, калі даведалася, што сын працуе на «маскалёў», некалькі гадоў байкатавала яго, пакуль ён не напісаў бацьку рэзкае «апошняе пісьмо».

А пасля таго, як Сташынскія прымірыліся з сынам і пачалі атрымліваць грошы ад КГБ, ігнараваць пачалі ўжо іх — аднавяскоўцы. І калі з радыёгаласоў стала вядома, што Бандэру забіў Багдан, агенты ў калгасе атрымалі заданне разведваць, ці ніхто не збіраецца забіць Сташынскіх-старэйшых у адплату.


«МОСКОВСЬКІ ВБИВЦІ БАНДЕРИ ПЕРЕД СУДОМ»

**Следчы эксперымент:** Сташынскі ўзнаўляе свае дзеянні падчас забойства.

### Чужы сярод сваіх

Сташынскага завербавалі класічна — на нечаканасці.

Сям'я Сташынскіх жыла ў вёсцы Баршчовічы пад Львовам. Жылі яны страшна бедна, мелі менш за гектар зямлі — лічы, нішто па тых часах. Але, як і многія тагачасныя сяляне, цягнуліся да навукі, лавілі магчымасць вывесці дзяцей у людзі. Саветаў ненавідзелі: НКВД арыштавала дзеда і расстраляла ў чэрвені 1941-га.

Яшчэ школьнікам Багдан дапамагаў партызанам-бандэраўцам. Хоць гэта быў ужо канец 40-х, яны ўсё яшчэ моцна трымаліся ў лясах Львоўшчыны.

Сташынскі зацікавіў МГБ — так да 1953 года называўся КГБ, бо дзве яго сястры дапамагалі УПА, а адна нават была заручана з кіраўніком аднаго з атрадаў Украінскай паўстанцкай арміі Іванам (Кармелюком) Лабам.

Сташынскі на той час быў паступіўшы ў педінстытут у Львове. ▶

▶ За Сташынскім сачылі і затрымалі яго за безбілетны праезд у прыгарадным дызелі. Чэкісты ведалі, што ён, паўгалодны юнак, ездзіць дахаты «зайцом», і схапіліся за гэта. Спецслужбістам важна было, каб ніхто, нават выпадковыя спадарожнікі па цягніку, не западозрыў, што 18-гадовы юнак трапіў у распрацоўку.

## Калі Сташынскага завербавалі, яго бацькі і сёстры на тры гады спынілі ўсе адносіны з ім

Пасля першай гутаркі была другая, зноў пра незаконнасць і бессэнсоўнасць барацьбы «за самасційну Украіну». І пра тое, што бацькоў і сясцёр арыштуюць як супольнікаў бандытаў, калі ён не пачне дапамагаць органам савецкай улады. І прыклад быў перад вачамі: сястру Марыю бязлітасна збілі на допыце ў НКВД (у выніку яна ўсё жыццё будзе хварэць).

Красавіцкай ноччу 1950 года хударлявы чарнявы юнак з тонкімі рысамі твару прыняў прапанову ад «органаў».

МГБ загадаў Багдану ўліцца ў партызанскі атрад. Праз некалькі месяцаў жаніх сястры будзе забіты з засады па наводцы Багдана.

Засылка агентаў у партызанскія атрады была звычайнай практыкай МГБ у тыя гады. Сташынскі куратараў уразіў сваім прыродным розумам, уменнем дакладна і без скажэнняў выкладаць інфармацыю.

Шыла ў мяшку не ўтоіш, і ў вёсцы хутка стала вядома, што Багдан працуе на бяспеку. У 1951 Сташынскія цалкам разрываюць адносіны з сынам і братам. Багдан шле ім пісьмо за пісьмом і грошы — без адказу. Тым не менш, у аддзяку за ягоную службу МГБ цалкам спыняе распрацоўку ягоных родных.

А яму тым часам, адрынутаму сям'ёй, прапануюць пастаянную працу ў спецатрадзе Львоўскага ўпраўлення МГБ. Задачамі былі арганізацыя правакацый, стварэнне негатыўнага



///

КОПИЯ ПИСЬМА ИСХОДЯЩЕГО ОТ "ТАРАСА" В АДРЕС СВОИХ РОДИТЕЛЕЙ /Львовская обл. Ново-Ярычевский р-он, с.Барщевица Сташинскому Никол.В.

Добрый день многоуважаемые паны.

Прошу извенить за мою смелость Вас беспокоить.Но прошу не обижаться.Я оторву у Вас лишь несколько минут.Я должен Вам сказать,что моему терпению пришел конец.В конце концов сколько можно с Вами возиться,неужели Вы за 2 года не поумнели.Очень печально,но ничего не поделаешь.Я Хотел Вам немного помочь, но видно,что Вы не очень рады от этой помощи.Не хотите и не нужно. "Как Куба Богу так и Бог Кубе". Ясно. На Ваше молчание я буду отвечать тем же.Во всяком случае это мое последнее письмо к Вам.Живите себе как хотите,стройте свою "самостийну" и будьте уверены,что в конце она Вас приведет в тюрьму.

Если первый раз я Вас от ее выручил,то второй раз если Вы свяжитесь со своими "славными партизанами",Вам я уже не помогу.

Это и все.На этот раз я Вам еще посылаю 300 руб., а в дальнейшем решайте сами.

Если хотите то напишите,а нет тогда не нужно.

На этом заканчиваю.Досвидание.

Июнь 1953 г. Б.

Справка: По рассказам отца «Тараса» во время встречи с ним во Львове в январе 1954 г. Это письмо сильно задело всю семью «Тараса» и они стали писать «Тарасу» ответные письма на Львов - Главпочтамт до востребования, но в связи с тем, что «ПК» их не задерживал и нам не высылала, письма возвращались обратно.

5.II-1954 г.

**Ліст Багдана Сташынскага** да бацькі. Машынапісная копія захоўвалася ў дасье на Сташынскага-агента, якое цяпер рассакрэчана Службай бяспекі Украіны.

вобразу УПА і ліквідацыя паўстанцкіх камандзіраў.

Падполле выдыхалася, важакоў аднаго за адным адстрэльвалі ці арыштоўвалі. Да 1952 года сілы УПА цалкам спынілі баявую актыўнасць.

Далей Масква хацела нейтралізаваць замежныя ўкраінскія цэнтры. КГБ разумела: за кіраўніцтва АУН лягчэй будзе зачапіцца ўкраінцу, які ведае і мову, і нацыянальную псіхалогію. Сташынскага ў тым самым годзе


FAHRERLAUBNIS

Herr ~~Frau~~ ~~Fräulein~~ Lehmann Josef

geb. 4.11.3 in Polen

wohnhaft in Dresden A2

Koitzer Straße Nr. 23

erhält die Erlaubnis, ein Kraftfahrzeug mit Antrieb durch Verbrennungsmaschine ~~Elektromotor~~ ~~Dampfmaschine~~ der Klasse -3- zu führen.

C431585

Im Besitz der Fahrerlaubnis seit 1954

Listen-Nr. 3315/54

Dresden, den 9.8 1954

Der Vorsitzende der Prüfungskommission bei der Kfz.-Insp. der Polizeibehörde

Siegel

(Unterschrift)

Eigenhändige Unterschrift des Inhabers

Lehmann Josef

«МОСКОВСЬКІ ВБИВЦІ БАНДЕРИ ПЕРЕД СУДОМ»

**Правы кіроўцы Ёзафа Лемана.** Гэта быў адзін з аператыўных псеўданімаў Багдана Сташынскага.

адпраўляюць у кіеўскую спецшколу дзяржбяспекі пад імем Грыгорыя Мароза. Яго рыхтуюць для працы за кардонам. Ён павінен будзе падабрацца да кіраўнікоў украінскай эміграцыі так, як падбіраўся да партызанскіх камандзіраў на Заходняй Украіне.

У 1953 годзе 21-гадовы курсант Багдан піша чарговы ліст бацькам — самы пранізлівы і адначасова ўладарна-пагардлівы. Цяжка сказаць, ці разумеў ён ужо тады, што ўсе ягоныя лісты перлюструюцца, а іх машынапісныя копіі падшываюцца ў строга сакрэтную справу — ужо не Грыгорыя Мароза, а «агента Тараса».

Ці то гэты ліст спрацаваў, ці то старанні КГБ наладзіць адносіны сына з сям'ёй, але пасля гэтага ліста перапіска аднаўляецца. Падполле разгромленае, сын аказаўся на баку пераможцаў. І Багдан дамаўляецца са сваім начальствам, каб ягонаму бацьку КГБ штомесяц выплачваў 400 рублёў. Гэта адпавядала прыкладна сярэднямесячнай зарплаце калгасніка ў тыя часы і было ў 2 разы менш за сярэднюю зарплату рабочага. Штомесячныя распіскі захаваліся ў архіве. Але лісты бацькі да сына застаюцца халоднымі і фармальнымі.

Пра сваю працу Сташынскі родным кажа, што працуе на сакрэтнай радыёстанцыі. А родныя ўсё яшчэ вельмі баяцца. Агентка Вольга фіксуе, што сястра Багдана пагражала суседцы, з якой яны варагавалі: «Калі нас здасі, мы пацягнем за сабой паўсяла!»

### Свой шлях да Еўропы

Прайшоўшы экспрэс-курс нямецкай мовы і авалодаўшы асновамі разведкі, агент Тарас — цяпер Браніслаў Качар (для палякаў) ці Ёзэф Леман (для ўсходніх немцаў) — адпраўляецца ў рэзідэнтуры КГБ у нямецкім Карлсхорсце. Яшчэ падрыхтоўка, яшчэ праверкі — у 1955 годзе яго «выпускаюць у прыроднае асяроддзе», каб ён трохі пажыў у вобразе немца, перакладчыка з польскай мовы.

Ягоная легенда: ён немец, вырас у Галічыне і толькі цяпер рэпатрыяваўся, таму і гаворыць па-нямецку зусім слаба і з украінскім акцэнтам.

Данясенні Тараса з Цвікау таксама дакладныя і ёмістыя. «Усходнія немцы ненавідзяць Саветаў, лічаць іх прычынай усіх бед, — паведамляў ён, —а мне давяраюць, раз не хаваюць такіх настрояў пры мне». У данясеннях ён таксама апісвае штодзённыя рэаліі і нацыянальны характар. Немцы скупыя, піша ён, у кавярнях кожны плаціць сам за сябе, гарэлку п'юць малюпасенькімі чарачкамі, а на чай афіцыянту даюць пару пфенігаў. Немцы пазнаюць рускіх па тым, што тыя заказваюць адразу цэлую пляшку і даюць афіцыянту на чай некалькі марак.

Яшчэ праз год «Ёзэф Леман» упершыню адпраўляецца за «жалезную заслону», у Мюнхен. Мэта паездкі — наладзіць кантакт з агентам Іванам Бысагам-Надзейчыным, набліжаным да Льва Рэбета, ідэолага апазіцыйнай да Бандэры фракцыі Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Падвойнае жыццё адбілася на псіхічным стане мюнхенскага «крата». Бысагу даводзіцца перапраравіць у СССР. А свае справы ён пакіне ў спадчыну Сташынскаму. І галоўнай сярод тых задач было забойства Рэбета.

## Выпушчаная ў твар атрута выклікала інфаркт, а затым хутка выпаралася, не пакідаючы слядоў

Тым часам у СССР пасля XX з'езда з лагераў выходзяць вязні. У царкве сястра Сташынскага сустракаецца са сваёй былой сяброўкай па падполлі, што вярнулася з Воркуты, і баіцца паказаць, што яны знаёмыя. «Робіш выгляд, што не пазнала? — рэзка пытаецца тая. — А я ж цябе тады не выдала, а магла б». «Лепш бы ты мяне выдала! — успыхвае сястра Сташынскага. — Тады б я не паслала Багдана ў лес і мой Іван застаўся б жывы!»

Ёзэф Леман ператвараецца ў Зігфрыда Драгера і пачынае назіранне за аб'ектам.

У верасні 1957-га Сташынскаму перадаюць найноўшы ўзор шпіёнскай зброі — газавы пісталет цыліндрычнай ▸




**Схема газавага пісталета** — зброі Сташынскага, якая змяшчалася ў скрутку газеты.


Provisional identification card for civilian internee of Mauthausen.
Vorläufige Identitätskarte für Mauthausen, Gruppe Zivilinternierte.
Current number / Laufende Nr.
Internee number / Häftlings-Nr.
Family name / Familienname: Popel
Christian name / Vorname: Stefan
Born / geboren: 1.9.1909 at / in Jeroslau
Nationality / Nationalität: Stateless
Adress / Adresse
Fingerprint: / Fingerabdruck
Signature: / Unterschrift

Ausweis — Certification.
Herr / Mister: Popel Stefan
geb. am / born: 1.9.1909 in / at Jaroslau
zuletzt wohnhaft / last domicile: K.Z.
wurde vom 15.9.1941 bis 6.5.1945
in nationalsozialistischen Konzentrationslagern gefangen

РАДЫО СВОБОДА

**Дакументы Бандэры** на імя Стэфана Попеля.



**Сцяпан Бандэра.**

формы, які можна хаваць у газету. Націсканне на курок выпускала ў твар ахвяры смяротную дозу сінільнай кіслаты, якая дае імгненны вынік, а затым хутка выпарваецца, не пакідаючы слядоў. Смерць пацярпелага ў выніку набывала цалкам натуральны выгляд. Праўда, пры гэтым была небяспека пацярпець і самому, таму перад аперацыяй і пасля яе агент прымаў антыдот.

### Першае забойства

«Драгер» трэніруецца на сабаках і ў кастрычніку 1957 года зноў адпраўляецца ў Мюнхен. У багажы ў яго — дзве бляшанкі са смачнымі сасіскамі. У адной з іх у шчыльнай абалонцы замест прадуктаў ляжыць газавы пісталет.

Раніцай 12 кастрычніка, загадзя заняўшы пазіцыю, Сташынскі сустрэў Льва Рэбета каля выдавецтва, у якім ён працаваў, у цэнтры горада, на Карлспляц, 8. Яны разам зайшлі ўнутр, стрэл аказаўся ўдалы, а ліквідатар сышоў з месца аперацыі незаўважаным. Газеты неўзабаве паведамяць пра раптоўную смерць Рэбета ад сардэчнага прыступу, ніхто не западозрыў забойства.

Агент Тарас вяртаецца ў ГДР і атрымлівае прэмію — фотаапарат *Contax*, медаль і грошы. А таксама новае заданне — забойства самога Сцяпана Бандэры.

### Паляванне на Бандэру

50-гадовы Бандэра быў для заходніх украінцаў легендай. Валявы і харызматычны сын святара, ён зрабіў Арганізацыю ўкраінскіх нацыяналістаў (АУН) моцнай і разгалінаванай.

Украіна была падзеленай між Саветамі і палякамі, і АУН бачыла задачай барацьбу і супраць першых, і супраць другіх. Дзейнічала АУН жорстка, тэрарыстычнымі метадамі.

У адказ на ўзмацненне паланізацыі забіваюць міністра ўнутраных спраў Польшчы. У адплату за Галадамор атакуюць консульства СССР у Львове. У гэтых аперацыях бярэ ўдзел сам Бандэра.

Яго прыгаворваюць да смяротнага пакарання, але замяняюць яго пажыццёвым зняволеннем. Верасень 1939-га застае Бандэру ў турме Брэста. Ахова разбягаецца, вязні выходзяць на свабоду.

**Дзеці Бандэры толькі пасля смерці бацькі дазнаюцца сваё сапраўднае прозвішча і кім быў іхні тата**

Для барацьбы з палякамі АУН абапіралася на немцаў. У немцаў свае планы. Як толькі ў 1941-м Саветы адступаюць са Львова, украінцы абвяшчаюць незалежнасць. Раз'юшаныя немцы арыштоўваюць Бандэру і змяшчаюць у канцлагер. На падзеі ва Украіне ў часе вайны ён уплываць не мог. Частка АУН працуе на немцаў, другая (бандэраўцы)



YOUTUBE.COM

На такім «Опелі-Капітане», толькі сінім, **ездзіў Бандэра.**

утварае партызанскую Украінскую паўстанцкую армію.

Пасля вайны Бандэра шукаў падтрымку ў брытанцаў і амерыканцаў. Пад чужым іменем Бандэра перабываў з сям'ёй у Мюнхене. За пасляваенны час яго пяць разоў спрабавалі забіць, але яму шанцавала. Ягоныя дзеці толькі пасля смерці бацькі дазнаюцца сваё сапраўднае прозвішча і кім быў іхні тата насамрэч.

Для новай задачы зброя была мадыфікаваная — пісталет цяпер быў двухствольным, каб можна было імгненна ліквідаваць не толькі Бандэру, але і яго ахоўніка.

Законспіраванага Бандэру трэба было яшчэ ідэнтыфікаваць, спецслужбам быў вядомы яго псеўданім — Стэфан Попель. Месца жыхарства Бандэры-Попеля Сташынскі знайшоў па адраснай кнізе Мюнхена, пасля чаго дзевяць месяцаў сачыў за ім.

Жыў правадыр АУН на ціхай вулачцы Крайтмайрштрасэ, 7. Гэта не цэнтр, але і не прыгарад, тыповы пяціпавярховы будынак у спальным квартале. Цяпер ён цагляна-чырвоны, а тады быў нефарбаваны, шэры.

Ездзіў Бандэра на сваім улюбёным «Опелі-Капітане». На гэтай сіняй машыне Попель упершыню і трапіў

**У пад'езд Бандэра ўвайшоў адзін, трымаючы ў правай руцэ пакет з гароднінай. Сташынскі спусціўся па лесвіцы яму насустрач і стрэліў**

на вочы Сташынскаму, калі прыехаў у Ратэрдам на дваццатую гадавіну забойства савецкім агентам Яўгена Канавальца, папярэдніка Бандэры на чале АУН. Сташынскі добра тады запомніў мужчыну нізкага росту з зусім не гераічнымі рысамі твару, з сівымі ўжо валасамі з залысінамі, які моцна і ўпэўнена прамаўляў. Фатаграфіі выступу Бандэры на тым мітынгу ёсць у сеціве. Сташынскі ў кадр не трапіў.

«...Я пабачыў, што ён заходзіць у пад'езд, я спусціўся і перасёкся з ім ля дзвярэй пад'езда. ... У гэтую хвіліну ён ужо дастаў ключ з дзвярэй, але яшчэ трымаў яго ў руцэ, а сумкі — у правай руцэ ... Я рэзка ўскінуў руку і стрэліў з абодвух ствалоў, адразу ж павярнуўся, зачыніў за сабой дзверы і пайшоў».

*Цытата са сведчанняў Сташынскага на судзе*

## Смерць Бандэры

Першая спроба забойства ў маі 1959 года аказалася няўдалай: кілеру не ўдалося трапіць у пад'езд Бандэры. Рэзідэнтура настойвала на паўторным візіце ў Мюнхен. Другім разам, 15 кастрычніка, Сташынскаму ў пад'езд трапіць удалося, але аперацыя зноў ледзь не сарвалася: адна з суседак у той самы момант спускалася ў краму. У той жа час ліквідатару дапамагла адсутнасць ахоўніка — у той дзень Бандэра яго адпусціў. У пад'езд Бандэра ўвайшоў адзін, у руцэ ён нёс пакет з гароднінай. Сташынскі спусціўся па лесвіцы насустрач ахвяры, стрэліў у Бандэру з абодвух ствалоў, пасля чаго выйшаў з пад'езда. Бандэра ўскрыкнуў і імгненна страціў прытомнасць і ўпаў. На крык выбеглі суседзі і знайшлі цела — пры падзенні Бандэра разбіў чэрап аб бетонныя прыступкі. Толькі ў бальніцы дактары пабачаць, што ў нябожчыка быў на поясе пісталет, і выклічуць паліцыю.

За паспяховае «спецмерапрыемства» агент атрымаў адну з найвышэйшых дзяржаўных узнагарод СССР — ордэн Чырвонага Сцяга. Аднак стрэл падвойнай дозай атруты раскрыў



**Месца на падлозе першага паверха,** дзе ўпаў атручаны Бандэра.







**Момант забойства** — так яго малюе ўкраінскі дзіцячы комікс.




**Багдан Сташынскі** ў коле сям'і, 1950-я.

▶ тое, што правадыр АУН памёр не сваёй смерцю. Пры ўскрыцці цела ў страўніку знайшлі цыянід. Але абставіны забойства (ці самазабойства, бо была і такая версія) яшчэ два гады заставаліся таямніцай.

## Нечаканы паварот

Увечары 12 жніўня 1961 года, за некалькі гадзін да пачатку пабудовы знакамітага Берлінскага мура, мяжу Заходняга Берліна перасеклі муж і жонка Ёзэф і Інге Леманы. Назаўтра яны мусілі пахаваць свайго пяцімесячнага сына. Толькі таму, што хлопчык памёр, Леману-Сташынскаму дазволілі прыехаць у Берлін да сваёй жонкі-немкі. Калі савецкія спецслужбы паднялі трывогу, было ўжо позна.

Калі не застаецца больш сумневаў, што Сташынскі ўцёк на Захад, агента Тараса пераймяноўваюць у аб'ект Скарпіён і савецкія спецслужбы пачынаюць гульню на апярэджанне. У кастрычніку 1961 года, у самы разгар Берлінскага крызісу, усходнегерманскія палітыкі зладзілі прэс-канферэнцыю, усклаўшы віну за забойствы ўкраінскіх эмігрантаў на заходненямецкую разведку і на саміх сяброў АУН. Але і тут пракол: асоба, прызначаная КГБ і «Штазі» на ролю «ахвярнага казла», мае жалезнае алібі — у дзень забойства Бандэры знаходзілася ў Рыме.

17 лістапада канцлер ФРГ Конрад Адэнаўэр упершыню публічна згадвае пра справу Сташынскага. На той момант савецкі кілер ужо два з паловай месяцы супрацоўнічаў са следствам.




**Блакаванне мяжы Заходняга Берліна** ў дзень пачатку будаўніцтва сцяны, 13 жніўня 1961 года.

Адкрыты судовы працэс адбыўся ў кастрычніку 1962 года, ператварыўшыся ў важную частку фону, на якім разгортваўся знакаміты Карыбскі крызіс.

## Працэс Сташынскага

Справа Сташынскага ў свой час аказала такі ж моцны ўплыў на грамадскую думку Захаду, як нядаўняе атручванне Скрыпалёў. Заходняя супольнасць і не падазравала, наколькі шырокую дзейнасць разгарнулі ўнутры іх краін савецкія спецслужбы. Напачатку амерыканцы і немцы нават не давалі веры расказу Сташынскага пра спецыяльны бясшумны пісталет. Яны дапускалі, што Бандэру маглі ліквідаваць праз агента ў ягоным атачэнні, падсыпаўшы атруту ў чай. Але ядам з пісталета?

Следства не толькі адкрыла свету кухню патаемных аперацый КГБ, але і адкрыла тыпаж кілера. Псіхалагічны партрэт Сташынскага аказаўся далёкім ад вобразу няўмольнай машыны для забойства. Аўтар найлепшай кнігі пра забойства Бандэры, гарвардскі прафесар Сяргей Плахій, нават параўноўвае Сташынскага з Раскольнікавым. Украінамоўнае выданне кнігі Плахія пабачыла свет ▶

«МОСКОВСЬКІ ВБИВЦІ БАНДЕРИ ПЕРЕД СУДОМ»



Аґент Богдан Сташинський



Інґе Поль-Сташинська

**Сям'я Леманаў-Сташынскіх.**

▶ 2017-м у Кіеве пад назвай «Забойства ў Мюнхене. Па чырвоным следзе».

На судзе Сташынскі расказаў, што пайшоў на супрацоўніцтва з КДБ, каб выратаваць сям'ю ад арышту за супрацоўніцтва з Украінскай паўстанцкай арміяй. Магчыма, менавіта хрысціянскае сямейнае выхаванне і дасавецкія ўяўленні пра дабро і зло падштурхнулі Сташынскага да самараскрыцця, мяркуе Плахій.

А тут яшчэ каханне — грамадзянка ГДР Інге Поль, дазвол на шлюб з якой Багдан з вялікімі цяжкасцямі атрымаў ад КДБ у 1960 годзе. Інге была ў шоку ад таго, што савецкія спецслужбы трымалі пад кантролем усё сямейнае жыццё Леманаў-Сташынскіх.

А тут яшчэ ранейшы недавер сям'і. Неўзабаве пасля вяселля ён з Інге заязджае да бацькоў, і яго сустракаюць па-ранейшаму як чужога.

У судзе Сташынскі раскажа, што, ужо рыхтуючы замах на Рэбета, ён адчуваў збянтэжанасць, а псіхалагічны пералом адбыўся падчас прагляду кадраў пахавання Бандэры ў кастрычніку 1959 года, на якое сабраліся тысячы людзей. Кропку на шляху да разрыву з КГБ паставіла бяздушная рэакцыя маскоўскіх куратараў на смерць ягонага сыночка. Ён так і не пабачыць яго жывым — толькі ў труне. І нават у гэты момант за Сташынскімі будуць назіраць агенты.

Багдан і Інге скарысталіся першай магчымасцю для ўцёкаў. Калі б яны затрымаліся хаця да раніцы з-за жадання кінуць жменьку зямлі на магілу сына, то здзейсніць гэтыя планы ўжо не змаглі б.

## Сляды губляюцца

Следства грунтавалася амаль выключна на падрабязных паказаннях самога Сташынскага. Там, дзе іх можна было праверыць, яны пацвердзіліся да дробязі.

Паплечнікі Бандэры палічылі прысуд занадта мяккім — усяго 8 гадоў турмы за два наўмысныя забойствы. Суд матываваў паблажлівасць тым, што абвінавачаны быў марыянеткай у руках сапраўднага злачынцы — савецкай улады. Нават удава Рэбета заявіла на судзе, што яна Сташынскаму даруе.

У Маскве быў вялікі разбор палётаў. Паляцелі галовы, некаторыя нават трапілі ў следчыя ізалятары.

Бацькі і сёстры Сташынскага зноў аказваюцца пад пільным кантролем органаў: КДБ спадзяваўся, што Скарпіён паспрабуе выйсці на сувязь з імі, але ж не. Увагу органаў бацька Багдана выкарыстае для таго, каб атрымаць грашовую дапамогу на куплю кватэры ў Львове для дачкі Ірыны. Ірына потым назаве сваю дачку Багданай.

Сташынскі ж, адбыўшы належныя дзве траціны зняволення, будзе вызвалены і таемна перапраўлены ў ЗША. Інфармацыя пра гэта з'явіцца ў прэсе толькі праз тры гады. Далейшыя сляды былога агента Тараса губляюцца. Пісалі, што ён з Інге пераехаў у Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку. Але ці не дымавая заслона і гэты факт?

Можа быць, Багдан Сташынскі ўсё яшчэ жывы? Інфармацыі няма. ◆

**Нейкі час у Львове** можна было сустрэць плакаты з фотакалажам. Тэкст на іх заклікаў даказаць уласную еўрапейскасць і добрасумленна аплаціць праезд у львоўскім грамадскім транспарце. «Здрада Украіне пачынаецца з неаплачанага праезду!» — заклікаў плакат, намякаючы на Багдана Сташынскага. **Для рускіх і палякаў Бандэра — тэрарыст. Для ўкраінцаў — герой.**

Зрада України починається із неоплаченого проїзду!

*15 жовтня 1959 року було вбито **Степана Бандеру** – провідника Організації українських націоналістів (ОУН).*

*Як з'ясувалося згодом, вбивцею виявився агент КДБ **Богдан Сташинський**.*

*Богдан Сташинський був завербований КДБ у райвідділі міліції, куди він потрапив за неоплату проїзду у громадському транспорті, – **великий злочин почався із дрібного правопорушення!***

***Підтримаймо цивілізовані зміни порядку оплати за проїзд у трамваях та тролейбусах!***

***Доведімо, що ми – справжні європейці!***

**Пам'ятайте! Незакомпостерований талон – не дійсний!**

A-K88.LIVEJOURNAL.COM

**Унікальная практыка стварэння кааліцый існавала, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы і розныя народы разам процістаялі паланізацыі, піша кандыдат гістарычных навук Аляксандр Пашкевіч.**

# Як немцы з яўрэямі аб'ядноўвалі славян


БЕЛАРУСКІ ЦЭНТРАЛЬНЫ ВЫБАРНЫ КАМІТЭТ
жніўня 15 дня 1922 г.
№ 1
м. Вільня, Вострабрамская 9.

Мандат.

Беларускі Цэнтральны Выбарны Камітэт гэтым дэлегуе Сябру Камітэту грамадзяніна Антона Луцкевіча у Варшаву на канферэнцыю нацыянальных меншасцяў Польскай Рэспублікі у справе выбараў у Сойм і Сэнат, што мае адбыцца 17 жніўня 1922 г.

за Старшыню

Сакратар М. Кахановіч



**Мандат, выдадзены старшыні Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта Антону Луцкевічу** для ўдзелу ў канферэнцыі прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў у Варшаве 17 жніўня 1922 года. Менавіта на гэтай канферэнцыі было прынята рашэнне аб заснаванні Блока нацыянальных меншасцяў.

5 і 12 лістапада 1922 года ў Польшчы, грамадзянамі якой незадоўга да таго сталі многія этнічныя беларусы, мусіла адбыцца важнае палітычнае мерапрыемства — выбары ў двухпалатны парламент (Сейм і Сенат) паводле новага выбарчага закона. Паколькі Канстытуцыя 1921 года зрабіла Польшчу парламенцкай рэспублікай пры толькі дэкаратыўных паўнамоцтвах прэзідэнта, фактычна гэтыя выбары мусілі вызначыць палітычны курс краіны на наступныя пяць гадоў.

## Выбарчы закон як інструмент «Польшчы для палякаў»

Упершыню парламенцкія выбары мусілі прайсці на тэрыторыі ўсёй польскай дзяржавы ў тых межах, якія палякам удалося правесці і замацаваць па выніках крывавых баёў з бальшавіцкімі, нямецкімі, літоўскімі і ўкраінскімі войскамі, што вяліся ў 1918–1921 гадах.

Хоць межы гэтыя ў цэлым адпавядалі жаданням польскіх нацыянальных дэмакратаў (эндэкаў), якія разам з саюзнікамі мелі большасць ва Устаноўчым сейме, скліканым для прыняцця Канстытуцыі Польшчы і выбарчага закона, іх усё ж вельмі трывожыў той факт, што амаль трацціну насельніцтва такой Польшчы складалі прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў. Такі нацыянальна-дэмаграфічны баланс пры цалкам дэмакратычных правілах гульні яўна паставіў бы пад сумнеў адзін з асноўных ідэалагічных пастулатаў эндэкаў — «Польшча для палякаў». Дзеля таго яны, карыстаючыся большасцю ў Сейме, правялі такі выбарчы закон, які мусіў звесці да мінімуму магчымасці няпольскіх палітычных арганізацый

атрымаць на выбарах колькасць мандатаў, больш-менш адпаведную сваёй долі ў структуры насельніцтва. Мала таго, што сам падзел на выбарчыя акругі (з якіх абіраліся, як правіла, па 5–7 дэпутатаў выключна па партыйных спісах) быў несправядлівы (на тэрыторыях з вялікай доляй сярод насельніцтва непалякаў адзін дэпутат прыпадаў на большую колькасць насельніцтва), дык была ўведзена яшчэ і такая норма, што частка мандатаў (72 з 444 на выбарах у Сейм і 18 са 111 у Сенат) размяркоўвалася з т. зв. дзяржаўнага спісу. Права на мандаты з гэтага спісу мелі толькі буйныя партыі з агульнапольскай сферай уплыву, у той час як меншасці, акрамя яўрэйскай, кампактна засялялі толькі ўскраіны дзяржавы.

### Нечаканая ідэя Эрвіна і Іцхака

Намеры эндэкаў не былі таямніцай для нешматлікіх яўрэйскіх і нямецкіх дэпутатаў Устаноўчага сейма, якія спрабавалі супрацьстаяць прыняццю закона ў такім выглядзе на этапе яго абмеркавання. Але паколькі сілы былі няроўныя, то ў галовах двух з іх — немца Эрвіна Гасбаха і яўрэя Іцхака Грынбаўма — узнік амбіцыйны план, які многім спачатку падаваўся нерэалістычным і нават вар'яцкім. Сутнасць яго была ў наступным: калі ніводная з нацыянальных меншасцяў, якія воляй лёсу сталі грамадзянамі Польшчы, няздольная пераадолець абмежаванні дыскрымінацыйнага выбарчага закона самастойна, то чаму б ім не аб'яднаць свае намаганні і не заснаваць моцны супольны перадвыбарчы блок, тым самым абярнуўшы зброю эндэкаў супраць іх саміх?

### Чатыры яўрэі — пяць кірункаў

Сфармуляваць ідэю было, аднак, нашмат прасцей, чым яе ажыццявіць. Запрэгчы ў адзін воз меркавалася, акрамя немцаў і яўрэяў, яшчэ ўкраінцаў, беларусаў, рускіх і літоўцаў. Некаторыя з гэтых народаў мала таго што мелі няшмат супольнага ў сучаснасці, але нярэдка таксама неслі цяжкі груз няпростых узаемных гістарычных парахункаў. Каб пераканаць прадстаўнікоў усіх народаў прынамсі часова забыцца на мінулыя крыўды і сучасныя супярэчнасці, выступіўшы на выбарах адзіным фронтам, патрабаваліся сапраўды неардынарныя дыпламатычныя таленты. І Гасбах з Грынбаўмам (а перадусім апошні) іх напоўніцу праявілі.

Зрэшты, сітуацыя склалася так, што славянскія меншасці, перадусім беларусаў і ўкраінцаў Валыні, Холмшчыны, Падляшша і Палесся, доўга ўгаворваць не давялося, бо іх у Блок нацыянальных меншасцяў (БНМ) штурхала ўласная

**У галовах немца Гасбаха і яўрэя Грынбаўма ўзнік план, які многім спачатку падаваўся нерэалістычным і нават вар'яцкім**

галеча. Абодва народы былі ў пераважнай большасці сялянскімі. Багатых людзей сярод іх амаль не было, адпаведна, складана было сабраць уласнымі сіламі матэрыяльныя сродкі, дастатковыя для правядзення актыўнай перадвыбарчай кампаніі. У такой сітуацыі блок з немцамі і яўрэямі набываў дадатковую прывабнасць, бо апошнія пагадзіліся ўзяць асноўную частку матэрыяльнага забеспячэння супольнай кампаніі на сябе.

У той жа час прадстаўнікоў літоўскай меншасці ў Польшчы далучыць да блока не ўдалося, бо Літоўскі нацыянальны камітэт у Вільні пастанавіў выбары ўвогуле байкатаваць. Гэтае рашэнне было прынята пад уплывам урада Літоўскай Рэспублікі ў Каўнасе, які лічыў Віленшчыну тэрыторыяй, незаконна акупаванай Польшчай. Паколькі канчатковае рашэнне па віленскім пытанні Лігай Нацый на той момант яшчэ не было прынята, то літоўцы лічылі, што іх удзел у выбарах у польскі парламент стане для еўрапейцаў сведчаннем прызнання імі польскай дзяржаўнасці. Тымі самымі меркаваннямі кіраваліся і лідары ўкраінскай грамадскасці ва Усходняй Галіччыне, былой аўстрыйскай тэрыторыі, таксама абвясціўшы са свайго боку прынцыповы байкот выбарам.

Не было поўнага адзінства і сярод меншасцяў, якія падтрымалі ідэю блока. Асабліва гэта тычылася яўрэйскай меншасці, якая традыцыйна падзялялася ў палітычным сэнсе на чатыры асноўныя часткі, вострa канкурэнтныя паміж сабой: 1) прыхільнікі артадаксальных рэлігійных поглядаў, асноўным ▶

ЦЭНТРАЛЬНЫ ВАЙСКОВЫ АРХІЎ У РЭМБЕРТАВЕ (ВАРШАВА)

**Сумесная распіска старшыні Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта Антона Луцкевіча і старшыні Украінскага цэнтральнага выбарчага камітэта Валыні, Холмшчыны, Падляшша і Палесся Антона Васыньчука** аб атрыманні грошай на выбарчую кампанію. Грошы атрымліваліся ў сядзібе Нямецкага саюза ў Варшаве.




**Іцхак Грынбаўм,** адзін з ініцыятараў Блока нацыянальных меншасцяў. Пазней ён эмігруе ў Палесціну і стане міністрам унутраных спраў у першым урадзе незалежнага Ізраіля.

▶ палітычным прадстаўніцтвам якіх была партыя «Агудат Ісраэль»; 2) сіяністы розных кірункаў, якія галоўнай палітычнай мэтай ставілі заснаванне яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне і адраджэнне сакральнай мовы іўрыт як паўнавартаснай нацыянальнай мовы; 3) «фалькісты» (народнікі), якія лічылі і перасяленне ў Палесціну, і адраджэнне іўрыта ўтопіяй і выступалі за паўнавартаснае развіццё яўрэйскага жыцця ў дыяспары з апорай на мову ідыш у якасці нацыянальнай; 4) сацыялістычныя партыі і групы, асноўнымі з якіх былі Бунд і Паалей-Цыён. Не былі маналітнымі і іншыя меншасці, асноўнымі лініямі падзелу сярод якіх было пытанне стаўлення да сацыялістычных ідэй і да польскай дзяржаўнасці.

У выніку ўзніклых супярэчнасцяў блока са стапрацэнтным прадстаўніцтвам усіх палітычных сілаў пяці меншасцяў стварыць не ўдалося. Па прынцыповых меркаваннях у яго адразу адмовіліся ўвайсці яўрэйскія сацыялісты, якія пайшлі на выбары асобна. Таксама прынцыпова супраць блакавання з іншымі меншасцямі былі сіяністы з Галіччыны, якія яшчэ з даваенных часоў рашуча стаялі на баку палякаў у іх канфлікце з галіцкімі ўкраінцамі, а адмовай ад удзелу ў блоку чарговы раз падкрэслівалі сваю лаяльнасць Польшчы. У той жа час беларусам і ўкраінцам чыста ідэалагічнага расколу гэтым разам удалося пазбегнуць. І радыкалы-сацыялісты, і больш памяркоўныя дзеячы ў той момант дружна працавалі разам. Адмовіліся ўвайсці ў блок ад іх толькі некаторыя паланафільскія групоўкі (а хутчэй, асобныя дзеячы) з абсалютна мізэрнымі ўплывамі. Іншая справа, што з-за згаданага байкоту выбараў, абвешчанага ўкраінцамі-галіччанамі, украінскі складнік блока ў выніку аказаўся абмежаваны толькі палітыкамі з Валыні, Холмшчыны, Падляшша і Палесся. Тым не менш, нават у такім выглядзе блок уяўляў сур'ёзную палітычную сілу, з якой апаненты мусілі лічыцца.

## Утрымаць цяжэй, чым стварыць

Але стварыць блок было толькі паловай справы. Не менш складана было ўтрымаць яго адзінства на працягу ўсёй перадвыбарчай кампаніі. Галоўнай патэнцыйнай бомбай пад саюз народаў было пытанне падзелу паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў месцаў на агульных выбарчых спісах як на агульнадзяржаўным узроўні, так і ў асобных акругах. Натуральна, што кожны народ хацеў падзяліць гэтыя месцы як мага больш выгадна для сябе, і для таго, каб усіх больш-менш задаволіць, патрабавалася ўлічыць мноства буйных і дробных нюансаў. Належала рэалістычна ўзважыць шанцы БНМ на атрыманне той ці іншай колькасці мандатаў у кожнай акрузе, ацаніць памер меркаванага ўнёску ў дасягненне патэнцыйнага поспеху з боку кожнай нацыянальнасці, а пасля на аснове гэтых разлікаў вызначыць чарговасць кандыдатаў на спісе. Адначасова трэба было прадугледзець кампенсацыю стратаў, панесеных у супольных інтарэсах пэўнай меншасцю ў адной акрузе, за кошт другой, а таксама выпрацаваць схему разліку славянскімі меншасцямі дадатковымі мандатамі з яўрэямі і немцамі за фінансаванне супольнай кампаніі.

Дзеля вырашэння гэтых і іншых пытанняў у Варшаве ішлі няспынныя кансультацыі і перамовы як паміж лідарамі асобных меншасцяў, так і паміж цэлымі дэлегацыямі. І як ні дзіўна, хоць фактычна любое пытанне магло справакаваць разрыў, па кожным усё ж такі ўрэшце ўдалося прыйсці да паразумення.

**Юдам будзе, хто не паможа**
**Краіне роднай у гэты час**
**І хто шаснаццаць не паложа**
**За спісак беларускі наш.**

Але на гэтым патэнцыйна канфліктныя сітуацыі не заканчваліся. Ужо ў межах выбарчых камітэтаў асобных меншасцяў вяліся складаныя перамовы адносна таго, каб справядліва падзяліць тыя мандаты з нацыянальнай квоты, пра якія ўдалося дамовіцца з іншымі ўдзельнікамі блока, паміж суайчыннікамі розных палітычных




**Эрвін Гасбах,** адзін з ініцыятараў Блока нацыянальных меншасцяў. У канцы 1930-х гадоў ягоныя шляхі з іншымі нацыянальнымі меншасцямі кардынальна разышліся — тады ён стаў членам нацысцкай партыі.






**Яўрэйская передвыбарчая ўлётка** з заклікам галасаваць за №16. Спіс падаецца тут як чыста яўрэйскі (Яўрэйскага аб'яднанага нацыянальнага фронту), а пра ўдзел у ім іншых нацыянальных меншасцяў не згадваецца.

актывісты розных народаў намагаліся па меры магчымасці не рабіць акцэнту на ягоным шматнацыянальным характары, падаючы агульны спіс перадусім як свой уласны, нацыянальны. Характэрны ў гэтым плане эмацыйны вершаваны заклік, надрукаваны перад выбарамі ў беларускай газеце «Крыніца»:

> Юдам будзе, хто не паможа
> Краіне роднай у гэты час
> І хто **шаснаццаць** не паложа
> За спісак **беларускі наш**.

Аналагічна ў вуснах агітатараў-яўрэяў спіс №16 (менавіта такі нумар атрымаў пры рэгістрацыі спіс Блока нацыянальных меншасцяў) быў «яўрэйскім нашым», немцаў — «нямецкім нашым», украінцаў — «украінскім нашым». Цягам некалькіх месяцаў на большай частцы тэрыторыі Польшчы чуліся няспынныя вусныя і пісьмовыя заклікі галасаваць за гэты спіс на самых разнастайных мовах: польскай, украінскай, беларускай, нямецкай, рускай, іўрыце, ідыш...

поглядаў. І тут справа магла ісці часам яшчэ цяжэй, чым паразуменне з іншымі меншасцямі.

Так, прадстаўнікі яўрэйскіх «фалькістаў», спачатку пагадзіўшыся ўвайсці ў БНМ, пасля палічылі для сябе недастатковымі прапанаваныя ім два дэпутацкія мандаты і са скандалам пакінулі блок, пайшоўшы на выбары самастойна. Больш за тое, у сваёй прэсе яны распачалі актыўную кампанію супраць БНМ.Але гэта было ўсё ж такі прыкрае выключэнне, бо ў большасці выпадкаў палітыкі і тут уздымаліся над асабістымі амбіцыямі і прыходзілі да кампрамісу.

У выніку сфарміраваныя пасля ўсіх узгадненняў выбарчыя спісы БНМ уражвалі надзвычайнай нацыянальнай і сацыяльнай стракатасцю. Сітуацыю, якая ў той час склалася, праз некалькі гадоў дасціпна і дакладна праілюстраваў журналіст Бернард Сінгер: «Ісак Грынбаўм, ксёндз-канонік Клінке, беларускі сацыяліст-рэвалюцыянер Браніслаў Тарашкевіч, украінскі сацыял-дэмакрат Павел Васыньчук, а побач прозвішчы папоў, рабінаў, хасідаў, сялян, памешчыкаў, дзеячаў з псеўдарэвалюцыйнай маркай... Рускія, што знайшлі сябе як украінцы, народныя настаўнікі, якія рабілі толькі першыя крокі ў палітыцы, скампраметаваныя артадаксальныя дзеячы на яўрэйскай вуліцы, і нібыта нават пятлюраўцы — усе апынуліся на адным спісе». Так яно на самай справе і было.

## «І хто шаснаццаць не паложа»

Супраць БНМ польскімі партыямі была разгорнута актыўная прапагандысцкая кампанія з мэтай дыскрэдытаваць блок і зменшыць ягоную падтрымку з боку выбаршчыкаў. Прытым шчыравалі на гэтай глебе не толькі эндэкі, але і польскія партыі левай арыентацыі. Контрпрапаганда эндэкаў грунтавалася перадусім на тым, што хрысціянскія меншасці нібыта сталі сляпой зброяй у руках падступных і варожых ім іншаверцаў-яўрэяў. З боку ж левых партый акцэнт рабіўся перадусім на сацыяльным аспекце — што нямецкія і яўрэйскія багацеі нібыта падманам зачмурылі галовы бедным беларускім і ўкраінскім сялянам, прымусіўшы іх забыцца пра прыродную розніцу класавых інтарэсаў, у выніку ж пакінуць іх ля разбітага карыта, зняўшы ўсе вяршкі самі.

Даваць актыўны адпор такой прапагандзе даводзілася ў выдаванай меншасцямі прэсе, а таксама падчас шматлікіх перадвыбарчых сходаў ды мітынгаў. Упор у контрпрапагандзе рабіўся на тым, што БНМ мае выключна тэхнічны характар і скіраваны толькі на тое, каб правесці тут і цяпер у парламент як мага большую колькасць дэпутатаў. Пасля выбараў жа прадстаўнікі кожнай з меншасцяў будуць дзейнічаць абсалютна самастойна, у адпаведнасці з уласнымі нацыянальнымі інтарэсамі. Увогуле ж пры агітацыі за спіс БНМ

## Адзінства прыносіць поспех

У выніку блок меншасцяў дабіўся на выбарах вельмі добрых вынікаў, а спробы нядобразычліўцаў яго разбіць так і не далі плёну. Наадварот — не здолелі прыйсці хоць бы да адноснага адзінства польскія партыі, раздробленасць якіх дала меншасцям дадатковы шанец, які быў выдатна скарыстаны. Супольнымі намаганнямі меншасці здабылі на выбарах у Сейм 55 дэпутацкіх мандатаў у асобных акругах, а 11 атрымалі ў якасці «прэміі» з дзяржаўнага спісу. На выбарах у Сенат адпаведныя лічбы былі 17 і 4. Дэпутатамі Сейма ад БНМ сталі 20 украінцаў, па 17 яўрэяў і немцаў, 11 беларусаў і 1 рускі, сенатарамі — 8 яўрэяў, 6 украінцаў, 5 немцаў, 3 беларусы і 1 рускі. Пацвердзілася старая ісціна, што нішто не можа аб'ядноўваць больш надзейна, як наяўнасць супольнага ворага і страх перад ім. Асабліва ўражвалі поспехі блока ў акругах Валынскага ваяводства, дзе масавае галасаванне за спіс №16 мясцовага ўкраінскага і яўрэйскага насельніцтва дазволіла БНМ забраць абсалютна ўсе і дэпутацкія, і сенатарскія мандаты. Былі, вядома, і такія акругі, у якіх вынікі блока былі куды горшыя, чым спадзяваліся, але ў цэлым ніводзін з ягоных удзельнікаў не адчуў сябе надта расчараваным дасягнутым. Заставалася толькі здабытыя поспехі не змарнаваць. ◆

# Апошні план паратунку Рэчы Паспалітай: чаму ўсё пайшло не так

## Панятоўскі стаў каралём на расійскіх штыхах, але меў план выратавання Рэчы Паспалітай. Ён зрабіў стаўку на аднадумцаў, і адным з іх быў Тызенгаўз

**Кожны падручнік па гісторыі Беларусі згадвае грандыёзныя рэформы Антонія Тызенгаўза. Праўда, у падручніках складана знайсці ўцямнае тлумачэнне, чаму ж гэтыя пачынанні правaліліся, піша гісторык Андрэй Вашкевіч.**

У канцы лета 1778 года ў Гродна прыехаў англійскі вандроўнік Уільям Кокс. Ён прайшоўся па сярэднявечных вуліцах навокал гарадскога рынка, пастаяў на Замкавай гары, а на наступны дзень завітаў на абед да «віцэ-канцлера Літвы», гродзенскага старасты графа Антонія Тызенгаўза. За сталом сядзелі 80 шляхціцаў, якія з'ехаліся на павятовы соймік. Гэтыя ганарыстыя нашчадкі сарматаў у кунтушах і з шаблямі цалавалі ніз вопраткі старасты, а некаторыя проста падалі яму ў ногі. Было бачна, што ў Гродне Тызенгаўз — не толькі падскарбі літоўскі ды мясцовы староста. Ён быў мясцовым дыктатарам, якому тут безумоўна падпарадкоўваліся ўсе: і прыгонны селянін, і майстар-немец, і французскі лекар, і нават прадстаўнік «шляхецкага народу», прадзед якога граміў туркаў пад Венай.

Кокс быў уражаны пераўтварэннямі Тызенгаўза. На месцы ранейшай дзяржаўнай вёскі Гарадніца паўстаў адміністрацыйны цэнтр эканоміі з дзясяткамі новых будынкаў. Казармы, склады, дамы для майстроў, школы, батанічны сад і нават першая ў сучаснай Беларусі кавярня... Англічаніну паказалі велізарныя будынкі мануфактур, дзе сотні сялян пад кіраўніцтвам майстроў-іншаземцаў выраблялі паясы «па тыпе слуцкіх», шаўковыя панчохі, карункі, ігральныя карты, агнястрэльную зброю, шыкоўныя экіпажы.

Усе памкненні Тызенгаўзаператварыць Гродна ў «квітнеючую Галандыю на Нёмане» выглядалі перспектыўнымі. Аднак назіральны падарожнік таксама падслухаў і занатаваў у сваім дзённіку словы прыгоннага хлопца, вучня на мануфактуры, якія прагучалі прысудам для ўсёй тызенгаўзаўскай справы: «Якую карысць я атрымаю з таго, што зраблю ўсё, як вы жадаеце? Нават калі я стану майстрам у гэтай прафесіі, то застануся рабом, і праца будзе маёй, але прыбытак — ваш».

### Хацеў як лепш — і ўзмацніў кантроль

Зорка Антонія, нашчадка лівонскіх рыцараў Тызенгаўзенаў, пачала ўзыходзіць у пачатку 60-х гадоў XVIII стагоддзя



**Антоній Тызенгаўз.** Барэльеф Т. Дыкса, 1886–1887 гады.

і дасягнула зеніту пасля таго, як у 1764 годзе каралём Рэчы Паспалітай стаў Станіслаў Аўгуст Панятоўскі — аднагодак і зямляк Тызенгаўза.

Панятоўскі стаў каралём на расійскіх штыхах, але ён не быў звычайнай марыянеткай імператрыцы Кацярыны II. Кароль меў план выратавання Рэчы Паспалітай і для яго рэалізацыі шукаў людзей маладых, ініцыятыўных, адным словам — аднадумцаў. Антоній Тызенгаўз акурат падыходзіў на гэтую ролю і цягам аднаго года атрымаў пасады гродзенскага старасты, падскарбія літоўскага і кіраўніка ўсіх дзяржаўных уладанняў у Вялікім Княстве Літоўскім. З'явіўся шанец перарабіць жыццё ў Рэчы Паспалітай так, каб пазбавіць краіну ганебнай мянушкі «заезная карчма», куды кожны можа ўвайсці, выпіць, пад'есці і пайсці, нічога не заплаціўшы.

Пачынаць эканамічныя пераўтварэнні вырашылі з велікакняжацкіх уладанняў



**Марчэла Бачарэлі. Партрэт караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў каранацыйным строі (1768).**
З калекцыі Каралеўскага замка ў Варшаве.

на Літве і Беларусі. Гэта былі вялізныя абшары з тысячамі вёсак, пушчамі, поўнымі рыбы азёрамі і сплаўнымі рэкамі. Трэба было адабраць усе гэтыя расцярушаныя ўладанні ў арандатараў, сістэматызаваць павіннасці насельніцтва і навучыцца правільна карыстацца багаццямі лясоў і рэк. Тызенгаўз загадаў ачысціць ад камянёў і паглыбіць рэчышча Нёмана — галоўнай гандлёвай артэрыі заходняй часткі Вялікага Княства Літоўскага. Складаліся падрабязныя карты і апісанні эканомій, у лясах закладаліся прадпрыемствы для вытворчасці паташу, дзёгцю, вапны, драўніннага вугалю.

Самай складанай справай аказалася ўпарадкаванне павіннасцей прыгонных сялян. У некаторых эканоміях сяляне ўжо даўно плацілі падаткі грашыма, а такія формы павіннасцей, як паншчына або гвалты, былі зведзеныя да мінімуму, а для некаторых груп сялян увогуле скасаваныя. Дый пачуваліся дзяржаўныя сяляне даволі свабодна. Напрыклад, маглі змяняць месца свайго жыхарства. Антоній Тызенгаўз рашуча стаў на шлях узмацнення прыгону. Сялянам масава вызначаліся вельмі цяжкія адпрацовачныя павіннасці і натуральныя падаткі — найперш збожжам.

З пункту гледжання сучаснага разумення эканамічнай мэтазгоднасці такія крокі рэфарматара выглядаюць зусім нелагічна. І многія тагачасныя эканамісты і філосафы лічылі, што прыгон трэба не ўзмацняць, а пакрысе адмяняць. Аднак гродзенскі староста меў пра ўсё ўласнае меркаванне. Ён нават казаў, што не чытае кніг, бо ў іх аўтары выказваюць свае ідэі, а яму дастаткова ўласных ідэй і планаў.

**Хоць Станіслаў Аўгуст і быў каралём-гуманістам, аднак траціў ён на свой двор аж сем мільёнаў злотых на год**

### Грошы супакоілі каралеўскае сумленне

Узмацненне павіннасцей для прыгонных сялян пазбаўляла іх шанцаў на хуткае ўзбагачэнне і скасоўвала тыя пачаткі таварна-грашовых адносін, якія пачалі фарміравацца на вёсцы ў мірныя гады кіравання Саксонскай дынастыі (1720–1760-я). Аднак пачатковы эфект пераўтварэнняў быў відавочны — у скарб пацёк струменьчык выціснутых з сялян грошай. Хоць Станіслаў Аўгуст Панятоўскі і быў каралём-гуманістам, аднак траціў ён на свой двор аж сем мільёнаў злотых на год. Некалькі дадатковых мільёнаў злотых ад літоўскіх ды беларускіх сялян прымусілі каралеўскае сумленне надоўга замаўчаць.

У 1766 годзе пачаліся хваляванні сялян у Шавельскай эканоміі (цэнтр яе — горад Шаўляй (Шаўлі) — знаходзіцца на поўначы сучаснай Літвы). Мясцовыя гаспадары плацілі грашовы чынш пачынаючы з сярэдзіны XVII стагоддзя, таму ўзмацненне прыгону стала для іх сапраўднай катастрофай. Шматлікія скаргі сялян на непасільныя павіннасці ды злоўжыванні перасылаліся з Варшавы на стол самога Тызенгаўза, але не мелі ніякага эфекту. ▶



Камяніцы Тызенгаўза ў Паставах.

ФОТА: АНТОН МАКОЎСКІ, WIKIPEDIA COMMONS

У выніку даведзеныя да адчаю сяляне паўсталі. Гэта быў не бунт вясковай беднаты, а свядомы пратэст гаспадароў на чале са сваімі войтамі і найбольш аўтарытэтнымі гаспадарамі. Паўстанне жорстка задушылі бароны з недалёкай Курляндыі, якім Тызенгаўз пасля аддаў ваколіцы Шаўляў у арэнду. Войтаў, якія ачольвалі пратэст, калесавалі і чвартавалі.

На Гродзеншчыне такога адкрытага пратэсту не было, хоць беларускія сяляне пачалі папросту ўцякаць з эканоміі, падпальваючы «на дарожку» свірны з дзяржаўным збожжам.

Тым не менш грошы, атрыманыя ад сельскай гаспадаркі, папаўнялі скарб. Іх можна было пусціць не толькі на каралеўскі двор, але і на развіццё прамысловасці.



Карта Катранскага ключа Гродзенскай эканоміі. XVIII стагоддзе.

## Беларускія сяляне пратэставалі ціха — яны проста падпальвалі склады

### Стаўка на шоўк і карункі

Пачынаючы з другой паловы 60-х гадоў XVIII стагоддзя Тызенгаўз пабудаваў у ваколіцах Гродна больш за дваццаць мануфактур. На рэчках Гараднічанка і Ласасянка (вада была галоўным рухавіком на фабрыках той эпохі) апрацоўвалі скуры. На мануфактурах ткалі палатно і выпроствалі яго (згодна з тагачаснай тэрміналогіяй — фалявалі, адгэтуль і назва сучаснага гродзенскага мікрараёна Фолюш), выраблялі патрэбныя ў будаўніцтве цвікі і іншыя рэчы.

Але Антоній Тызенгаўз не асабліва ганарыўся гэтымі сапраўды прыбытковымі прадпрыемствамі, пачаўшы адну за другой будаваць фабрыкі, дзе выраблялася прадметы раскошы. На адной з іх рабілі карэты коштам чатыры тысячы злотых, на другой круцілі галуны і пазументы (залатую і срэбную тасьму), на трэцяй ткалі слуцкія паясы з сапраўднымі залатымі ніткамі...

Попыт на такія тавары быў малы, склады хутка запаўняліся прадукцыяй, у выніку ў чаканні кліента на іх пыліліся вырабы агульным коштам у сотні тысяч злотых. Між тым сыравіна для вырабу дарагіх забавак для магнатаў прывозілася з Заходняй Еўропы, у выніку зароблены крывавым мазалём сялян злотыя цяклі за мяжу. Антоній Тызенгаўз рэалізоўваў усё новыя і новыя праекты — напрыклад, пасадзіў на Гарадніцы шаўкоўніцы, разлічваючы праз дзесяць-пятнаццаць гадоў забяспечыць мясцовых шляхцянак шаўковымі панчохамі з айчыннай сыравіны.

На фабрыках працавалі паўтары тысячы прыгонных з ваколіц Гродна. Сюды забіралі маладых хлопцаў і дзяўчат, пры гэтым іх бацькам з навакольных вёсак нават не зніжалі павіннасцей. Эфектыўнасць працы на мануфактурах была нізкая, бо былы селянін, стоячы па 13 гадзін за ткацкім варштатам, працягваў марыць пра працу ў полі, таксама цяжкую, але на вольным паветры.

### Канец вялікага рэфарматара

Тым часам няўхільна набліжаўся час велізарных выплат па замежных пазыках. Трэба было сплачваць грошы ў скарб, але прыбыткаў і ад мануфактур, і ад сельскай гаспадаркі паступала ўсё менш. Фабрыкі толькі забіралі грошы, а насельніцтва гродзенскай эканоміі ў тыя мірныя гады пачало нават скарачацца. Вясной 1780 года стала зразумелым, што Антоній


Вырабы мануфактур XVIII стагоддзя.

Тызенгаўз — банкрут. Над амбітным старастам збіраюцца хмары, а ён, быццам нічога не адбывалася, шукаў у Варшаве новага балетмайстра для сваёй танцавальнай школы...

Развязка наступіла хутка. Тызенгаўз даведаўся, што ў Гродна едзе новы кіраўнік эканоміі, пасля чаго загадаў вывезці ў адзін са сваіх маёнткаў архіў і частку рухомай маёмасці. Праўда, самыя важныя дакументы служачыя эканоміі ўсеўладнаму старасту не аддалі. У ноч з 25 на 26 ліпеня 1780 года абоз з чатырох дзясяткаў вазоў на чале з Тызенгаўзам выехаў з Гродна.

Да канца гісторыі Рэчы Паспалітай заставалася яшчэ 15 доўгіх гадоў, але адзін з самых амбітных мадэрнізацыйных праектаў дзяржавы ўжо скончыўся няўдачай. Тызенгаўзу ніхто больш не давяраў, кароль не хацеў з ім нават сустракацца. У 1785 годзе граф памёр у стане, блізкім да псіхічнай хваробы.

Да канца XVIII стагоддзя дажылі толькі шэсць з больш як дваццаці Тызенгаўзавых мануфактур. Гэта былі акурат закладзеныя ў першую чаргу палатняныя фабрыкі і гарбарня. У 1795 годзе землі Гродзенскай эканоміі былі падзеленыя паміж Прусіяй і Расіяй, па Ласасянцы прайшла мяжа, а вялікія будынкі навучальных установаў і фабрык на Гарадніцы былі прыстасаваныя пад казармы для расійскіх салдат. У палацы Антонія Тызенгаўза пасяліўся расійскі генерал-губернатар. Менавіта тут 25 лістапада 1795 года фактычны расійскі вязень Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў акт свайго адрачэння ад трону, чым паставіў кропку ў гісторыі Рэчы Паспалітай. ◆



WIKIPEDIA COMMONS

**Тызенгаўз не сачыў за даходамі прадпрыемстваў, яго цікавіў прэстыж: выраб карэт і шаўковых панчох**

**Ян Рустэм. Партрэт Антонія Тызенгаўза (1819).**
З калекцыі Мастацкага музея Літвы.
Справа — герб роду Тызенгаўзаў.



ФОТА Г. ШАШПА, WIKIPEDIA COMMONS

**Тэатр Тызенгаўза ў Гродне. Цяпер гэта Тэатр лялек**, і стаіць ён па адрасе Дзяржынскага, 1/1.

**Вясной 1780 года стала зразумелым, што Антоній Тызенгаўз — банкрут. Ён у гэты час, быццам нічога не адбывалася, шукаў у Варшаве новага балетмайстра для сваёй танцавальнай школы**

# Адзін дзень з жыцця **мінскага юрыста** ў 1600 годзе

## На аснове старадаўніх судовых кніг гісторык Вольга Бабкова аднавіла ўнутраны свет і штодзённыя клопаты мінчука XVI стагоддзя

**Нашаму Мінску ўжо 900, і страшна падумаць, колькі народу жыло тут да нас. Якім было іх жыццё? Наш герой — праўнік, работнік гарадскога суда. Жыў у раёне гандлёвага дома «На Нямізе», працаваў каля метро. Звычайны хлопец, праўда, з XVI стагоддзя. І арыенціры ў ягоным Менску былі зусім іншыя, чым у нас. Якія? Чытайце ў артыкуле.**


ФОТА ВОЛЬГІ БАБКОВАЙ

**П — праўнік.**

Дом, дзе разам са сваім бацькам жыў Тодар Непрывальніцкі, стаяў на Глухім завулку паблізу рэчкі Нямігі. Зямля там была не вельмі зручная для жытла. Пляцы заліваліся вадой і падоўгу пуставалі. Таму жыхароў, якія вырашалі тут будавацца, вызвалялі амаль ад усіх гарадскіх падаткаў, акрамя аднаго — плаціць 12 грошаў на падтрымку ўмацаванняў Менскага замка. Побач з камянічкай Непрывальніцкіх стаялі драўляныя дамкі краўца і *бальвера*. Так у тыя часы называлі цырульніка-лекара — слова прынеслі італьянцы з атачэння каралевы Боны. А за рэчку праз кладкі можна было хадзіць на гасціну па кнігі да знаёмага Леўкі Рымлянда, а па цыбулю ды іншую раннюю зяляніну — да братоў Ахмета і Мустафы Мартузічаў (іх дамы стаялі там, дзе цяпер пачынаецца вуліца Камсамольская).

Непрывальніцкі і праўда, як казала ягонае прозвішча, жыў не пры вале. Затое працаваў у замку, які атачалі магутныя валы. Хлопец быў падпіскам Менскага гродскага суда — запісваў ды перапісваў у судовыя кнігі людскія скаргі і запаветы. Пісьму Тодар навучыўся ў школцы на вуліцы Казьмадзям'янаўскай, што злучала Стары і Новы рынкі ды імкнулася ўгару да ратушы. Ад Тодаравага дома да замка было *як шапкай дакінуць* — так усцешана казала бабця колькі гадоў таму. Цяпер жа яна спачывала на цвінтары пры брацкім шпітальным доме Казьма-Дзям'янаўскай царквы. Любая Тодарава бабця Юзэфа.

### 20.00

Цямнее ў Менску спакваля. Але калі ўжо зробіцца цёмна, дык *хоць уката вочы пазычай* — без святла аніяк. Ніякіх ліхтароў тады не было. Трэба запальваць

лучыну, каб праглядзець ды прачытаць новую кнігу, што даў Леўка на пару дзён. Вялікі масянжовы ліхтар на шэсць свечак у святліцы бацька запальваць часта не дазваляў. Але, бывала, запальвалі, і тады на хмызах пад акном у прыцемках мільгацелі светлыя цені.

## 06.00

Раніцай з ракі мацней цягнула вільгаццю, а туман у цёплыя дні ахутваў суседнія дамы ды дрэвы. На другім беразе Нямігі былі бачныя толькі галовы *цісавых* і *мышатых* коней братоў Мартузічаў. У ранішняй сырадойнай цішы добра чуваць зязюлю, якая падавала голас з няблізкага гаю. Пасля ўсё званчэй адгукаліся пеўні, быдла *рагатае і нерагатае*, сабакі, калёсы, званы, чалавечыя перазовы.

## 07.30

На раніцу добра выпіць яблычнага квасу, пад'есці рыбы, якую штодня прыносіў са Свіслачы бацька. Збіраючы ў палатняную торбу ежу на полудзень, перабіраючы ў прыцемку стос *вуглястых* (клінковых) сыроў пад навесам, перакуліў Тодар аднаго разу кошык маку, якога было там *няпоўна ў палец*, але ж шкоды нарабіў! Змёў у двор разам з пяскам ля парога, а рэшта пратачылася ў шчыліны падлогі. Тодар меў добры почырк, любіў маляваць на краях папераў і, ясная справа, меў добрае ўяўленне. Вось і ўявіў ён на імгненне, як неўзабаве падлога дома ды падворак прарастуць ды зацвітуць макавым цветам, як блізкае поле ля ўрочышча *Сіняя лужа*.

**Казьмадзям'янаўская вуліца** – адна з найстарэйшых і наймілейшых у Менску — амаль не змянілася з часоў Рэнесансу да канца XX стагоддзя. Атрымала назву ад царквы і манастыра святых Казьмы і Даміяна. А ў народзе вуліцу звалі «Цёмныя крамы». Ішла ўгару ад Старога рынка да Новага. Вуліца пацярпела ў вайну, апошнія дамы знеслі ў 1989. Уявіць крамы і храмы Казьмадзям'янаўскай можна ідучы лесвіцай ад выхаду з метро «Няміга» паўз праваслаўны кафедральны сабор Святога Духа да Ратушы.


WIKIMEDIA COMMONS



## 09.00

Дарога да канцылярыі недалёкая. Пры замкавым мосце часам трэба пастаяць, прапусціць падводы, вазы ды вершнікаў, што цугам едуць праз браму па розных справах. Хтосьці з іх, відаць, і па Тодараву душу ў замкавую канцылярыю. Колькі людзей давядзецца пабачыць сённяшнім днём — аднаму Богу вядома. Няхай бы тая ранішняя малітва перад старым абразом бабці Юзэфы была пачутая, і дзень прайшоў без лаянкі і нараканняў. Пакуль затрымка ля брамы, можна пасядзець на траве, паўзірацца ў ваду, на рыбароў, што цягнуць свае нераты. Учора, казалі, злавілі велічэзнага сама, у чэраве якога знайшлі скураны чаравік, грэбень і пярсцёнак з рубінам.

З боку Траецкай гары чуваць званы. Затор каля заезнай брамы доўжыцца ўжо з квадранц часу (чвэрцьгадзіны, кажам мы цяпер). Да берага далятае водгулле спрэчак. Там ужо змяшаліся людскія галасы з конскім гігатаннем, посвіст пугі, нават енкі *белагаловых* (так у часы Тодара называлі жанчын, бо яны насілі хусткі). А па небе тым часам плывуць такія аблокі! Раптоўная

**«Учора ў Свіслачы злавілі велічэзнага сама, у чэраве якога знайшлі скураны чаравік і пярсцёнак з рубінам»**

затрымка дазволіланазіраць такія карціны! Тут табе і чаўны пад ветразем, і мядзведзі, і пугач, што гняздуе на дубе ля дома, і скамарох Тамаш у каўпаку, і рабін Іцка з доўгім носам, і таямнічая рыба-кіт, якую пабачыў на малюнку ў Леўкавай кнізе... Затор тым часам рассмактаўся, і Тодар ускочыў, каб бегчы праз мост у замак, у судовую камору, дзе яго чакаў на стале стос папераў. Ускочыў, ды ледзь не пакінуў на траве палатняную торбу з сырам ды хлебам. ▶

Менскі замак узнік 950 гадоў таму на высокім беразе Свіслачы. Замкавыя валы цягнуліся ад выхаду з метро «Няміга» да Палаца спорту і «Galleria Minsk». Гэта быў такі менскі City, тут жылі і працавалі гарадскія ўлады. Пасля вайны замкавыя валы сталі скопваць. Пра Менскі замак цяпер нагадваюць хіба назвы, напрыклад вуліцы Замкавай.




**Менскі замак, від зверху. 1941 год.** Яшчэ выразна відаць старадаўняя структура валоў і цэнтральная вуліца Замкавая.




**Жанчыны мыюць бялізну** на Свіслачы пад замчышчам.

## 09.30

Паўз замкавага вартаўніка, па драўляным насціле Замкавай вуліцы Тодар хутка крочыў па замку, мімаходзь запрыкмеціўшы прыбітую на ўваходнай браме копію новага *баніцыйнага ліста.* (Прыгавораны да баніцыі чалавек мусіў пакінуць краіну, страчваў грамадзянскія правы, але не гонар.) Урэшце, пра ўсе навіны ён мусіць даведацца ў канцылярыі. Вунь дах камяніцы менскага ваяводы, дзе цяпер знаходзіцца канцылярыя, ужо бачны за другім паваротам. Але лепей павярнуць і абысці краем дом старосты, каб не патрапіць часам пад суворыя вочы, бо і так позніцца да сваіх папераў.

На ганку суда ўжо тоўпіўся навакольны люд. Гаманілі, махалі рукамі, аглядаліся. Хтосьці з іх відавочна чакаў на Тодара. Не паспеў ён дастаць са скрыні ды праверыць новыя пёры ды атрамант, як да стала ўжо падыходзіў густа аброслы валоссем дзядзька ў *магерцы* (валеная шапка без палёў). Цяжка дыхаючы, ён пачаў *абцяжліва жаль свой апавядаць,* просячы *на Бог жывы* даць рады ў ягонай справе. Мінулым днём, *добра ўвечар*, нейкія *чужапанцы на корань выдзерлі зладзейскім звычаем чатыры раі з вульеў* у Койданаўскім двары, а таксама ў *кутку пушчы з дваццаці і двух дубоў мёд выдраўшы*, уцяклі без следу. Былі ў дзядзькі на падазрэнні пэўныя ліхадзеі, але *патуль-пакуль* трэба было ўсё са словаў дбайна запісаць да кніг судовых для памяці, як *артыкул ясна вучыць. Беручы сабе на помач Літоўскі Статут,* Тодар старанна, пазбягаючы *плюгавых* ды *просных* дзядзькавых словаў пра зладзеяў, запісаў аповед у загадзя падрыхтаваныя сшытыя аркушы.

Наступныя наведнікі былі з вёскі Хатыні — *Макей Матфеевіч, Іван Юрковіч, Фёдор Маханковіч, Супрон Пятровіч, Аўсей Левановіч — адныя ў лапцях, іншыя босыя*. Дзядзькі крыкам крычалі, скардзіліся на цыганоў, *галоту і неаселых*, што *праве на захадзе сонца* без ведама гаспадароў скралі ды ўцягнулі немаведама куды каня, казу ды *сані маляваныя*, агульным коштам 18 з паловай коп грошаў, а таксама ручнікі тканыя, паясы ды *хусты белагалоўскія*. Тодар рыпеў пяром, запісваючы са слоў скаржнікаў усе іхнія страты ды крыўды.



ФОТА ВОЛЬГІ БАБКОВАЙ

Пасля быў жыд Марка, купец з Крупак, якога абрабавалі зладзеі на *дабравольнай дарозе, на гасцінцы звыклым*, выцягнуўшы з ягонай *вазовай скрыні* розныя *тавары касматыя*: сабалёў, рысяў, чорных лісаў, якія вёз на гандаль з Масковіі. Паказваў перацяты нос, абарваныя гузікі і пятліцы *золата ніцянога* з *курты замшавай*. Жыд роспачна апавядаў, што ледзь *здароўе сваё ўнёс*, бо ліхадзеі пагражалі *са свету зглaдзіць, а смерць прыправіць*.

Рыпеў пяром Тодар, ажно пяро трэснула. Другое са скрыні дастаў...

Гэтак пралятаў незаўважна ў гармідары, старанні ды пільнаванні цэлы Тодараў дзень у менскай судовай канцылярыі. Староста ўзяў яго, Тодара Непрывальніцкага, каб дапамагаў гродскаму пісару ўсё правільна і справядліва запісваць у судовыя кнігі, выдаваць пры патрэбе копіі і выпісы, не браць дароў ды быць сумленным. А яшчэ сачыць за замка́мі на вялікіх дубовых скрынях, дзе ляжалі ў прыцемку старыя судовыя кнігі. Тодар добра адпрацаваў узімку на *лютаўскіх рочках* (толькі холадна было ў канцылярыі, бо кафляная печ у ваяводавым доме папсавалася), і таму паклікаў яго цяпер староста і на чэрвеньскія рочкі (так называліся судовыя сесіі). Тодар быў гэтаму рады, і бацька ягоны таксама, бо прыносіў прыбытак у сям'ю. Абяцаў пад восень замовіць Тодару *макавы жупан ды цёплы каўпак адамашкавы, падшыты лісой*.




**Магчыма, Тодар марыў пра падобны макавы жупан.** Партрэт каралевіча Аляксандра Сабескага.

## 16.00

У другой палове дня пасля полудня (добра, што паспеў з'есці сыру ды хлеба, але без гарачага, бо на карчму да Зэйды не хапіла часу) паклікалі на Юраўскую, у камянічку, што стаяла пад самай гарой. Пайшлі разам з іншымі ўраднікамі, бальверам ды спаведнікам да старога Язэпа Хмары, што ніяк не мог памерці, але ж паклікаў на складанне сваёй апошняй волі.

У доме было ціха і чыста. Жанчыны маўкліва пасунуліся ад ложка, дзе ляжаў нямоглы ўломны Язэп. «Хачу ўжо ў свой дамок, у сваю зямельку», — прашаптаў стары, а пасля прадыктаваў слабым голасам сваю волю, а Тодар, блізка седзячы ля старога, усё занатаваў:




У імя Божае, станься воля Твая Святая нада мною, грэшным. Амінь. Я, Тамаш Хмара, чыню яўна і азнаймую сім маім тастаментам кожнаму добраму, каму будзе патрэба таго ведаці альбо чтучы сей мой тэстамент слышаць, нынешнім і напотым будучым. Што ж я, Тамаш Хмара, лежачы па Божай волі на смяротнай пасцелі, за добрай памяці і зупольнага розуму напрод паляцаю Пану Богу душу сваю, а цела сваё адпісваю ў апеку жоне сваёй Дароце і сыну свайму Ленарту, якога ўзяў за сына мець, каторы мне, Тамашу, да жывата майго дахаваў і жану маю Дароту маець хаваці да жывата яе…

## 17.00

На вуліцы яшчэ ярка свяціла вечаровае сонца. Да *няшпору* было недалёка. Трэба было вяртацца ў канцылярыю. Ішлі пераважна моўчкі. Думалі кожны пра сваё. Тодар, прыкладам, пра макавы жупан ды пра новую кнігу, што возьме неўзабаве ў Леўкі.

Людзей каля дома ваяводы паменела. Тодар спарадкаваў паперы, навастрыў пёры на заўтра. Відаць, сёння не давядзецца працаваць пры свечках, як здаралася раней, але сыходзіць яшчэ рана. Спрабуючы новыя пёры, ён пачаў крэмзаць ды выводзіць на старых аркушах розныя фігуры, згадваючы аблокі ды знаёмыя абрысы. Вось насаты твар, падобны на тутэйшага аптэкара, вось таўстун з барадой, ▶








**Беларускія судовыя пісары самавыражаліся ў росчырках пяра.**





падобны на папа з Узнясенскага манастыра, а вось нямецкі пірог з грыбамі. Тодар падсунуў да сябе апошні спісаны аркуш, на якім ужо падсох атрамант, ды запісаў, рыхтуючы сябе да заўтрашняга дня: *Тодар Непрывальніцкі ў тых кнігах дапісаў, бо дай здароўя, другіх пачаў,* — і дамаляваў побач птушку.

**«Тодар Непрывальніцкі ў тых кнігах дапісаў, бо дай здароўя, другіх пачаў»**

Гэтак, пачаўшы ад ранку аж да *нешпару,* вечаровай малітвы, у замку менскім працаваў разам з іншымі нядаўні шкаляр Тодар. *Даўшы руку на адстанне* пісару, які сыходзіў апошнім, Тодар пакрочыў да дому. У прыцемках па дарозе шмат чаго запрыкмеціў, падзівіўся, абышоў, каб не ўступіць...

## 19.30

Пад'еўшы ды пагартаўшы Леўкаву кнігу, пайшоў са святліцы да сябе ў камору. Лежачы ў ложку разам з катом, раптам падумаў, гледзячы ў цёмную столь: «А куды я знікаю, калі заплюшчваю вочы і засынаю? І куды знікае гэта ўсё?» ◆



PUBLIC DOMAIN PICTURES

# Як хавалі памерлых у Вялікім Княстве Літоўскім

**Прыгледзьцеся да камянёў у сваёй мясцовасці — можа быць, гэта не проста валун, а помнік на забытай магіле? Кандыдат гістарычных навук Дзяніс Лісейчыкаў вывучае старажытныя могілкі. Ён расказвае, як нашы продкі рыхтаваліся да пахавання, афармлялі помнікі і дзе цяпер можна ўбачыць старыя надмагіллі.**

«Светлыя-светлыя нашы памерлыя, цёмныя-цёмныя нашы штодзённыя», — спяваецца ў вядомай песні. Ніякавата робіцца ад разумення таго, што за ўсю гісторыю чалавецтва нарадзілася больш за сто мільярдаў чалавек, а сённяшняе насельніцтва планеты складае толькі сем з паловай мільярдаў. Нашых мёртвых у дзясяткі разоў больш за нашых жывых.

Што засталося ў нас па продках? Камяні дзіўнай формы, замшэлыя крыжы, старыя надмагіллі. Іх можна сустрэць у кожным кутку колішняга Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — ад Вільні да Магілёва і ад Полацка да Пінска.

Надмагільны крыж XVII ці XVIII стагоддзя ў Мінску на тэрыторыі епархіяльнага ўпраўлення БПЦ.

# «Нічога не ест пэўнейшага над смерць а нічога непэўнейшага над гадзіну смерці»

На многіх камянях ёсць надпісы, але прачытаць іх можа не кожны. Нашчадкі жыхароў Вялікага Княства развучыліся чытаць напісаныя продкамі кірылічныя тэксты, таму знаходкі надмагілляў XVI—XVII стагоддзяў нярэдка нараджаюць кур'ёзныя легенды пра камяні з «рунічнымі» надпісамі альбо пра старажытныя язычніцкія ахвярнікі. За руны часта прымаюць даты смерці, напісаныя кірылічнымі літарамі. Хоць прачытаць іх нескладана: літары ад «а» да «Ѳ» абазначаюць лічбы ад 1 да 9, спалучэнне наступных літар алфавіта — дзясяткі і сотні.

## Месца пахавання выбіралі самі і прапісвалі ў завяшчанні

Нашы продкі загадзя пісалі свае тастаменты (завяшчанні), правілам складання якіх былі прысвечаны асобныя раздзелы ў Статутах ВКЛ.

Пра месца вечнага супакою дбалі яшчэ пры жыцці, а самыя прадбачлівыя думалі і пра неабходнасць эпітафіі. Напрыклад, ксёндз-вікарый касцёла ў мястэчку Індура Гарадзенскага павета Мацей Грыўна ў 1591 годзе пісаў: «Калі Пан Бог душу маю з гэтым целам маім грэшным раздзяліці вырашыць і да хвалы сваёй возьме, тады цела маё грэшнае мае быць прывезена ў места Горадна, і мае быць прывезена і пахавана ў касцёле рымскім, яка на ксяндза належыць. І эпітафіум над целам маім завесіці маюць».

## Рыхтавалі помнік яшчэ пры жыцці (маглі і некалькі)

У жыхароў сучасных мегаполісаў выклікае шок звычай, які захаваўся пераважна сярод сялян, — прыжыццёвая ўстаноўка сваіх надмагілляў з прабеламі на месцы даты смерці. Між тым гэта ▶

ФОТА ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

У першай палове XVII стагоддзя ў некаторых эпітафіях пачалі з'яўляцца пазначэнні канфесійнай прыналежнасці нябожчыкаў. Асабліва гэта тычылася вялікіх гарадоў, дзе паралельна маглі існаваць праваслаўная і ўніяцкая супольнасці. Яшчэ да канца 1940-х гадоў у будынку царквы Св. Пятра і Паўла ў Мінску можна было бачыць пліту, пад якой была пахавана Марыя Іванаўна Геленачэвіч, «мяшчанка менская паслушэнства ўсходняга, веры праваслаўнае грэчаскае ў духу дшчэр».

Надмагілле Марыі Геленачэвіч не захавалася, але некалькі старажытных надгробкаў у Мінску яшчэ можна ўбачыць. Напрыклад, каменны крыж на магіле невядомага мінчука XVII стагоддзя ў Ракаўскім прадмесці або надмагільныя камяні, звезеныя з розных месцаў у Музей валуноў ва Уруччы.


ФОТА ЮРЫЯ ЛАЎРЫКА

Надгробак «усялякае чці годнага» «інака багабойнага» Арсеня Азаровіча з эпітафіяй у вершах і прыпіскай: **«Жыў лет 74. Умер року 1652».**

▶ даўняя традыцыя. Вельмі практычна: сам абіраеш, што за помнік будзе стаяць на тваёй магіле, а дату смерці дапішуць сваякі альбо сябры. Калі, канешне, не забудуць ці не палянуюцца. Добрая чвэрць вядомых надмагілляў XVI—XVII стагоддзяў мае такія прабелы-лакуны ў годзе смерці. Болей за тое, вядомыя выпадкі, калі існавалі два надмагіллі па адным і тым жа чалавеку, замоўленыя ім самім у розныя перыяды жыцця! Напрыклад, адзін з «айцоў» Берасцейскай царкоўнай уніі Кірыла Цярлецкі адно надмагілле замовіў у 1580-х гадах, калі быў турава-пінскім епіскапам, а другое — у пачатку 1600-х, калі быў ужо епіскапам луцка-астрожскім. Апошняе з іх сёння можна ўбачыць у Музеі старажытнабеларускай культуры ў Мінску. На ім, дарэчы, ёсць прабел не толькі ў апошніх лічбах года, але і ў днях месяца. Да таго ж яно, верагодна, з'ўлялася верхняй часткай каменнай труны, што дае магчымасць вылічыць рост уладыкі Кірыла: не вышэйшы за 158 см, і гэта, імаверна, яшчэ ў абутку і галаўным уборы.

## Афармлялі помнік вершамі

Найбольш адукаваныя жыхары Вялікага Княства думалі не толькі пра тое, *што* будзе напісана на іх надмагіллі, але і *як* гэта будзе напісана. У гэтым шэрагу вылучаюцца вершаваныя эпітафіі. Багацце вобразаў залежала ад фантазіі аўтара — паэта мог натхняць выгляд храма, фундаванага нябожчыкам, альбо гадзіннік на гарадской ратушы, які адлічвае небараку хвіліны зямнога жыцця. Квяцістыя надмагіллі з вершаванымі надпісамі мелі жонка менскага бурмістра Марыя Маслянка († 1590-я гады) і манах магілёўскага Богаяўленскага манастыра Арсень Азаровіч († 1652 г.).

## Рабілі адзін помнік на некалькі чалавек

У мэтах эканоміі практыкаваўся выраб дарагога надмагілля адразу на некалькі асоб. Так, яшчэ і сёння ў віленскай царкве Св. Тройцы ў базыльянскіх мурах знаходзіцца «сямейная» пліта над пахаваннем бурмістра Апанаса Брагі і яго сына Антона. Яны памерлі ў 1576 і 1580 гадах адпаведна.

## На помніку пералічвалі ўсе заслугі і дасягненні

Надмагілле было добрым месцам для пералічэння дасягненняў чалавека, які пад ім пахаваны. У канцы XVI стагоддзя браты Зміцер і Фёдар Скуміны-Тышкевічы праславілі сваю маці Марыну ў разгорнутай эпітафіі-жыццяпісе, якую змясцілі ў царкве вёскі Дзікушкі Лідскага павета. Па сутнасці, гэта быў помнік маці-«гераіні».

Сучаснікаў у асобе Марыны Тышкевіч уражвала ўсё: доўгі век, вернасць мужу-нябожчыку, які рана пакінуў гэты свет, і нарэшце колькасць нашчадкаў — «больш васьмі дзеці». Знакаміты аматар гісторыі і археалогіі XIX стагоддзя Яўстах Тышкевіч у адной з кніг яшчэ больш праславіў сваю легендарную прабабулю. Занадта захапіўшыся расшыфроўкай «рускіх» тэкстаў XVI стагоддзя, ён прачытаў слова «осмі» [васьмі] як кірылічныя лічбы «838». Менавіта з такой колькасцю нашчадкаў з лёгкай рукі свайго далёкага праўнука і ўвайшла ў гісторыю Марына Тышкевіч. Скарот «в том панстве В(ялікім) К(нястве) Лет(оўскім) знаёмая» Яўстах з той жа прычыны прачытаў як «в том панстве


ФОТА ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

Надгробак «вялебнага епіскапа» Кірылы Цярлецкага (памёр у 1607 годзе) **з прабеламі на месцы года і месяца смерці.**

в 20 лет знаёмая». Тым самым Марына не толькі набыла фантастычную колькасць нашчадкаў, але і атрымала штосьці ад вобразу Жанны д'Арк альбо Эміліі Плятэр — такой сабе 20-гадовай дзяўчыны, папулярнай на ўсю краіну.

## Надпіс на магіле быў замест пасведчання пра смерць

Надмагіллі былі закліканы не толькі служыць напамінам пра памерлых. Іх змест упоравень з тэкстамі пергаментных і папяровых дакументаў выкарыстоўваўся ў афіцыйным справаводстве пры вырашэнні канкрэтных задач. Калі ў 1642 годзе з'явілася неабходнасць пацвердзіць дакладны час смерці магілёўскага мешчаніна Івана Анісімавіча, у актавай кнізе магілёўскага магістрата з'явіўся запіс: «Пан лаўнік Сямён Іосіфавіч па ўказанні ўладаў хадзіў у брацкую царкву і там надгробак у такія словы «Пан Іван Анісімавіч, прыставіўся року 1623 месяца дзекабра 5 дня» пісаны бачыў».

## Нашчадкі выкарыстоўвалі старыя надмагіллі для новых патрэб

У 1952 годзе матросы пінскай рачной флатыліі пры правядзенні земляных работ каля будынкаў былога езуіцкага калегіума выкапалі камень. Навуковыя супрацоўнікі краязнаўчага музея прачыталі толькі адзін надпіс на ім: «Року 16(...).Тут ляжыць Ждан, залатар пінскі». Але калі прыгледзецца больш уважліва, то можна ўбачыць, што імя пінскага ювеліра Ждана высечана паверх ранейшага запісу. Бачны толькі фрагмент, але і яго дастаткова, каб зразумець сэнс: «[Года] 1599 месяца мая 16 дня ... раб Божы Афанасій Андрэевіч Скародка ... а жана яго Феўдора». У самым нізе пліты бачны кавалак яшчэ аднаго пазнейшага запісу, зробленага ў той жа стылістыцы, што і запіс пра ювеліра Ждана: «Року 1615. Тут ляжыць ...».

Значыць, ужо ў 1615 годзе на сям'ю Скародкаў у Пінску забыліся, а прадстаўнікі заможнага мяшчанства выбівалі на іх надгробку паверх іхніх імёнаў новыя эпітафіі, больш густоўныя і мастацкія. Але няўжо ва ўсім Пінску не было каму заступіцца за памяць па Скародках? Дакументы другой паловы XVI стагоддзя сапраўды не згадваюць сярод пінчукоў аніводнага носьбіта гэтага прозвішча. Затое цэлы шэраг Скародкаў у канцы XVI—XVII стагоддзяў сустракаецца ў дакументах, складзеных на ўкраінскіх землях і блізкім да іх Гомельскім старостве. Сярод іх ёсць нават адзін Апанас Скародка, які ў чэрвені 1595 года жыў у мястэчку Вяледнікі каля Оўруча на Валыні. Гэта можа быць простым супадзеннем, але менавіта ўвосень 1595 года на Валынь прыйшлі паўстанцкія казацкія загоны Севярына Налівайкі. У лістападзе яны рушылі на поўнач, на беларускія землі, маючы ў сваіх шэрагах мноства паказачаных сялян і мяшчан. Ці так ўжо неймаверна, што пахаваны ў пінскай царкве Апанас Скародка мог быць адным з такіх прыхадняў? Магчыма, таму пінскія мяшчане і паспрабавалі хутка знішчыць пасмяротную памяць пра сям'ю гэтага чалавека. ▶



ФОТА ВІТАЛЯ ГЕРАСІМЕНІ, ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

## Могілкі, якім 400 гадоў, захаваліся ў вёсцы Малькавічы каля Ганцавіч



Ці рэальна сёння ў Беларусі на свае вочы ўбачыць цэлы некропаль XVI—XVII стагоддзяў з сотнямі камянёў? Вы не паверыце — так! Дзеля гэтага варта наведаць вёску Малькавічы Ганцавіцкага раёна, на ўскрайку якой на ўзвышшы захавалася старое царковішча і могілкі сярод колішніх балотаў, яшчэ 400 гадоў таму вядомыя як Пагосцкі востраў. Там можна знайсці **магілу малькаўкі Настассі 1585 года** (на фота справа), мясцовага шляхціча Мяфодзія Камаровіча 1600-х гадоў і цэлы шэраг іншых цікавых помнікаў з яшчэ непрачытанымі надпісамі. Але як сказана ў адной са зніклых эпітафій каля возера Нарач: «Ого-го, ого-го, што каму да таго».

## Надпісы на помніку рабілі не так і часта

Далёка не кожны чалавек меў магчымасць замовіць багата аздоблены помнік з разгорнутай эпітафіяй. Большасць надмагільных камянёў не мае ніякіх надпісаў. У лепшым выпадку на іх змешчана толькі выява крыжа. Надпісы калі і ёсць, то самыя лаканічныя: «1598. Іван» альбо «Мар'я. Року 1630». У апошнім выпадку пад каменем, магчыма, пахавалі ахвяру эпідэміі чумы, якая менавіта ў гэтым годзе чарговы раз пракацілася па Вялікім Княстве Літоўскім.

Памяць па ахвярах эпідэмій і ваенных ліхалеццяў знаходзіла сваё адлюстраванне і ў калектыўных помніках. Побач з вёскай Сокарава каля ракі і мястэчка Улы яшчэ ў XIX стагоддзі стаяў каменны крыж з надпісам, што ў гэтым полі ў 1569 годзе былі пахаваныя салдаты – «200 жаўнер». Выява помніка нам вядома толькі па замалёўках, і апошняя лічба ў даце, магчыма, не 9 (у кірылічным абазначэнні «Ѳ»), а 4 (кірыліцай – «Д»). Хто ведае, можа, менавіта тут у 1564-м адбылася знакамітая бітва на Уле паміж войскам Вялікага Княства Літоўскага і маскавітамі? ◆

Аўтар выказвае шчырую падзяку Вользе Бабковай, Антону Брылю, Дзмітрыю Віцько, Віталю Герасіменю, Сяргею Грунтову, Валерыю Кабрынцу, Міколу Кузічу, Юрыю Лаўрыку, Дзмітрыю Скварчэўскаму, Галіне Флікоп-Світа.


ФОТА ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

**Надгробак віленскага бурмістра Апанаса Брагі і яго сына:** «Тут ляжыць раб Божы Афанасей Фёдаравіч Брага, бурмістр места Віленскага. Тут жа ляжыць і сын яго Антоній».


ФОТА ДЗМІТРЫЯ СКВАРЧЭЎСКАГА

**Лаканічны надпіс** на помніку.


ФОТА ДЗЯНІСА ЛІСЕЙЧЫКАВА

**Пінскі надгробак з трыма надпісамі рознага часу.**

# ЯНУШКЕВІЧ выдавецтва




**JANUSKEVIC.BY з'яўляецца выдавецкай кнігарняй выдавецтва «Янушкевіч».** Мы пачыналі з выдання навуковых і навукова-папулярных кніг па гісторыі Беларусі. Сёння вялікую ўвагу надаём таксама мастацкай літаратуры. Наша мэта — пашыраць беларускую кніжную прастору на ўсіх універсальных кірунках.

У выдавецтве штогод выходзіць каля трох дзясяткаў найменняў кніг. І ўсе яны адразу з'яўляюцца ў продажы на JANUSKEVIC.BY, прытым па найніжэйшых коштах.

Сярод нашых аўтараў Людміла Рублеўская, Вінцэсь Мудроў, Макс Шчур, Андрэй Чарнякевіч, Андрэй Вашкевіч.

Кнігі, якія сталі бестселерамі: «Сакатала бочачка. Праўдзівая гісторыя нашых напояў» Алеся Белага, «Сэксуальная рэвалюцыя ў Савецкай Беларусі» Аляксандра Гужалоўскага, «1939 год і Беларусь. Забытая вайна» Анатоля Трафімчыка, «1813» Уладзіміра Садоўскага.










У выдавецтве «Янушкевіч» выходзіць шмат перакладаў замежнай літаратуры — як класічнай, так і сучаснай. Пабачылі свет кнігі Кнута Гамсуна, Габрыэля Гарсія Маркеса, Ісмаіля Кадарэ, Артура Конан Дойла, Антоніа Табукі, Фларыяна Чарнышэвіча.

Цяпер у выдавецкай інтэрнэт-кнігарні даступныя для пакупкі больш за 50 найменняў кніжак на розны густ. Цэны на JANUSKEVIC.BY найніжэйшыя, паколькі вы набываеце наўпрост у выдаўца. Акрамя таго, існуюць разнастайныя бонусы і зніжкі.

У нас працуе дастаўка: па Мінску замову прывязуць проста ў рукі, па Беларусі даставім поштай. Арганізаваны самавываз з офіса ў цэнтры Мінска.

У найбліжэйшы час у выдавецтве «Янушкевіч» з'явіцца шмат навінак. Для дзяцей — «Кот Шпрот і таямніца атракцыёнаў» Ганны Янкуты з ілюстрацыямі Лілі Давыдоўскай, «Лета Гармана» нарвежскага пісьменніка Стыяна Холе (пераклад Юлі Цімафеевай). Аматары гістарычнага рамана змогуць павандраваць па Галандыі «Залатога стагоддзя», Францыі часоў Рэшэлье і Мазарыні, Англіі часоў рэвалюцыі з героем кнігі Ірыны Данейскай «Нямецкі прынц Багуслаў Радзівіл». «Як пісалі класікі» Расціслава Семківа дазволіць зазірнуць у творчы працэс сусветна вядомых аўтараў. А прэміяльную літаратуру па-беларуску папоўняць «Стамбул» Архана Памука (пераклад з турэцкай Таццяны Урублеўскай-Токер) і «Не адпускай мяне» Кадзуа Ішыгура (пераклад з англійскай Ганны Янкута).

# Эксперымент гетмана Астрожскага

## Аналізуем адну з самых слаўных перамог войска ВКЛ — бітву пад Оршай 1514-га

**Перамагчы маскоўскае войска дапамаглі не гарматы, як раней лічылі, а пяхота з аркебузамі. Піша кандыдат гістарычных навук Алесь Казакоў.**

У многіх падручніках, навуковых працах і літаратурных творах апісаная кульмінацыя бітвы пад Оршай 1514-га: падманны манеўр, з дапамогай якога найвышэйшы гетман ВКЛ князь Канстанцін Астрожскі завабіў ворага пад агонь схаванай артылерыі. Пад трапным абстрэлам маскоўскае войска кінулася ўцякаць. Таму ў апісаннях Аршанскай бітвы гарматы занялі прыкметнае месца.

Першым пра артылерыю ВКЛ напісаў у сваім знакамітым трактаце «Нататкі пра маскоўскія справы» (*Rerum Moscoviticarum Commentarii*) імперскі пасол Сігізмунд Герберштайн. Цікава, што ў лацінамоўным выданні гэтай працы 1549 года аўтар піша толькі пра гарматы, а ў нямецкамоўнай рэдакцыі 1557 года ён дадае, што разам з артылерыяй у кустах была схаваная яшчэ і пяхота.

Але лацінская версія мела шырэйшы распаўсюд, яе чыталі пазнейшыя гісторыкі Мацей Стрыйкоўскі і Марцін Бельскі і пяхоту Астрожскага сваёй увагай абмінулі. Паспрабуем выправіць гістарычную несправядлівасць і паказаць яе рэальны ўнёсак у перамогу.

### Колькі пяхоты было ў ліцвінскім войску?

Агульная колькасць сабраных пад загадам Астрожскага вояроў была істотна меншая за 35 тысяч, пра якія звычайна паведамляецца. У рэальнасці гетман меў, відаць, 16–17 тысяч войска. Гэта была не толькі ліцвінская шляхта, але і найміты. Пра памеры завербаванага ў Польшчы корпуса наймітаў звесткі захаваліся. Улічыўшы, што рэальная колькасць жаўнераў у найманых ротах была ніжэйшай



**На ўрэзцы: аркебузіры. З «Кнігі ўзбраенняў імператара Максіміляна I», 1502 год.**

**Бітва пад Оршай. Невядомы мастак з кола Лукаса Кранаха Старэйшага. 1540-я гады. З калекцыі Нацыянальнага музея ў Варшаве.**

за намінальную і магчымыя страты ў ранейшых сутычках, колькасць кавалерыі можна ацаніць у 3 600 чалавек, а пяхоты — у 3 100.

Апроч таго, частка наймітаў засталася з каралём і вялікім князем Жыгімонтам у лагеры пад Барысавам. Гісторыкі вызначалі памер гэтага атрада ў 4 тысячы чалавек. Хутчэй за ўсё, лічба моцна завышаная, як і агульная колькасць войска ВКЛ. Пад Барысавам маглі застацца пару рот пяхоты, агулам 400–500 чалавек, і каля тысячы коннікаў. А пад Оршу з Астрожскім выправіліся, такім чынам, 14,5–16,5 тысячы. І пяхота складала пад 20% усяго войска — 2 600–2 700 чалавек.

## Агнявая моц — 2100 ручніц

Польскія пяхотныя роты складаліся з жаўнераў рознага тыпу ўзбраення. Каля 80% вояроў былі стралкамі. Астатнія падзяляліся на капійнікаў і павезнікаў (вояроў з вялікімі шчытамі-павезамі). У канцы XV — пачатку XVI ст. адбыліся кардынальныя змены ва ўзбраенні стралкоў: арбалет цалкам саступіў месца агнепальнай зброі — ручніцы. Аддаючы распараджэнне на вярбоўку пяхоты для кампаніі 1514 г., вялікі князь Жыгімонт патрабаваў, каб вояры мелі ручніцы добрай якасці.

Такім чынам, пяхота Астрожскага пад Оршай мела каля 2100 ручніц.

Наколькі вялікім быў артылерыйскі парк гетмана, застаецца невядомым. На знакамітай карціне ананімнага мастака «Бітва пад Оршай» мы бачым 14 гармат. Аднак гэты мастацкі шэдэўр, створаны ў 1540-х, малапрыдатны для рэканструкцыі складу войскаў і ходу бітвы*. Хоць колькасць у 14 ствалоў у прынцыпе праўдападобная.

## Што пісалі сучаснікі

У параўнанні з іншымі бітвамі той эпохі ва Усходняй Еўропе, хада Аршанскай бітвы адлюстраваная ў крыніцах няблага. Аднак наяўных сведчанняў усё адно недастаткова, каб зрабіць дэталёвую бясспрэчную рэканструкцыю. І ўсё ж крыніцы дазваляюць нам ацаніць ролю артылерыі і пяхоты.

Пяхота была падзеленая і пастаўленая гетманам Астрожскім у розных месцах. Мы можам меркаваць, што ў засадзе знаходзілася значная колькасць пехацінцаў, інакш іхняя стральба наўрад ці мела б вялікі эфект. Каралеўскі сакратар Станіслаў Гурскі, апісваючы бітву, згадвае, што пяхота вяла агонь па непрыяцелю. Польскі храніст Людвік Дэцый падкрэслівае, што пехацінцы аказаліся вельмі карыснымі і нанеслі вялікія страты непрыяцелю. Папскі легат Якуб Піза, які ў той час быў у Вільні, у сваім допісе пра падрыхтоўку кампаніі 1514 г. згадаў пра пешых жаўнераў і дадаў, што на іх долю выпадзе «асноўны цяжар вайны».

Цікава пачытаць і сведчанні пераможаных. Паведамленні маскоўскіх летапісаў пра бітву бедныя на падрабязнасці, але і ў іх знайшлося месца пяхоце. Афіцыйны маскоўскі летапіс кажа, што ў ліцвінскім войску былі людзі «з пішчалямі», якія «білі з лясоў вялікага князя [Васіля III Маскоўскага] людзей». Дзеянні артылерыі на полі бою згаданыя толькі ў сувязі з тым, што ад гарматнага ядра загінуў адзін з маскоўскіх ваяводаў Іван Цемка Растоўскі.

## Што сказаў Астрожскі

Найцікавейшае апісанне бітвы пакінуў польскі тэарэтык вайсковай справы Станіслаў Сарніцкі. Добрая палова яго тэксту, змешчанага ў трактаце «Гетманскія кнігі» (1570–1580-я), прысвечана дзеянням пяхоты.

Паводле Сарніцкага, пяхота ВКЛ стаяла ў баявых парадках за конніцай і адыграла вырашальную ролю пры адбіцці атакі маскавітаў з фланга і тылу. Спачатку жаўнеры нанеслі вялікія страты ворагу агнём з ручніц, а затым дабівалі яго халоднай зброяй. Сарніцкі звяртае ўвагу на важную акалічнасць: маскоўскія вершнікі былі абмежаваныя ў манеўры.

У сваёй працы Сарніцкі цытуе самога гетмана Канстанціна Астрожскага. Перамога пад Оршай у той дзень «залежала ад пешых», казаў князь.

## Чатыры ядры за гадзіну

Не дзіва, што Сарніцкі, як і іншыя аўтары, абмінае ўвагай гарматы. На пачатку XVI ст. атрымала распаўсюд т. зв. класічная артылерыя, якая прынцыпова не мянялася па канструкцыі і баявых якасцях да канца XIX ст. Гэта былі суцэльналітыя бронзавыя руляі на лафетах з коламі. Стралялі яны жалезнымі ядрамі. У тую эпоху гармата магла зрабіць 4 стрэлы на гадзіну, калі не меней.

Малаімаверна, што некалькі схаваных ад маскавітаў гармат у бітве пад Оршай паспелі даць больш за адзін эфектыўны залп. Артылерыя толькі пачынала сістэматычна і паспяхова выкарыстоўвацца ў палявых бітвах у Еўропе і на Блізкім Усходзе. Прычым у асноўным — супраць маларухомых вялікіх цэляў, накшталт шчыльных ▶

* 1540-мі гадамі карціну датуе польскі гісторык Марэк Яніцкі. У сваім ранейшым артыкуле «Аршанская бітва 1514 г.: пра што спрачаюцца гісторыкі» («Беларускі гістарычны часопіс» № 11, 2017 г.) я няправільна інтэрпрэтаваў яго высновы, сцвярджаючы, што ён датуе карціну 1530-мі гадамі.

фармацый пяхоты. Дый значную шкоду можна было нанесці хіба некалькімі дзясяткамі гармат, як гэта адбылося ў бітве пры Равене 1512-га.

## Якія ж магчымасці давала тагачасная ручніца?

На Захадзе яе называлі аркебузай. Гэта была металічная руля з парахавой камерай на драўляным ложы. Важным удасканаленнем, якое зрабіла магчымым масавае выкарыстанне аркебузіраў у палявых бітвах, стаў кнотавы замок. З яго дапамогай можна было падпальваць парахавы зарад, трымаючы ручніцу абедзвюма рукамі. Гэта дазваляла цэліцца з рук. Да вынаходніцтва кнотавага замка аркебузір адной рукой падносіў агонь да зараду. Трымаць цяжкую зброю другой рукой і цэліцца было б складана.

Трапнасць і далёкасць стрэлу ручніцы пачатку XVI ст. былі невысокія.



**Гарматы, схаваныя ў ельніку, і Канстанцін Астрожскі. Карціна «Бітва пад Оршай». 1540-я гады.**



**Пехацінцы, узброеныя ручніцамі. Карціна «Бітва пад Оршай».**

**Застаецца загадкай, як Канстанцін Астрожскі прымусіў ворага атакаваць менавіта там, дзе пяхота магла раскрыць свае баявыя якасці напоўніцу**

Найбольш эфектыўным быў масіраваны агонь з некалькіх дзясяткаў метраў. Праўда, адлегласць эфектыўнага стрэлу залежала ад таго, наколькі добра вораг быў абаронены даспехамі.

## Адзіны шанец на перамогу

Асноваю маскоўскага войска, якое змагалася пад Оршай, была кавалерыя татарскага тыпу — конныя лучнікі ў лёгкіх даспехах. Лёгкая конніца мела перавагу ў манеўранасці — яна магла імгненна выйсці з зоны знішчальнага агню аркебуз — і ў хуткастрэльнасці. Нават самы спрактыкаваны аркебузір губляў каля хвіліны на падрыхтоўку да наступнага стрэлу. Лучніку патрабавалася некалькі секундаў.

Пяхота з агняпальнай зброяй мела найбольшыя шанцы перамагчы конных лучнікаў, заспеўшы ворага знянацку ў цесным месцы. Менавіта гэта і здарылася 8 верасня 1514 г.

Пакуль што застаецца загадкай, як Канстанцін Астрожскі прымусіў ворага атакаваць менавіта там, дзе пяхота магла раскрыць свае баявыя якасці напоўніцу. Было б наіўна паверыць у прыгожую легенду пра падманныя ўцёкі, з дапамогай якіх конніца ВКЛ завабіла маскавітаў у засаду.

А што гарматы? Яны апраўдалі сваю прысутнасць на полі бою ўжо тым, што выпадкова забілі маскоўскага ваяводу.

## Перыяд эксперыментаў

Бітва пад Оршай стаіць у адным шэрагу з многімі тагачаснымі баталіямі ў Еўропе і на Блізкім Усходзе. Пачатак XVI ст. быў перыядам эксперыментаў з масавым прымяненнем ручной агняпальнай зброі ў адкрытым полі. Іспанскія і нямецкія аркебузіры даказвалі сваю эфектыўнасць на палях Італіі ў бітвах пры Чэрыньёле (1503), Бікоцы (1522) і Павіі (1525), а асманскія янычары — пры Чалдыране (1514), Марж-Дабіку (1516), Райданіі (1516) і Мохачы (1526).

Цікава, што ўдзельная вага агняпальнай пяхоты ў гэтых бітвах была такой жа невялікай, як і пад Оршай, але яна адыграла прыкметную ролю.

І калі б палявыя бітвы ў войнах з Масквой былі часцейшыя, магчыма, мы мелі б яшчэ не адзін падобны ўзор вайсковага мастацтва ў выкананні гетмана Астрожскага. ◆

**Скідзельскія прыхільнікі пацыфізму. У першым шэрагу злева направа: Даніла Скварнюк, невядомая дзяячка пацыфісцкага руху з Варшавы, Іван Шмойла. У другім шэрагу: Вольга Сяўрук (Скварнюк), Аляксандр Мазалеўскі, Марыя Сяўрук (Мазалеўская).**

# «Memento жыццё і смерць

## Селянін, пацыфіст,

З АРХІВА СЯРГЕЯ ТОКЦЯ

Вясковы пячнік, вялікі прафесіянал, які пасля дня цяжкай працы цвёрдым почыркам перапісваў вершы беларускіх паэтаў, дыскутаваў пра сэнс быцця і гатовы быў ахвяраваць жыццё дзеля сваіх ідэалаў. Дзякуючы такім людзям паўстала Беларусь, на такіх яна трымаецца і дасюль. Пра яркае жыццё селяніна з-пад Скідзеля — шчымлівы артыкул доктара гістарычных навук Сяргея Токця. ▶

# mori»: Данілы Скварнюка

## вегетарыянец з-пад Гродна



З АРХІВА СЯРГЕЯ ТОКЦЯ

**Даніла Скварнюк.**

У школьным курсе беларускай літаратуры вывучаюць апавяданне Янкі Брыля «*Memento mori*». Мала хто ведае, што галоўны герой, безыменны пячнік, які загінуў у спаленай фашыстамі вёсцы, меў рэальнага прататыпа. Не ведае пра гэта нават большасць ягоных землякоў. Быў жа гэтым прататыпам жыхар вёскі Пузавічы пад Скідзелем Даніла Скварнюк.

Як даведаўся Янка Брыль пра трагічны лёс Данілы і яго аднавяскоўцаў? У маладосці будучы класік беларускай літаратуры захапіўся філасофскім вучэннем расійскага пісьменніка Льва Талстога, якое прапаведавала негвалтоўны супраціў злу і адмову ад гвалту. Адным з самых вядомых асяродкаў талстоўцаў у міжваеннай Заходняй Беларусі быў гурток у мястэчку Скідзель Гродзенскага павета. У 1937 годзе 20-гадовы Янка Брыль нават сеў на ровар і паехаў у Скідзель са сваёй вёскі Загор'е, што пад Карэлічамі, каб сустрэцца і паразмаўляць з аднадумцамі. А ўжо да гэтага ён з імі актыўна перапісваўся.

На старонках свайго артыкула «Да творчай біяграфіі» пісьменнік пазней напісаў: «Калісьці, у 1935-м ці 1936-м, я паслаў свае лепшыя вершы Данілу [Скварнюку] і цяпер разумею, колькі прычыніў яму гэтым турбот. А ў яго, інтэлігентнага хлопца, хапіла такту. Мусіць, робячы печ ці пліту, абдумваў, што мне напісаць у адказ. І напісаў, што любіць вершы Багдановіча, перапісаў мне сваім цвёрдым почыркам "Ведай, брат малады", "Рушымся, брацці, хутчэй!" і яшчэ, здаецца, нешта, а таксама параіў перачытаць Лермантава "Не верь себе"». У спасылцы да гэтай нататкі было пазначана: «Скварнюк Даніла Дзмітрыевіч (1903–1943) — вясковы пячнік, сябар Я. Брыля».

## Пацыфізм і камунізм: юнакоў прыцягвалі дзве гэтыя супрацьлеглыя ідэалогіі

Такім чынам, Даніла Скварнюк нарадзіўся ў 1903 г. у вёсцы Пузавічы Скідзельскай воласці. Як вясковы хлопец далучыўся да пацыфісцкага руху талстоўцаў? У 1920-я палітычнае і культурнае жыццё ў мястэчках і вёсках Заходняй Беларусі завіравала. Ва ўсіх вёсках Скідзельскай гміны ў 1926-м узніклі гурткі Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пасля забароны Грамады вяскоўцы пачалі актыўна ўтвараць гурткі Таварыства беларускай школы (ТБШ). Адным з самых актыўных і добра арганізаваных быў гурток у Скідзелі, які заснаваў у 1926 годзе малады хлопец Пётра Сяўрук. Падчас Першай сусветнай вайны ён скончыў пяць класаў гімназіі ў расійскім Ліпецку і там жа захапіўся пацыфісцкімі вучэннямі Льва Талстога і Махатмы Гандзі.

Сябры скідзельскага гуртка з'яўляліся вызнаўцамі дзвюх вельмі розных версій беларускай нацыянальнай ідэалогіі — пацыфізму і ваяўнічага камунізму ў яго «капэзэбоўскай» версіі. «Капэзэбоўцы» разглядалі гурткі ТБШ найперш як шырму для рэвалюцыйнай дзейнасці і рыхтаваліся да ўзброенай барацьбы з «фашыстоўскім», як яны лічылі, польскім урадам. Пацыфісты бачылі будучыню свайго народа ў духоўным і маральным развіцці.

Пад ціскам польскіх уладаў большасць гурткоў ТБШ да канца 1920-х самараспусцілася. Упарта трымаўся гурток у Скідзелі, які ў верасні 1929-га налічваў усяго 12 сяброў — пераважна прыхільнікаў пацыфізму. Сярод іх быў і 26-гадовы Даніла Скварнюк. Пасля смерці Пятра Сеўрука старшынёй гуртка стала яго малодшая сястра Вольга, якая неўзабаве пабралася шлюбам з Данілам Скварнюком і пераехала да яго ў Пузавічы.

У 1930-я гурток ТБШ у Скідзелі ўжо фармальна не дзейнічаў, але ягоныя сябры рэгулярна збіраліся, абмяркоўвалі свае ідэі, перапісваліся з аднадумцамі з усіх куткоў Заходняй Беларусі. Талстоўцы ўспрымаліся мясцовым насельніцтвам як своеасаблівая рэлігійная секта. Іх называлі ў Скідзелі не зусім слушна «малаканамі», бо яны катэгарычна адмаўляліся ад ужывання ў ежу мяса (гэта было зусім незразумелым для прагматычнага розуму большасці мясцовых сялян), а таксама ад тытуню і алкаголю. Не прызнавалі яны таксама і царкоўных абрадаў, што выклікала рэзка адмоўнае стаўленне праваслаўнага духавенства і паліцыі. Акрамя таго, талстоўцы адмаўляліся служыць у войску і свядома ішлі за гэта ў турму. Адседзелі ў турме за свой пацыфізм, напрыклад, Аляксандр Мазалеўскі і Платон Касцевіч (пляменнік паэта Макара Краўцова). Аляксандр Мазалеўскі памёр ад сухотаў неўзабаве



ФОТА СЯРГЕЯ ТОКЦЯ

**Печ у вёсцы Раўкі**, зробленая Данілам Скварнюком.

**Сяргей Токць** (нар. 1968) — доктар гістарычных навук, жыве ў Гродне. Вывучае гісторыю Беларусі XIX—XX ст. Аўтар некалькіх навуковых манаграфій, асноўная з якіх — «Беларуская вёска ў эпоху змен: другая палова XIX — першая траціна XX ст.» (Мінск, 2007).

пасля таго, як выйшаў на волю. Ён перапісваўся з многімі замежнымі прыхільнікамі пацыфісцкага руху, а ў ягоным дзённіку, які захавала яго жонка Марыя Сяўрук, таксама былі перапісаныя ад рукі беларускія вершы Пятра Сеўрука і Міхала Касцевіча (Міхася Васілька). У Скідзель часта прыязджалі дзеячы пацыфісцкага руху з многіх мясцінаў тагачаснай польскай дзяржавы, нават са сталічнай Варшавы. Сярод такіх гасцей быў і Янка Брыль.

І ўсё ж пацыфісцкія ідэі не маглі здабыць шырокай папулярнасці сярод беларускай моладзі. Проза жыцця з часам прымушала многіх талстоўцаў пакідаць свае радыкальныя перакананні і практыкі. Магчыма, што ў пэўны момант пачаў пераглядаць сваю жыццёвую філасофію і Даніла Скварнюк. Ужо пасля бурлівых падзей верасня 1939-га і ўсталявання савецкай улады раённая газета напісала, што моладзь вёскі Пузавічы пад кіраўніцтвам сакратара мясцовай камсамольскай арганізацыі Данілы Скварнюка збудавала плаціну праз рэчку Доўжыцу і стварыла такім чынам штучнае вадасховішча. Цяжка, аднак, сказаць, ці сапраўды Даніла Скварнюк уступіў у камсамол, ваяўнічая ідэалогія якога так моцна рознілася ад талстоўскага пацыфізму. Тым больш што і ўзрост у той час у яго быў ужо зусім не камсамольскі.

На Беларусь жа неўзабаве зноў прыйшла вайна. У ліпені 1943 г. здарылася жахлівая трагедыя Пузавіч, якая забрала сярод іншых жыцці Данілы Скварнюка і ўсёй яго сям'і. Прычынай для знішчэння вёскі паслужыла дыверсія невядомых партызанаў на чыгунцы. Лёс Пузавіч, як лічылі жыхары навакольных вёсак, вырашыў начальнік валаснай паліцыі Ян Ашурка. Перад вайной ягонага зводнага брата Юзафа Варэніка, які служыў ляснікам у князя Чацвярцінскага, забіў у лесе хлопец з Пузавіч. Ян Ашурка прагнуў паквітацца з жыхарамі гэтай вёскі і скарыстаў нагоду, пераканаўшы немцаў, што менавіта вяскоўцы вінаватыя ў дыверсіі на чыгунцы.




**Мемарыял на месцы расстрэлу** жыхароў вёскі Пузавічы.

14 ліпеня 1943 года карнікі ранкам акружылі Пузавічы і пачалі зганяць жыхароў у дзве вялікія адрыны. Мужчын сабралі ў адну адрыну, жанчын — у другую. Пасля загадалі прыгнаным з суседніх вёсак сялянам капаць дзве вялікія ямы. Людзі ўбачылі гэта праз шчыліны ў сценах і зразумелі, што іх чакае смерць. Жанчыны заспявалі рэлігійныя гімны. Немцы выводзілі з адрыны мужчын групамі па 20 чалавек. Ім загадвалі саскокваць у яму і там расстрэльвалі з кулямёта. Пасля забітых прысыпалі зямлёй і выводзілі наступную групу. Затым настала чарга жанчын і дзяцей.

## Талстоўцы адмаўляліся служыць у войску і свядома ішлі за гэта ў турму

Жыхарка Скідзеля Любоў Серкіна-Чабатарэвіч, родная сястра якой загінула ў Пузавічах, распавядала пазней краязнаўцу Ільі Барысаву: «Калі жанчыны зразумелі, што выводзяць чалавек па 20, яны сталі сядаць кучкамі па дваццаць чалавек са сваякамі. У каго не было сваякоў, сядалі з чужымі. У першую чаргу расстрэльвалі мужчын, а пасля жанчын з дзецьмі. Адна жанчына бачыла, як выводзяць яе мужа, у яе адбыўся разрыў сэрца. Гэтай жанчынай была Скварнюк Вольга».

Ці быў у Данілы Скварнюка шанец выратавацца, як напісаў пра гэта Брыль, звестак знайсці не ўдалося. Магчыма, што гэта ўжо мастацкі вымысел пісьменніка. Ад смерці ўратавалася толькі сямейная пара, якая прыехала ў Пузавічы з Гродна ў госці. У апошні момант яны паказалі немцам свае пашпарты з гродзенскай прапіскай, і тыя іх адпусцілі. Пасля расстрэлу жыхароў карнікі спалілі ўсе пабудовы, а маёмасць вяскоўцаў вывезлі ў Скідзель, дзе прадавалі па заніжаных цэнах. Былі расстраляныя больш за 500 чалавек, з іх 230 дзяцей. Прыгожая зялёная вёска на беразе маляўнічай рачулкі Доўжыцы перастала існаваць.

Смерць Данілы Скварнюка падказала Янку Брылю тэму апавядання «*Memento mori*». Як успамінаў пляменнік Пётры Сеўрука Мікалай Дзелянкоўскі (1932–2014), пасля вайны пісьменнік некалькі разоў прыязджаў у Скідзель і сустракаўся з Марыяй Мазалеўскай, роднай сястрой Вольгі Скварнюк. Марыя і распавяла яму пра трагічны лёс Данілы і Вольгі.

З жыхарамі Скідзельшчыны Янку Брыля лёс звёў яшчэ на самым пачатку вайны. З нямецкага палону, куды ▸

▶ будучы пісьменнік трапіў як жаўнер польскага войска ў 1939-м, ён уцёк у 1941 годзе разам з паэтам Міхасём Васільком і актывістам беларускага руху Анатолем Мышко. У адным з лістоў да Мікалая Дзелянкоўскага Янка Брыль напісаў: «Ці думаючы пра Цябе, ці гутарачы з Табой, — заўсёды бачу ў думках Твой родны гарадок, і мне знаёмы з юнацтва, бачу і тую Тваю радню, а маю сябрыну, слаўных людзей Скідзельшчыны — сардэчна незабыўных...».


Янка Брыль.

## Ураталавася толькі сямейная пара, якая прыехала ў Пузавічы з Гродна ў госці: у апошні момант яны паказалі немцам свае пашпарты з гродзенскай прапіскай — і іх адпусцілі

Даніла Скварнюк сапраўды належаў да слаўнай сябрыны маладой беларускай інтэлігенцыі, людзей, якія пасля цяжкай фізічнай працы цвёрдым почыркам перапісвалі вершы беларускіх паэтаў, дыскутавалі пра сэнс быцця і гатовыя былі ахвяраваць уласнае жыццё дзеля сваіх ідэалаў.

У маёй сям'і таксама застаўся ўспамін пра апошні дзень Пузавічаў. Мама з бабуляй тады жылі на хутары ў бабулінага брата Максіма Лапыша, які знаходзіўся недалёка ад гэтай вёскі. Трагічным ліпеньскім ранкам Вольга Скварнюк забегла папярэдзіць, што панаехала шмат немцаў, якія збіраюцца знішчаць лясныя хутары, параіла хавацца. І пайшла на свой хутар на другім беразе Доўжыцы, які якраз трапіў у зону знішчэння. Пастаўленыя ж Данілам Скварнюком печы яшчэ і цяпер абаграваюць сваім цяплом людзей у Скідзелі і навакольных вёсках. ◆

...Зірнуўшы ў натоўп сваіх ахвяр, зондарфюрар заўважыў знаёмага.

— Адкуль я ведаю яго?.. О! Мэншэнскінд, дык гэта ж той пячнік! Скажыце, фройляйн Вэра, каб яго падагналі сюды.

Печніка падагналі.

— Біст ду дох аўх гір, майн лібэр кэрль?* — засмяяўся начальнік.

Пячнік нічога не зразумеў. Ды, відаць, і не чуў. Бледны, без шапкі на лысіне, аброслы сівеючай шчэццю, ён упёрся ў немца скамянелымі вачыма і маўчаў. Толькі бяскроўныя губы перасмыкаліся, як ад нязбытнага жадання гаварыць.

Улетку ён рабіў зондарфюрару печы. Знайшлі яго і прывялі, вядомага на ўсю ваколіцу. Пяць раніц дзяжурны жандар абшукваў яго і кожны раз аднолькава весела знаходзіў у кішэнях майстра тое самае крэсіва, самасад і кавалак чорнага хлеба. А печы атрымаліся выдатныя. Кухар хваліць пліту, а сам зондэрфюрэр — грубку з белай кафлі. Вось і цяпер ён ледзь не заахкаў на ўспамін аб яе гладкай цеплыні.

— Скажыце яму, фройляйн Вэра, што ён не будзе спалены. Спытайцеся, ён хоча жыць?

— Спадар зондарфюрар кажа, што вы, дзядзька, будзеце жыць. І ён пытаецца, ці вы гэтага хочаце?

Пячнік толькі паварушыў бяскроўнымі губамі.

— І скажыце яму... Спытайцеся, хто ў яго там ёсць.

— Спадар зондарфюрар пытаецца, хто ў вас там ёсць? Там — у адрыне?

З вуснаў у чалавека сарваліся словы:

— Там... мая... баба...

— Ён кажа, што там яго жонка.

— Скажыце яму, што жонка яго таксама не згарыць. Ён можа ўзяць яе.

— Спадар зондарфюрар кажа, што фрау... што жонку сваю вы можаце забраць.

Бяскроўныя губы ў сівеючай шчэці заварушыліся зноў:

— У мяне там і дачка... з малымі дзеткамі...

— Ён кажа, што там у яго ёсць дачка са сваімі дзецьмі.

— О! Мэншэнскінд! Можа, у яго яшчэ хто-небудзь ёсць?

— Спадар зондарфюрар пачынае выказваць нездавальненне. Ён пытаецца, хто ў вас там ёсць яшчэ?

— Скажы яму, што ў мяне там суседзі... А ты скажы, што яны сваякі...

— Ён кажа, што ў яго там многа сваякоў. А таксама суседзі.

— Суседзі?! Эс іст абэр этвас цу ляхен!..* Можа, ён хоча, каб я аддаў яму ўсю гэтую банду? Спытайцеся ў яго апошні раз: чаго ён хоча, вар'ят?

— Спадар зондарфюрар пачынае злаваць. Вы, дзядзька, не дурыцеся, калі хочаце жыць. Зараз адрыну падпаляць. Ён кажа, што вы, мусіць, хацелі б забраць адтуль усю банду.

Пад чорнай навіссю броваў ажылі нарэшце вочы. Губы зусім перасталі дрыжаць. Нібыта не сваю, незвычайным жэстам, пячнік узняў галаву:

— А ён што думаў? І ўсіх! Усіх добрых людзей!.. Можа, ён ім раўня — гэты твой гаспадар? Або ты, можа?.. Цьфу!..

Чалавек плюнуў пад ногі, тады павярнуўся і ўжо не тым няпэўным крокам, як сюды, пайшоў да варот адрыны.

Быў нейкі момант разгубленасці, а потым зондарфюрар сарваў з правай рукі мокрую скураную пальчатку, адшпіліў кабуру, выхапіў пісталет і прыцэліўся...

У жудасным лямантце стрэл амаль не пачуўся.

Але пячнік упаў.

Ён яшчэ ўздрыгваў, калі яго паднялі і кінулі цераз парог, пад ногі збою аднавяскоўцаў.

Тады вароты назаўсёды зачыніліся.

І ён згарэў — адзін, хто мог бы ў той дзень не згарэць.

І ён жыве.

*Янка Брыль «Memento mori» (урывак)*

* І ты таксама тут, мой дарагі?

* Гэта ўжо проста смешна!..

# ARCHE

пачатак

**Севярын Віславух. Нацыятварэнне ў Заходняй Беларусі (міжваенны перыяд)** (ARCHE. №1 за 2018 год).

У сярэдзіне 1930-х гадоў прафесару Віленскага ўніверсітэта Севярыну Віславуху прапанавалі ўзначаліць навуковы калектыў, які мусіў на даручэнне Рады Міністраў Польшчы правесці палявыя даследаванні шматлікіх вёсак на тэрыторыі Віленскага і Наваградскага ваяводстваў. Падчас экспедыцый складаліся анкеты населеных пунктаў, у якіх адлюстроўваліся самыя разнастайныя аспекты жыцця на «крэсах». Сабраныя матэрыялы павінны былі дапамагаць польскім уладам у выпрацоўцы аптымальнай палітыкі ў дачыненні да гэтых земляў.

Апрацаваўшы матэрыялы, сабраныя ў 1936–1938 гадах па выніках экспедыцый у больш чым 400 вёсак Віленшчыны і Наваградчыны, Віславух падрыхтаваў тры аналітычныя працы. Дзве з іх, «Палякі і беларусы-каталікі на тэрыторыі Віленшчыны» і «Нацыянальная свядомасць праваслаўнага насельніцтва, якое засяляе ўсходнія і паўночна-ўсходнія паветы Віленшчыны», незадоўга да выбуху Другой сусветнай вайны былі надрукаваныя, але толькі пад грыфам «Сакрэтна», не стаўшы, такім чынам, даступнымі шырокай грамадскасці. Апошняя частка, пад назвай «Нацыянальныя адносіны на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў», дапісвалася аўтарам ужо пасля пачатку вайны. Яе рукапіс доўгія гады захоўваўся ў Парыжы, а ўпершыню выдадзена праца была толькі ў 2013 годзе.

Цяпер усе тры вышэйзгаданыя працы сталі нарэшце даступныя масаваму беларускаму чытачу. Яны выдадзеныя пад адной вокладкай у складзе №1 за 2018 год часопіса «ARCHE». Тэксты саміх прац, у якіх зміяшчаецца ўнікальная факталагічная інфармацыя па гісторыі цэлых рэгіёнаў і асобных вёсак ды мястэчкаў, суправаджаюцца таксама матэрыяламі пра іх аўтара і ягоныя даследаванні.

Працы Севярына Віславуха — сапраўдны скарб не толькі для навукоўцаў-прафесіяналаў, але і для краязнаўцаў ды ўвогуле ўсіх людзей, якія цікавяцца рэгіянальнай гісторыяй.

**Найпрасцейшы і найтаннейшы спосаб набыцця выдання — праз сайт arche.by.**



# Як перамагчы на выбарах караля

## Ад Валуа да караля Стася: як шляхта Рэчы Паспалітай манархаў абірала



**Так званая «карона Баляслава Храбрага»**, якой каранаваліся каралі Рэчы Паспалітай. Адна з рэканструкцый, зробленых у 2001–2003 гадах.

**Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста, які не меў нашчадкаў, шляхта стала сама абіраць сваіх каралёў. Прынцып «вольнай элекцыі» стаў адным з галоўных элементаў залатых шляхецкіх вольнасцяў. Як склалася і як функцыянавала гэта нязвыклая для тагачаснай Еўропы мадэль? Піша гісторык Кірыла Карлюк.**

# Ніякага алкаголю і ўсяго два забойствы

Калі ў 1572 годзе памёр Жыгімонт II Аўгуст, апошні мужчынскі прадстаўнік дынастыі Ягелонаў, сама ідэя абрання манарха была ў польска-літоўскай дзяржаве ўжо не новай. Польская шляхта, вядомая сваёй палітычнай актыўнасцю, дамаглася права мець голас пры абранні каралёў яшчэ ў другой палове XIV стагоддзя. Неакрэсленасць спадчыннага права на трон і палітычная нестабільнасць у Літве ў XV стагоддзі падштурхнулі і мясцовых вяльможаў да ўдзелу ў зацвярджэнні вялікіх князёў. Падобныя сістэмы склаліся таксама і ў суседзяў. Сваіх уладароў абіралі чэшскія і венгерскія нобілі. Скандынаўскія манархіі таксама доўгі час мелі элекцыйна-дынастычныя рысы.

**Першыя выбары сталі асноўнай свецкай падзеяй краіны і сабралі 50 тысяч чалавек**

Пастановы 1530 і 1538 гадоў гарантавалі выбарнасць трона «за згодай і воляй усіх» прадстаўнікоў шляхты. Сам Жыгімонт II Аўгуст быў абраны каралём і вялікім князем яшчэ пры жыцці свайго бацькі Жыгімонта I Старога. Дакладная тэхналогія «вольнай элекцыі» да 1572 года, аднак, заставалася нявызначанай, і яе патрэбна было развязаць ужо непасрэдна ў віхуры выбараў новага караля. Працэдура выбараў манарха, закладзеная ў той час, у сваіх асноўных рысах без істотных змен існавала на працягу наступных двухсот гадоў гісторыі Рэчы Паспалітай.

## Першыя выбары

Першы элекцыйны сойм адбыўся толькі ў красавіку – маі 1573 года, амаль праз год пасля смерці Жыгімонта Аўгуста. Першыя выбары прыцягнулі велізарную ўвагу шляхты з усіх куткоў Рэчы Паспалітай. Сведка тых падзей, французскі амбасадар, налічыў 50 тысяч чалавек. Акрамя таго, разам з выбарцамі прыбывалі іх слугі і іншыя спадарожныя асобы. У выніку Варшава была літаральна запоўненая прыезджымі, колькасць якіх у некалькі разоў перавысіла лічбу тагачасных варшавякаў.

На сойме працягнуліся бясконцыя спрэчкі вакол палітычнага ўладкавання і выбару годнага кандыдата. Адным з самых папулярных тады аказаўся французскі прынц Генрых Валуа, рэпутацыя якога, аднак, была падарваная крывавым следам нядаўняй Варфаламееўскай ночы. Значная частка шляхты заставалася незадаволеная французам і няпэўнасцю ў пытаннях рэформы права. Справа ледзь не дайшла да зрыву сойма. Але занепакоеных выбарцаў удалося ўлагодзіць адмысловымі актамі новай прававой сістэмы Рэчы Паспалітай. Гэтыя акты ўвайшлі ў гісторыю пад назвай *«Генрыкавых артыкулаў»*.

## «Князь гавенскі»

11 мая 1573 года было нарэшце аб'яўлена імя новага манарха. Не абышлося тут і без кур'ёзаў, звязаных з мазавецкай шляхтай — аб'ектам шматлікіх тагачасных кпінаў і анекдотаў, што высмейвалі яе беднасць і неадукаванасць. Як запісаў польскі храніст Марцін Бельскі, падчас аб'яўлення імёнаў кандыдатаў мазаўшане, не дужа абазнаныя ў лаціне і замежных тытулярах, выкрыквалі тытул герцага анжуйскага Генрыха Валуа (на лаціне «*dux Andegavensis*») як «*князь гавенскі*», а імя ягонага суперніка, аўстрыйскага эрцгерцага Эрнста Габсбурга, — «*Рдэст*».

Прадстаўнік новага караля падпісаў папярэдне складзеныя прававыя акты. У іх увайшлі пастулаты аб рэлігійным міры і свабодзе веравызнання, пацвярджаліся ўсе ранейшыя прывілеі шляхты, замацоўваліся абавязак склікаць вальны сойм кожныя два гады, права на супраціўленне каралю (рокаш). Кароль таксама не мог праводзіць без згоды сойма ўласную знешнюю палітыку ці склікаць паспалітае рушанне.

У Парыж адразу накіравалася дэлегацыя Рэчы Паспалітай. На ўрачыстай цырымоніі ў кафедральным саборы Нотр-Дам наваспечаны кароль мусіў пацвердзіць шляхецкія прывілеі і вольнасці, пачуўшы ад сваіх падданых недвухсэнсоўнае: «Калі не прысягнеш, не будзеш валадарыць».

Абранне Генрыха хутка выявілася памылкай. Новаму каралю не падабаліся ні яго роля, ні краіна, у якую ён патрапіў. Таму ўсяго праз год, калі ў Кракаў дайшлі весткі пра смерць яго брата Карла IX, Генрых без асаблівага шкадавання ўначы таемна пакінуў кракаўскі Вавель, каб заняць вакантны французскі трон.



**Генрых Валуа.** Малюнак Жана дэ Кора, 1570 год. **Першы абраны валадар Рэчы Паспалітай прабыў на троне ўсяго год,** але менавіта з яго выбраннем звязана стварэнне падмурку палітычнай мадэлі дзяржавы.

## Выбарчыя рытуалы

Працэдура выбараў і зацвярджэння новага манарха складалася з трох асноўных этапаў: канвакацыйнага, элекцыйнага і каранацыйнага соймаў. На першым вызначалася дата правядзення элекцыйнага ▶

**Элекцыйны сойм 1697 года.** Карціна Марціна Альтамонтэ, 1697–1704 гады. Тут прадстаўлена даволі рэалістычнае ўвасабленне элекцыйнага поля, бо мастак быў непасрэдным сведкам сойма. У сярэдзіне знаходзіцца кола, сенатары сядзяць у першым шэрагу, злева бачная шопа. Элекцыя 1697 года была адной з самых неспакойных і скончылася абраннем адначасова двух кандыдатаў: саксонскага курфюрста Аўгуста II і французскага прынца дэ Канці.



сойма і асноўныя патрабаванні да кандыдата. Самі выбары адбываліся на элекцыйным сойме, а ўзвядзенне на пасад было звязана з каранацыйным соймам, які традыцыйна праходзіў у старажытным Кракаве.

## З кандыдатамі знаёміліся ў элекцыйным коле, а выбарчым участкам служыла вялікае поле

Першая элекцыя прайшла ў вёсцы Камень пад Варшавай, а ўсе наступныя (за выключэннем абрання Аўгуста III у 1733 годзе) адбываліся ў полі каля іншай падваршаўскай вёскі — Воля. Шляхта збіралася на элекцыйным полі, пры набліжэнні да якога былі збудаваныя тры брамы: з поўдня для малапольскай шляхты, з захаду — для велікапольскай, а з усходу — для літоўскай. Поле дзялілася на дзве асноўныя часткі — для сената і шляхты. Пасольская ізба засядала ў гэтак званым *коле*. Навокал кожнае ваяводства асобна ставіла багата аздобленыя намёты для шляхты. У сярэдзіне таксама знаходзілася *шопа* — часовае драўлянае збудаванне памерамі 15 на 40 метраў, якое магло часам змясціць да пяці тысяч чалавек адначасова. Менавіта тут праходзілі асноўныя перамовы і абмеркаванні кандыдатаў.

Шляхта абірала маршалка, які кіраваў працэдурамі. Дэпутаты ваяводстваў выслухоўвалі прадстаўнікоў кандыдатаў і праводзілі перамовы з сенатарамі, пасля чаго складалі справаздачы. Справаздачы актыўна абмяркоўваліся, складаліся патрабаванні да кандыдатаў.



**Бойка шляхты падчас сойміка ў касцёле.** Гравюра з нямецкага выдання «Gedoppelter polnischer Sack…», 1734 год. Палітычнае жыццё Рэчы Паспалітай, асабліва ў XVIII стагоддзі, было нярэдка напоўненае падобнымі сцэнамі.

У тэорыі ўладара Рэчы Паспалітай павінна была абіраць уся шляхта, але на практыцы — толькі тыя, хто мог сабе дазволіць нятаннае падарожжа і жыццё ў Варшаве і яе ваколіцах. Часам гэта прыводзіла да пэўных дыспрапорцый. Напрыклад, ужо згаданая мазавецкая шляхта складала ад чвэрці да трэці ўсіх выбарцаў — бо ёй было найбліжэй і найтанней прыехаць на сойм.

### Не піць, не біцца, мець грошы на праезд

Агульная колькасць выбарцаў падчас розных элекцый вагалася ад 3,5 да 15 тысяч. Шмат што залежала ад палітычнай кан'юнктуры ў краіне. Былі сярод іх і прадстаўнікі некалькіх прывілеяваных гарадоў: Вільні, Львова, Варшавы, Кракава і інш.

Шматлікія соймавыя канстытуцыі і правілы рэгулявалі жыццё на элекцыйным полі. Напрыклад, забаранялася размяшчаць у ваколіцах вайсковыя фарміраванні, прыносіць з сабой агняпальную зброю (у адрозненне ад халоднай) ці алкаголь. Прадугледжваліся шматлікія пакаранні за замахі на жыццё ці здароўе, абразу шляхецкай годнасці. Нягледзячы на тое, што ўсё гэта нярэдка парушалася, знаходжанне на Волі было адносна бяспечным. Так, за сто гадоў, з 1573 па 1674 год, падчас элекцый загінулі ўсяго два чалавекі.



**Элекцыя Станіслава Аўгуста Панятоўскага.** Карціна Бернарда Белота, 1778 год. Апошняя вольная элекцыя Рэчы Паспалітай, якую, аднак, вельмі цяжка назваць сапраўды «вольнай», бо праходзіла яна пад пільным наглядам расійскага войска.

Асабліва багатай на розныя здарэнні была бурлівая элекцыя 1697 года, якая скончылася выбарам адначасова двух кандыдатаў. Ледзь не кожны дзень тады даходзіла да скандалаў і боек, былі нават замахі на жыццё маршалка.

### Самы лепшы кандыдат

Спісы кандыдатаў на пасад Рэчы Паспалітай часта былі вельмі вялікімі. Так, падчас першай элекцыі, акрамя вышэйзгаданых Генрыха Валуа і Эрнста Габсбурга, вылучылі кандыдатуры расійскі цар Іван Жахлівы і яго сын Фёдар, шведскі кароль Юхан III Ваза, ферарскі герцаг Альфонса II д'Эстэ, пражскі бургграф Вілем з Рожмберка і некалькі польскіх паноў.

Выбары ў тэорыі мусілі адбывацца аднагалосна. Але на практыцы даходзіла і да выбрання адначасова двух каралёў. Так было ў 1575, 1587, 1697 і 1733 гадах. У гэтым выпадку лёс кароны вырашалі ўжо вайсковая сіла і ўдача.

Часам трон доўга заставаўся ў руках аднаго роду: адзін за адным яго займалі тры прадстаўнікі шведскай дынастыі Вазаў і два — саксонскіх Вецінаў. Аднак некаторым не шанцавала асабліва. Так, Габсбургі, якія былі двойчы абраныя на падвойных элекцыях (так называлася сітуацыя, калі адначасова дзве групоўкі аб'яўлялі каралём розных кандыдатаў), але так і не здолелі заняць трон, настолькі не палюбіліся шляхце, што сойм у 1590 годзе ўвогуле забараніў прадстаўнікам гэтай дынастыі вылучаць свае кандыдатуры.

Зразумела, шансы на абранне каралямі мела і мясцовая шляхта. У свой час былі абраныя Міхал Карыбут Вішнявецкі, Ян Сабескі, Станіслаў Ляшчынскі і Станіслаў Аўгуст Панятоўскі.

Сярод гістарычных анекдотаў згадваюць байку пра Шаўля Юдзіча Валя — заможнага берасцейскага яўрэя, якога шляхта падчас доўгага бескаралеўя 1587 года нібыта абрала валадаром на адну ноч. Той нібыта за гэты час нават паспеў выдаць шэраг прывілеяў для яўрэяў. ▶




**Партрэт каралевы Людвікі Марыі Ганзагі.** Гравюра Рабера Нантоя, 1653 год.

## Жанчыны каралёў

Жанчыны карысталіся выбарнасцю манархіі для задавальнення ўласных амбіцый. Часам яны выступалі ў якасці палітычнага інструмента. Так, сястра Жыгімонта II Аўгуста Ганна была важнай постаццю падчас першых элекцый. Шлюб з ёй мусіў замацаваць кандыдатуру новага манарха праз дынастычную сувязь з Ягелонамі. У 1575 годзе Ганна нават сама была фармальна абвешчана *каралём*. Некаторыя каралевы дасканала валодалі мастацтвам палітычных інтрыг і маніпуляцый, энергічна ўмешваючыся ў дзяржаўныя справы. Такімі былі жонка двух манархаў Рэчы Паспалітай (Уладзіслава IV і Яна II Казіміра) Людвіка Марыя Ганзага ды знакамітая *Марысенька* — Марыя Казіміра д'Арк'ен, жонка Яна III Сабескага. Абедзве яны былі француженкамі. Праўда, іх паводзіны часта выклікалі раздражненне і нават нянавісць шляхты.

Людвіка Марыя Ганзага энергічна ўмешвалася ў дзяржаўныя справы, у складанай сітуацыі шведскага Патопу і крывавай вайны з Расіяй 1654–1667 гадоў яна не аднойчы рабіла прапановы рэфармавання палітычнага ладу, вольнай элекцыі і ўмацавання каралеўскай улады. А кароткі раман з імператрыцай Кацярынай II паўплываў на лёс яе каханка Станіслава Аўгуста Панятоўскага, якому было наканавана ўвайсці ў гісторыю ў якасці апошняга манарха гэтай дзяржавы.




**Партрэт караля Аўгуста III.** Невядомы мастак паводле карціны Луі Сільвестра, каля 1737 года.

Хоць сам Аўгуст III аддаваў перавагу еўрапейскай модзе і большую частку свайго жыцця правёў у роднай Саксоніі, тут ён прадстаўлены ў кунтушовым строі. Зроблена гэта, відавочна, у мэтах прапаганды. Яго элекцыя была няпростай. У 1733 годзе былі адначасова абраныя два кандыдаты: Станіслаў Ляшчынскі, за якім стаяла Францыя і Швецыя, і Аўгуст III, які карыстаўся падтрымкай Расіі і шэрагу дзяржаў Святой Рымскай імперыі. Гэта прывяло да расійска-саксонскай інтэрвенцыі ў межы Рэчы Паспалітай і буйной еўрапейскай вайны «за польскую спадчыну».

▶ Аднак на самай справе аўтарства апошніх належыць Жыгімонту III Вазу.

### Што абяцалі выбарцам у Рэчы Паспалітай

Каб спадабацца шляхце, кожны з кандыдатаў раздаваў шчодрыя абяцанні. Так, у складаных умовах Інфлянцкай вайны трансільванскі князь Стэфан Баторы абяцаў вызваліць занятыя маскоўцамі землі ВКЛ. Вядомы мецэнат, ферарскі герцаг Альфонса, які неаднаразова браў удзел у элекцыях, прапаноўваў за ўласны кошт вучыць дзяцей шляхты ў знакамітых італьянскіх універсітэтах.

Не абыходзілася і без подкупу. Так, падчас выбараў 1648 года каралевіч Караль Фердынанд Ваза адкрыў у сваім невялікім палацы на Вісле карчму для таго, каб паіць, карміць і весяліць там шляхту. На «падарункі» ён патраціў тады, па чутках, больш за мільён злотых.

Кандыдат, які змог спадабацца шляхце, мусіў падпісаць «Генрыкавы артыкулы» і дадатковае пагадненне — *pacta conventa*. Апошні дакумент уяўляў сабой спецыфічныя «перадвыбарчыя абяцанні» манарха, якіх ён надалей мусіў пільнавацца.

Такія палітычныя гульні давалі магчымасць шматлікім групоўкам адстаяць свае інтарэсы. Напрыклад, ліцвіны ў сітуацыі бескаралеўя некалькі разоў імкнуліся дамагчыся частковага перагляду асобных умоў Люблінскай уніі, якія яны лічылі несправядлівымі. Менавіта няпэўнасць пазіцыі Жыгімонта III у Літве пасля падвойнай элекцыі падштурхнула таго ў 1588 годзе зацвердзіць знакаміты Статут ВКЛ.

### Крызіс сістэмы

Шляхта на працягу доўгага часу лічыла выбарнасць манарха слушным элементам палітычнай мадэлі. Аднак яе мары пабудаваць на грунце Рэчы Паспалітай «Паўночныя Афіны», дзе б арганічна злучыліся галоўныя палітычныя інстытуты, не спраўдзіліся. З другой паловы XVII стагоддзя краіна ўсё больш цярпела ад прыватных інтарэсаў магнацкіх груповак і ўмяшання замежных дзяржаў. Увесь гэты перыяд грамадскае жыццё было напоўнена рэспубліканскай рыторыкай і прыгожымі разважаннямі пра вольнасць, якія з кожным дзесяцігоддзем на фоне заняпаду дзяржавы гучалі ўсё менш пераканаўча. Асабліва гэта было заўважна ў першай палове XVIII стагоддзя, калі розныя галіны ўлады аказаліся амаль паралізаванымі.

Неаднойчы рабіліся спробы выправіць сітуацыю, але яны не мелі поспеху. У Канстытуцыі 3 мая 1791 года ў VII раздзеле было канстатавана, што выбарная манархія прыводзіць да крызісу ўлады і адкрывае добрую магчымасць для ўмяшання ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай замежных краін, у сувязі з чым прадугледжваўся пераход да спадчыннай манархіі. Але было ўжо запозна. Рэчы Паспалітай заставалася існаваць лічаныя гады. ◆

# Карта поштай!

## Закажы і атрымай картку без наведвання офіса банка!

Дастаўка па пошце з'яўляецца цалкам бяспечнай, бо кліенту накіроўваецца неактыўная картка (здзяйсненне па ёй аперацый без актывацыі немагчыма).

Пасля атрымання карткі па пошце яе актывацыя ажыццяўляецца кліентам банка самастойна адным са зручных спосабаў: з дапамогай USSD або SMS-запыту, у Інтэрнэт-банку ці ў мабільным дадатку BGPB mobile.




У афармленні рэкламнага макета паслугі «Карта поштай» выкарыстаны фрагменты работ з карпаратыўнай калекцыі Белгазпрамбанка: «Карта Вялікага Княства Літоўскага» (1630 г.), аўтар Томаш Макоўскі і «Улетку. Ветраны дзень» (1920–1930 гг.), аўтар Рыгор Баброўскі. Карпаратыўная калекцыя ААТ «Белгазпрамбанк» з'яўляецца асновай праекта «Арт-Беларусь», які мае на мэце паказаць гістарычны зрэз выяўленчага мастацтва Беларусі ва ўсёй паўнаце і цэласнасці. Праект «Арт-Беларусь» служыць аднаўленню сувязяў з культурна-гістарычнай спадчынай мінулага і надае новы імпульс развіцця сучаснаму беларускаму мастацтву.

Белгазпромбанк
Энергия твоего будущего!

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ? ТЭЛЕФАНУЙ **120** / **КАНТАКТ-ЦЭНТР** ПРАЦУЕ КРУГЛАСУТАЧНА

belgazprombank.by

ААТ «Белгазпрамбанк»
УНП 100429079




Аршанскія Курапаты —
**Кабыляцкая гара.**

ФОТА ЗМІТРА ДРАЗДА

# Як аршанскія юнакі вызвалялі Эрнста Тэльмана

**Група аршанскай моладзі, народжаная і выхаваная ўжо пры савецкай уладзе, шчыра верыла камуністычнай прапагандзе. Кіруючыся найлепшымі намерамі, маладзёны стварылі патаемную арганізацыю з наіўнай праграмай дзейнасці. Але ў 1930-я гады, ва ўмовах сталінскага рэжыму, любая несанкцыянаваная зверху актыўнасць была смяротна небяспечнай. Што атрымалася ў дадзеным выпадку, піша гісторык Зміцер Дрозд.**

2 ліпеня 1939 года на стол сакратара ЦК КП (б) Беларусі Панцеляймона Панамарэнкі лягла дакладная запіска. Яна была адзначана не толькі стандартным грыфам «Зусім сакрэтна», але мела і дадатковую пазнаку: «Падлягае вяртанню ў сакрэтны архіў Асобага сектара».

У дакуменце паведамлялася пра выяўленне ў БССР адразу некалькіх падпольных арганізацый. Так, у студзені 1939 года «органамі» ў горадзе Оршы нібыта была выкрыта антысавецкая моладзевая арганізацыя пад назвай «Тры плюс ікс», створаная антысавецка настроенымі вучнямі старэйшых класаў адной з гарадскіх школ. У яе ўваходзілі 15 чалавек, а кіраўніком быў Аляксандр Алейнікаў, «сын былога афіцэра старой арміі, у цяперашні час таксама арыштаванага па справе дадзенай арганізацыі». Задачамі арганізацыі былі нібыта антысавецкая агітацыя, вярбоўка новых членаў і набыццё зброі для арганізацыі тэрарыстычных актаў. Яна мела праграму, статут і нават адмыслова распрацаваны друкаваны шыфр. Па справе арганізацыі было ўжо арыштавана 10 чалавек, астатнія знаходзіліся ў распрацоўцы.

Далей у тэксце ішла гаворка пра выкрыццё ў маі 1939 года ў Палескай вобласці арганізацыі «Саюз прыгнечаных сялян», якую складалі 22 вучні старэйшых класаў Дакольскай няпоўнай сярэдняй школы.

Завяршалася дакладная запіска высновай яе аўтара, наркама ўнутраных спраў БССР Лаўрэнція Цанавы, што наяўнасць такіх антысавецкіх моладзевых арганізацый сведчыць пра слабую выхаваўчую работ сярод вучнёўскай моладзі з боку партыйна-камсамольскіх арганізацый.

### Адліга сярод сталінскай зімы

Калі б гэтую дакладную запіску Панамарэнка чытаў у 1937 ці 1938 гадах, то ён, відаць, натхніўся б і ўзбадзёрыўся. Моладзевая падпольная арганізацыя з пятнаццаці чалавек! Набыццё зброі для тэрарыстычных актаў! Спецыяльны шыфр! Сувязі з былымі царскімі афіцэрамі! А пасля яшчэ 22 чалавекі ворагаў-малалетак! За такое можна было б са спакойным сумленнем атрымаць ордэн.

Але цяпер быў нюанс, які прымушаў кіраўніка рэспубліканскай партыйнай арганізацыі глыбока задумацца. Незадоўга да лета 1939 года, калі адбываліся гэтыя падзеі, асноўная кампанія па барацьбе з «ворагамі народа» (цяпер вядомая нам як «Вялікі тэрор») ужо была афіцыйна згорнута. У пастанове СНК СССР і ЦК УКП(б) ад 17 лістапада 1938 года «Аб арыштах, пракурорскім наглядзе і вядзенні следства» адзначалася, што за 1937–1938 гады органы НКВД пад кіраўніцтвам партыі правялі вялікую працу па разгроме ўнутраных «ворагаў народа» і шпіёнска-дыверсійнай агентуры замежных выведак. І хоць спыняцца на дасягнутым не варта, бо належыць працягваць змагацца з ворагамі і надалей, рабіць гэта, маўляў, цяпер трэба больш дасканалымі і надзейнымі метадамі.

Далей у пастанове адзначалася, што гераічная барацьба з ворагамі пры спрошчаным вядзенні следства і суда не магла абысціся без памылак і перагібаў, тым больш што, маўляў, і самі ворагі, якія заселі ў следчых і судовых органах, актыўна падрывалі сістэму з сярэдзіны, тым самым дыскрэдытуючы яе.

Сярод недахопаў адзначалася, што, атрымаўшы ліміты на арышты, супрацоўнікі НКВД не займаліся агентурна-аседамляльнай працай, абмяжоўваючы доказную базу прызнаннямі абвінавачанымі сваёй «віны», не пацверджанай ні паказаннямі сведкаў, ні экспертызай, ні рэчавымі доказамі. Пры гэтым следчыя масава фальсіфікавалі пратаколы допытаў і пры поўным патуранні пракуратуры штампавалі крымінальныя справы супраць невінаватых людзей. Вядома, у дакуменце адзначалася, што гэта рабілі не сумленныя камуністы, а ворагі, што прабраліся ў органы НКВД і пракуратуры. А дзе ворагі, там мусіць быць і бязлітасная барацьба з імі. Пасля гэтай пастановы пачалася кампанія па зачыстцы асабліва

## Маладыя людзі, начытаўшыся прыгодніцкіх кніг, збіраліся перайсці мяжу

актыўных кіраўнікоў і супрацоўнікаў НКВД, якія ўдзельнічалі ў масавых рэпрэсіях. Пасля прыходу да ўлады ў НКВД Лаўрэнція Берыя ў 1939 годзе па ўсім СССР было арыштавана 937 і звольнена са службы 7 372 чэкісты. Праўда, варта адзначыць, што многія з непасрэдных удзельнікаў фальсіфікацый і бесчалавечных катаванняў абышліся лёгкім спалохам — у большасці выпадкаў нават не расследаваннем і судом, а толькі звальненнем. Для большасці ж цяжкія службовыя злачынствы ўвогуле не мелі наступстваў.

Але ў грамадскім жыцці краіны пазначыліся, хоць і невядома, як надоўга, новыя тэндэнцыі, і іх належала чуйна лавіць, каб, дзейнічаючы па звычцы старымі метадамі, не наклікаць бяды на ўласную галаву. Было пра што задумацца не толькі першаму сакратару ЦК КП(б)Б, але і функцыянерам больш нізкага ўзроўню, у тым ліку карным і судовым органам.

### Суд над дзецьмі

Усяго праз месяц пасля гэтай дакладной запіскі справа аб антысавецкай моладзевай арганізацыі «Тры плюс ікс» з абвінавачаннем адразу па некалькіх «контррэвалюцыйных» артыкулах Крымінальнага кодэкса БССР паступіла ў Судовую калегію па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда. 2–5 жніўня 1939 года ў Віцебску адбыўся закрыты працэс.

У страшным злачынстве супраць савецкай улады абвінавачвалі дзевяцярых чалавек. Група была інтэрнацыянальная: у яе склад уваходзілі ўкраінцы, бацька і сын Аляксандры Алейнікавы, беларусы Уладзімір Страд, Уладзімір Закшэўскі і Аляксандр Заблоцкі, яўрэі Ісак Кузняцоў, Хая-Сара Бекер, Нохім Фукс і немка Марыя Везер. Наймалодшай са «злачынцаў-тэрарыстаў» (Хаі-Сары Бекер) было ўсяго 16 гадоў, тром чалавекам — 17, тром — 19, аднаму — 20 гадоў. Зусім дарослым быў толькі Аляксандр Алейнікаў-старэйшы, які нарадзіўся ў 1896 годзе.

Можна ўявіць, з якім хваляваннем гэтыя фактычна яшчэ дзеці чакалі рашэння суда. На той момант усе ведалі пра сотні зніклых назаўжды суседзяў, абвінавачаных у самых страшных злачынствах. Газеты таго ▶



**У якасці турмы ў Оршы** выкарыстоўваўся будынак былога езуіцкага калегіума. Цяпер тут нішто не нагадвае пра жахі мінулага.

Фота Зміцера Дразда

часу не саромеліся заклікаць «расстраляць ворагаў, як шалёных сабак», а потым публікаваць і самі прысуды — натуральна, расстрэльныя. У гэтым выпадку абвінаваўчае заключэнне, зачытанае спачатку, таксама не абяцала аніякіх сюрпрызаў. Паводле яго:

«Папярэдняе следства прыйшло да высновы, што ўсе падсудныя складаюць контррэвалюцыйную падпольную моладзевую арганізацыю, якая называла сябе «Тры плюс ікс», ставячы сабе за задачу актыўную барацьбу супраць савецкай улады шляхам правядзення антысавецкай агітацыі з мэтай выклікання незадаволенасці сярод моладзі наяўным ладам, вярбоўку новых членаў у арганізацыю з антысавецкай, маральна разбэшчанай часткі моладзі, набыццё зброі для здзяйснення тэрарыстычных актаў над прадстаўнікамі савецкай улады, з мэтай рабавання і падрыхтоўкі сваіх удзельнікаў для нелегальнага пераходу за мяжу...

Усе гэтыя высновы абвінаваўчага заключэння галоўным чынам і ў асноўным пацверджаныя вытрымкамі з асабістых прызнанняў абвінавачваных на папярэднім следстве, а таксама спасылкай на дакументы ў выглядзе статута, праграмы, шыфру арганізацыі і пратаколаў нарадаў апошняй...»

**Толькі дзякуючы часоваму зігзагу «палітыкі партыі» ў 1939 годзе сямі падлеткам удалося вырятавацца ад найвышэйшай меры пакарання**

## Нечаканы паварот

Што ж... Усё нібыта было даказана, суду мусіла быць усё зразумела. Здавалася б, адзінае, на што маглі разлічваць абвінавачваныя, — гэта на змякчэнне прысуду ў сувязі з іх малалецтвам. Зрэшты, расстрэльныя і іншыя жорсткія прысуды выносіліся тады людзям усіх узростаў — ад самых юных да 80-гадовых старых.

Так бы і было ў 1937 ці 1938 гадах. Але тут год быў ужо 1939-ы. Канвеер масавых, збольшага пазасудовых рэпрэсій, як адзначалася вышэй, ужо быў прыпынены. І хоць справа маладых «контррэвалюцыянераў» паспяхова прайшла праз пракуратуру і следчыя органы і была накіравана ў суд, які перад гэтым проста афармляў сваім рашэннем высновы абвінавачання — тут здарылася такое, пра што раней немагчыма было і марыць. Суд пасля «глыбокай аб'ектыўнай праверкі абвінавачання» прызнаў, што высновы следства «з'яўляюцца неабгрунтаванымі, для гэтага ў справе няма ніякіх фактычных дадзеных і доказаў», і хоць арганізацыя сапраўды мела сваю праграму, статут і шыфр, няма аніякіх падстаў прызнаваць, што яна рыхтавала тыя злачынствы, якія ёй інкрымінаваліся.

## Вызваліць Эрнста Тэльмана!

Пры судовым разбіральніцтве высветлілася, што маладыя людзі, начытаўшыся прыгодніцкіх кніг, сапраўды збіраліся перайсці мяжу, але планавалі не праводзіць там контррэвалюцыйную дзейнасць, а... рабаваць багатых і аддаваць забраныя ў іх грошы бедным! Таксама яны сапраўды збіраліся праводзіць тэрарыстычныя акты, але з мэтай... арганізацыі ўцёкаў з турмы лідара нямецкіх камуністаў Эрнста Тэльмана! Судовы вердыкт у выніку канстатаваў:

«Як выяўлена судовым следствам, удзельнікі гэтай арганізацыі «Тры плюс ікс» перш за ўсё і самі не ўсведамляюць сутнасці гэтай арганізацыі... самі не разбіраюцца ў «статутах»і «праграмных» пытаннях арганізацыі. Даказана, што большасць удзельнікаў арганізацыі... начытаўшыся фантастычнай літаратуры... уцягнутая ў арганізацыю, якая мае мэтай: падрыхтоўку яе ўдзельнікаў да падарожжаў, паездкі ў Сібір, а затым быў узяты курс на пераход мяжы ў адну з капіталістычных краін для рабавання банкіраў і наступнай дзяльбы нарабаванага з бяднейшым насельніцтвам. У арганізацыі мела таксама месца ідэя падрыхтаваць вызваленне з фашысцкіх засценкаў Эрнста Тэльмана і г.д.»

У гэтых радках дакладна выкладзеная рамантычная сутнасць гэтай «арганізацыі», якая не мела анічога супольнага з выстаўленымі абвінавачаннямі. Таму суд пастанавіў, што абвінавачанне не даказана, а канкрэтных фактаў контррэвалюцыйнай агітацыі з боку падсудных не выяўлена. У выніку сем чалавек з дзевяці былі вызваленыя проста ў зале суда.


Цяпер калегіум выглядае зусім не змрочна.

ФОТА ЗМІТРА ДРАЗДА

Праўда, савецкая карная сістэма не магла працаваць ухаластую. Калі ўжо чэкісты стараліся ды працавалі, то нават калі яны дапусцілі перагібы, усё адно трэба было хоць некага пакараць. Інакш давялося б прызнаць, што следчыя і пракуроры дарма атрымліваюць свае заробкі. Не абышлося без ахвярных казлоў і тут: на іх ролю былі прызначаныя бацька і сын Алейнікавы. Галоўная адказнасць была ўскладзена на Алейнікава-малодшага, абвінавачанага ў тым, што ён... адцягваў увагу савецкай моладзі ад сацыялістычнага будаўніцтва. За гэта яго асудзілі на пяць гадоў пазбаўлення волі ў працоўных лагерах аддаленых мясцовасцяў СССР. Улічваючы, што ў тыя суровыя часы можна было пазбавіцца жыцця літаральна за нішто, — прысуд быў не такі ўжо і жорсткі.

### Чэкісцкая правакацыя

Здавалася б, справа на гэтым была закрытая. Суд разабраўся, вінаватыя пакараныя, невінаватыя — на волі. Аднак вердыкт суда фактычна замаўчаў тое, што ў гэтай справе была не проста памылка. Пра гэта дакладна сведчыць адзін, у той час зусім сакрэтны, дакумент. 11 жніўня 1939 года Міністэрства юстыцыі пад грыфам «Зусім сакрэтна» пераслала 1-му сакратару ЦК КП (б) Беларусі Панамарэнку і сакратару Віцебскага абласнога камітэта Стулаву своеасаблівую справаздачу аб праведзенай працы Віцебскага абласнога суда за подпісам яго старшыні Грышчанкова. Менавіта яна і дае нам уяўленне пра прыхаваныя аспекты гэтай справы. У справаздачы адзначалася, што адзін са следчых НКВД, сяржант дзяржбяспекі Юрый Механік, здымаючы копію з праграмы арганізацыі, сам прыпісаў у загалоўку, што гэта «праграма антысавецкай моладзевай арганізацыі «Тры плюс ікс», чаго ў арыгінале не было. Такім чынам, назва арганізацыі была проста выдумана самім чэкістам.

## Назву арганізацыі «Тры плюс ікс» прыдумаў следчы НКВД, сяржант Юрый Механік

Далей у запісцы ішло апісанне метадаў працы Аршанскага гарадскога аддзела Упраўлення дзяржаўнай бяспекі НКВД. З гэтага тэксту вынікала, што члены арганізацыі «Тры плюс ікс» і будучыя падсудныя Кузняцоў і Бекер былі завербаваныя чэкістамі і працу па актывізацыі дзейнасці да таго часу ўжо практычна заняпалай арганізацыі рабілі з ведама і нават па заданні НКВД. Такім чынам, мела месца звычайная правакацыя. Нават на пасяджэнне арганізацыі, на якім былі праведзеныя арышты, некаторыя былыя сябры прыйшлі без усялякай ахвоты, паддаўшыся настойлівым уговорам, бо яны яшчэ з мінулага года страцілі да яе цікавасць.

Уся дзейнасць «антысавецкай арганізацыі» цалкам кантралявалася і накіроўвалася з НКВД. Яе членаў спецыяльна прымушалі ўдзельнічаць у гэтай аперацыі, каб потым са спакойнай душой паставіць іх да сценкі. Вядома, выканаўшы тым самым план па раскрыцці змоваў і атрымаўшы за гэта падзякі, узнагароды і званні. Толькі дзякуючы часоваму зігзагу «палітыкі партыі», якая першапачаткова ўсяляк спрыяла менавіта такім метадам працы, у 1939 годзе сямі падлеткам удалося выратавацца ад найвышэйшай меры пакарання ці ад лагераў, якія яшчэ год таму такая стандартная чэкісцкая правакацыя ім стапрацэнтна гарантавала. Зусім нядаўна тысячы падобных ліпавых спраў праходзілі праз «тройкі» і «двойкі», дзе прысуды «расстраляць» выдаваліся аўтаматычна, без вывучэння самой справы.


3/зп.

108

~~СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО.~~ РАССЕКРЕЧЕНО

108

СЕКРЕТАРЮ ЦК КП/б/ БЕЛОРУССИИ

товарищу ПОНОМАРЕНКО.

ЦК КП(б)Б Вх. № 1660 2 ИЮЛ 1939

В январе мес. 1939 года нами вскрыта в гор. Орше антисоветская молодежная организация, носящая название "три плюс икс", созданная из числа антисоветски настроенных учеников старших классов 3-й средней школы, в которой состояло 15 человек.

Руководителем антисоветской молодежной организации являлся ОЛЕЙНИКОВ Александр Александрович, 1919г. рожд., сын бывшего офицера старой армии, в настоящее время арестованного по делу данной организации.

Антисоветская молодежная организация ставила своей задачей:

1. Вести активную борьбу против Советской власти путем проведения антисоветской агитации, с целью вызова недовольства среди молодежи существующим строем.

2. Вербовку новых членов в организацию из антисоветской, морально разложившейся части молодежи, а также детей репрессированных.

3. Приобретение оружия для совершения тер-

НАРБ, Ф. 4-П, ВОП. 1, СПР. 14611, АРК. 108

**Дакладная запіска пра выкрыццё ў БССР падпольных арганізацый** з рэзалюцыяй Панцеляймона Панамарэнкі.

На жаль, нічога нам не вядома пра лёс падлеткаў, якія праходзілі па справе «Саюза прыгнечаных сялян», што згадваўся ў той жа дакладной запісцы Панамарэнку ад 2 ліпеня 1939 года. З вялізнай доляй імавернасці яна была зьлеплена паводле таго ж чэкісцкага рэцэпту. Што ж тычыцца лёсу адзінага вядомага нам па справе «Тры плюс ікс» аршанскага майстра правакацый і фабрыкавання крымінальных спраў, сяржанта дзяржбяспекі Юрыя Механіка, то невядома, ці абвясцілі яму тады за падобнае злачынства хоць бы вымову. Вядома толькі, што пазней ён пайшоў на павышэнне, атрымаў дзяржаўныя ўзнагароды і даслужыўся да звання падпалкоўніка. Спецыфічныя таленты былі па заслугах ацэненыя злачыннай савецкай дзяржавай. ◆

Паводле матэрыялаў: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, фонд 4-п, вопіс 1, справа 14611, аркушы 108–123.


**Жаночае смяротнае** адзенне стараверкі.

## Як беларусы прымалі бежанцаў і як старавеpы сталі ў нас сваімі

# Старавеpы і злябы

**У 2019 годзе будзе 350 гадоў, як старавеpы з'явіліся на беларускай зямлі. Даўней беларусы называлі іх маскоўцы, маскалі («маскальскія звычаі», «маскоўскія могілкі»). Жыццё гэтай супольнасці ў многім застаецца таямніцай. Пра жыццё беларускіх стараабрадцаў піша выкладчык Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта, доктар сацыялінгвістыкі Уладзіслаў Іваноў.**

### Хто такія старавеpы

Старавеpы мусілі ўцякаць у Беларусь у выніку царкоўнага расколу ў Расіі 1656–1667 гадоў. Патрыярх Нікан імкнуўся ўзмацніць Праваслаўную царкву, ліквідаваўшы ў ёй адрозненні паміж рускім і грэцкім чынамі богаслужэння (напрыклад, васьміканцовы крыж быў заменены шасціканцовым, двухпальцавае хрышчэнне — трохпальцавым, падвойная алілуя — патройнай і гэтак далей). Праціўнікі новаўвядзенняў былі абвешчаныя ерэтыкамі, *раскольнікамі*. Іх было шмат, іх страшна пераследавалі, нават палілі жыўцом. Каб захаваць веру, старавеpы вымушаныя былі хавацца — або ў глухіх лясах, або ў талерантным Вялікім Княстве Літоўскім.

### Адкуль старавеpы ў Беларусі

Першыя ўцекачы-старавеpы з'явіліся на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў 1669 годзе.

> **«Лепей злябоўка, чым беспапоўка»**

У 1680–1690-я гады старавеpы з Памор'я (Поўначы) і Ноўгарада пачалі масава прыбываць у Віцебскае ваяводства. З Масквы, Яраслаўля, Калугі і Ніжняга Ноўгарада людзі беглі ў Мсціслаўскае і Менскае ваяводствы.

Амаль адразу адным з цэнтраў старавераў стала Ветка — сёння райцэнтр Гомельскай вобласці. Размяшчэнне Веткі блізка ад мяжы з Расіяй мела, аднак, трагічныя наступствы: царскія войскі

### Старавеpы

- хрысцяцца двума пальцамі, а не трыма,
- пішуць *Исус*, а не *Иисус*,
- слова *алілуя* вымаўляюць два разы, а не тры,
- хросным ходам ідуць па гадзіннікавай стрэлцы, а не супраць яе,
- моляцца «о богохранимой стране нашей Российской, властех и воинстве ея», а не «о богохранимой стране нашей, властях, воинстве и народе ея», як праваслаўныя,
- спеў у іх аднагалосы, а не шматгалосы, а знакі для запісу нот — старыя, так званыя крукі,
- маліцца ім дазваляецца толькі перад абразамі, напісанымі на дрэве або літымі, у стылі старажытнавізантыйскім ці ў стылі рускага царкоўнага жывапісу (Феафан Грэк, Андрэй Рублёў),
- у Сімвале веры яны захоўваюць саюз-супрацьстаўленне *а* («рожденна, а не сотворенна»),
- хрысцяць толькі поўным трохразовым апусканнем у ваду, а не мачаннем ці апырскваннем,
- прызнаюць выключна васьміканцовы крыж, а не шасціканцовы.



**Адзін з духоўных лідараў віцебскіх папоўцаў** за суканнем свечак. 2005 год.

**Беспапоўства**
ўзнікла ў канцы XVII стагоддзя пасля смерці ўсіх святароў, высвячэнне якіх адбылося да рэформы патрыярха Нікана. Старыя архіепіскапы і епіскапы былі рэпрэсаваныя або далучыліся да новай царквы, а таму ўспрымаліся старaверамі як слугі Антыхрыста і, канечне, не маглі пасвяціць у святары і епіскапы. Спярша беспапоўцы адмовіліся ад усіх царкоўных таінстваў, аднак пасля вярнулі таінства хрышчэння і споведзі. Замест святара іх павінны здзяйсняць выбраныя члены абшчыны. Для заключэння шлюбу ў часткі беспапоўцаў дастаткова бацькоўскага блаславення, частка ж не прызнае шлюб у прынцыпе.
**Папоўцы** прымалі ў сябе праваслаўных святароў-«перабежчыкаў», якія з нейкіх прычын уцяклі з Праваслаўнай царквы. У іх абрадах захаваліся ўсе ранейшыя таінствы. Паступова ў стараавераў-папоўцаў узнікла свая іерархія з мітрапалітам, архіепіскапамі і епіскапамі.

некалькі разоў разбуралі паселішча і выводзілі «раскольнікаў» назад у Расію. Тыя ж веткаўцы, якія пахаваліся, у 1735 і 1764 гадах перасяліліся ў Віцебск, Полацк і Лепель.

Найбольш стараавераў асела на Віцебшчыне, дзе пасля войнаў XVII стагоддзя шмат зямель ляжала аблогам. Падчас першага расійскага перапісу 1897 года ў Віцебскай губерні налічылі 83 тысячы стараавераў, усяго ж тады ў беларускіх губернях жыло іх каля 110 000.

Колькі стараавераў на сёння ў Беларусі? У перапісе рэлігійнага пытання няма, але даследчыкі гавораць пра 25 000 стараавераў. Па стане на 2014 год зарэгістраваныя 33 стараверскія суполкі, 20 з іх — у Віцебскай вобласці. На Віцебшчыне ўсё яшчэ ёсць амаль 90 вёсак, дзе жывуць выключна старaверы. Кампактна жывуць яны і на Бабруйшчыне.

### Папоўцы і беспапоўцы

Між стараавераў існуюць дзве плыні, або *сагласы*: папоўцы і беспапоўцы. Як відаць з назваў, адна плынь прызнае інстытут святарства, а другая яго адмаўляе. Адна другую не прызнае. Вядомыя прымаўкі беларускіх стараавераў: «*Лепей жыдоўка, чым беспапоўка*» ці «*Лепей зляboўка, чым беспапоўка*» («злёб» — пагардлівае акрэсленне нестараавераў).

**У паморцаў жанчынам афіцыйна дазволена выконваць функцыі духоўных лідараў. Так стала вымушана ў XX стагоддзі, раней гэтага не было, каб жанчына «была за папа́», каб жанчына «папава́ла»**



**Беспапоўская малельня** ў вёсцы Булавішкі Браслаўскага раёна.

У Беларусі гістарычна дамінуе беспапоўства. Нешматлікія мясцовыя папоўцы паходзяць пераважна з веткаўцаў і з'явіліся тут у асноўным у XVIII стагоддзі. Пазней, у XIX і пачатку XX стагоддзяў, хвалі стараавераў-папоўцаў прыбывалі ў Беларусь з суседняй Пскоўшчыны і Бранцшчыны. Сёння большая частка папоўцаў жыве ў Віцебску ці ў яго ваколіцах, а таксама ў Лёзне ▶

**Некаторыя стараверы застаюцца прынцыповымі тэхнафобамі, трактуюць мабільную сувязь і інтэрнэт як штосьці нячыстае, іншыя, наадварот, адкрытыя да новых павеваў**



**Шумілінскія беспапоўкі.**

▶ і Лёзненскім раёне. Акрамя таго, зусім нязначная папоўская суполка месціцца ў Гомелі. У той жа час прадстаўнікі гэтай плыні з'яўляюцца найбольш заможнай, а адначасова найбольш кансерватыўнай часткай усёй стараверскай супольнасці.

Беспапоўцы, якіх на Беларусі больш, расселеныя на Магілёўшчыне (пераважна Бабруйск і ваколіцы), на Міншчыне (у асноўным Барысаў і ваколіцы) і па ўсёй Віцебшчыне.

На Віцебшчыне, дзе на сёння жыве больш за 80% усіх беларускіх старавераў, амаль 90% складаюць прыхільнікі беспапоўскай плыні. У самім Віцебску беспапоўцы жывуць уперамешку з папоўцамі, а ў цэнтральных і заходніх частках Віцебшчыны яны маюць значныя суполкі ў Полацку, Мёрах, Браславе, Паставах, Шуміліне, Бешанковічах і Шаркаўшчыне. У Беларусі беспапоўцы прэзентаваныя найбольш вядомым і масавым сагласам — *паморскім*, а таксама цяпер зусім малалікім, вельмі кансерватыўным *федасееўскім*.



**Стараверскае надмагілле**. Вёска Фокіна каля Віцебска.

### Стэрэатыпы

Сярод беларусаў быў распаўсюджаны стэрэатып пра «злых» і «варожых» старавераў. Рацыянальных тлумачэнняў гэтым стэрэатыпам няма, іх прычына — усяго толькі адвечны страх перад іншым, чужынскім. Мужчыны-беларусы галіліся, а стараверы насілі бароды.

Акрамя таго, стараверы часта ўспрымаліся як надзвычай адданыя праваднікі «рускасці» ў сённяшнім

**Асташы** зімою, а **булыні** летам, убіваючыся ў вёскі, распаўсюджваюць кепскія звычаі ў сем'ях. Таму люд іх зненавідзеў.

*Рамуальд Падбярэскі. Лісты пра Беларусь*

* «Асташы» і «булыні» — рэгіянальныя назвы старавераў.

разуменні гэтага слова. Аднак гэта не заўсёды было так. Старавераў можна знайсці сярод удзельнікаў паўстанняў 1830–1831 і 1863–1864 гадоў. Сярод арыштаваных сустракаюцца не беларускія, а расійскія прозвішчы: Іваноў Фама, Іваноў Арсеній.

Аднак матэрыялы сучасных этналагічных экспедыцый, аналіз перапісаў насельніцтва і шматлікіх этнаграфічных звестак разбіваюць, адкрываюць вельмі цікавыя і часта нечаканыя бакі староверства. Да нядаўняга часу староверства зусім не разглядалася як з'ява беларускай культуры, хоць беларусізацыя старавераў пачалася тры з паловай стагоддзі таму. Будучы спачатку чужынцамі, старaверы паступова ўліліся ў беларускую нацыю.

### Старaверы-беларусы

Цяпер частка старавераў лічыць сябе беларусамі, размаўляе на дыялектнай беларускай мове і на трасянцы, а частка працягвае бачыць сябе рускімі. Цікава, што ўжо падчас перапісу 1897 года каля 25% старавераў Віцебшчыны прызналі роднай мовай беларускую.

## Беларускія старaверы-паморцы маюць два цэнтры: віцебскія — у Вільні, барысаўскія — у Маскве

Пэўная беларусізацыя значнай часткі мясцовага староверства (як папоўцаў, так і беспапоўцаў) адбывалася хвалямі ў XIX і XX стагоддзях. Ужо ў этнаграфічных працах XIX стагоддзя старaверская тэма даволі часта ўзнікала як дадатак падчас вывучэння і апісання беларусаў. Мікалай Нікіфароўскі апісваў, як беларускі і старaверкі пераймалі адныя ў адных розныя модныя тэндэнцыі, напрыклад спосабы нашэння хустак ды каптурыкаў. Складальнікі «Памятных кніжак Віцебскай губерні» ў апісаннях



**Старaверская малельня.** Мёршчына.

мясцовых старавераў падкрэсліваюць, што на іх мову істотна паўплывала «*белорусская речь*» — як у лексічным, так і ў фанетычным плане.

Затым, ужо ў савецкі час, беларусізацыя старавераў перайшла

*Прыходзілі старaверы, «рускія», вядомыя канакрады, высокія,васпаватыя і рудабародыя. Яны жылі тут у сваіх хутарках зусім паасобку, не п'ючы з таго каўша вады, з якога піў чужы, а тут бралі ваду, не баючыся рабіцца «еретиками». — Ентот камень помогает ото всяких болезней! — гаварылі яны.
А калі старaвер у старaвера, па старому звычаю, краў жонку маладую, высокую, светлавалосую і румяную, як макаў цвет, дык таксама свянціўся з ёю каля святога каменя, каб шанцавала...*

*Змітрок Бядуля. Божыя сляды*

ў рэчышча палітычнае. Пад уздзеяннем нацыянальнай палітыкі 1920-х гадоў многія старaверы пачалі запісвацца беларусамі таму, што яны жылі ў Беларусі.

Сёння беларускія старaверы імкліва асімілююцца, пакідаючы, аднак, незабыўны след у назвах вёсак (Маскаляняты, Маскоўцы), гарадскіх раёнаў (Маскалі і Кліны ў Віцебску), у людской памяці, у прозвішчах беларусаў (Селязнёў, Мацвееў, Фірсаў, Рыжкоў, Балаханаў). Старaверы — гэта прыклад таго, як эмігранты інтэграваліся ў мясцовае грамадства і сталі ў ім зусім сваімі. ◆

**Фота з экспедыцый У. Іванова**



**Старaвер з вёскі Гарэлікі** Лёзненскага раёна. 2003 год.


WIKIMEDIA COMMONS

## Ці маюць курды сяброў, апроч гор

# Чаму курды паставілі на саюз з Захадам і Ізраілем

**Пра курдаў гавораць увесь час. Але выніку іх барацьбы ўсё няма. Усходазнавец, доктар палітычных навук Сяргей Богдан расказвае, чаму так і ці з'явіцца Курдыстан на карце свету.**

Гартаючы зборнік самага вядомага з сучасных курдскіх паэтаў Абдулы Пашэва, я заўважыў вершы, напісаныя ў 1990–1991 гадах у Беларусі. Так, Пашэў быў у Беларусі.

Ягоны прыезд у нашу краіну быў звязаны з чарговым этапам курдскага нацыянальна-вызвольнага руху. І з чарговым яго разгромам. Непасрэднае дачыненне да гэтага руху меў Савецкі Саюз, які спрычыніўся да стварэння першай сучаснай курдскай дзяржавы ў 1940-х.

Курдскія нацыяналісты любяць цытаваць выслоўе «У курдаў няма сяброў, апроч гор». Але гэта не так. На каго толькі з магутных міжнародных гульцоў за апошняе стагоддзе не спрабавалі абаперціся курды. Індывідуальны рэкорд паставіў іракскі курдскі правадыр Мустафа Барзані, якога па чарзе падтрымлівалі СССР, іранскі шах, Ізраіль і ЗША.

### Чаму курды ўвесь час прайгравалі

Тым не менш дагэтуль курдскі незалежніцкі рух зазнаваў паразы адну за адной. Па-першае, у гэтым рэгіёне доўгі час не было спрыяльнай глебы для этнічнага нацыяналізму. На Блізкім Усходзе прыналежнасць да канфесіі, племені, мясцовасці была людзям важнейшай за прыналежнасць да этнасу.

Ёсць і іншы момант. Значная частка курдаў доўга, нават у XX стагоддзі, жыла ў шматэтнічным асяроддзі, дзе курдская мова і культура магла быць першай, але сярод некалькіх параўнальна роўных з ёй. Асабліва часта курды жылі побач з армянамі, асірыйцамі, рознымі цюркскімі народамі, арабамі. Кожны з народаў займаў у такім стракатым грамадстве сваю сацыяльную нішу.

Цяпер у рэгіёне ўжо няма тае разнастайнасці, ён стаў больш аднародным. Гэта вынік не толькі павольных дэмаграфічных працэсаў і міграцыі, але і катастрафічных падзей. Курды прыклалі руку да армянскага і асірыйскага генацыдаў, але і самі сталі ахвярамі генацыду з боку іракскага ўрада. Але і сёння ўрад Іракскага Курдыстана спрабуе прысабечыць Кіркук, дзе курды жывуць разам з арабамі і туркменамі.

### Курдаў шмат, але яны розныя

Колькі ўсяго курдаў на свеце?

Пачнём з таго, што няясна, хто належыць да курдскай нацыі. З аднаго боку, ёсць буйныя этнічныя групы, якія з той ці іншай фармулёўкай уключаюцца курдскімі нацыяналістамі ў склад курдаў: у Іране — луры з бахціярамі, у Турцыі — курды-алавіты і заза, у Іраку — езіды. Усе гэтыя групы значна розняцца ад рэшты курдаў у культурным плане. Многія з гэтых людзей — а тых жа заза ёсць мільёны з тры — цвёрда адмаўляюцца лічыць сябе курдамі.

З другога боку, нават тыя, хто сябе курдамі лічыць, утвараюць надта разнародную масу. Гэта відаць нават па самым простым аспекце ідэнтычнасці — мове. Найперш ідуць дзве вялікія моўныя супольнасці: тыя, хто гаворыць на мове курманджы, і тыя, хто на мове сарані. Абедзве яны маюць развіты літаратурны канон, але адрозніваюцца паміж сабой больш, чым беларуская ад славенскай. Акрамя таго, ёсць яшчэ некалькі буйных адметных курдскіх дыялектаў. А існуюць жа яшчэ адрозненні ў сацыяльна-эканамічным развіцці, палітычнай традыцыі, рэлігіі.

Як вынік, паўстае пытанне: наколькі можна казаць пра існаванне вялікага Курдыстана, падзеленага на чатыры кавалкі? Можа, гэта проста шэраг этнічных груп, што зліліся ў адну разнародную масу на сумежжы арабскага свету, Турцыі і Персіі, што дапускалі і некаторыя вядомыя курдазнаўцы?

Таму і не дзіва, што ніводная курдская партыя і ніводзін палітычны рух не змаглі ахапіць больш за нейкі адзін Курдыстан. Найбольш старалася арганізацыя турэцкіх курдаў, Працоўная партыя Курдыстана. Яна мела і моцную сацыяльную праграму, таму незразумела, ішлі людзі больш за яе нацыяналістычнымі ці ўсё ж сацыяльнымі лозунгамі.

### Няма грошай — няма дзяржавы

Ёсць і іншая фундаментальная прычына няўдачаў курдскага народа ў здабыцці ўласнай дзяржаўнасці, апрача яго аб'ектыўнай падзеленасці. Гэта эканамічная маргінальнасць курдскіх земляў. Знаходзячыся пераважна ў горнай мясцовасці, удалечыні ад мора, курдскія княствы, пачынаючы дзесьці з XVII стагоддзя, проста гібелі.

## Далягляды курдскай незалежнасці не падаюцца безнадзейнымі

Курдскія ўладары і плямёны нажываліся на прымітыўнай эксплуатацыі, а то і простым рабунку аселага насельніцтва, што не давала ім шанцаў захавацца пасля прыходу мадэрных дзяржаў і капіталізму. Праўда, быў у гэтым і станоўчы бок, бо курдскія землі на сумежжы Персідскай і Асманскай імперый да Першай сусветнай вайны існавалі самі па сабе, а імперскія ўлады ўвагі ім не надавалі.

Наколькі важная эканамічная база для разбудовы нейкага самастойнага палітычнага праекта, добра відаць на прыкладзе іракскіх курдаў. Па меры таго, як у іх краіне і на межах з ёй пачалі адкрываць усё больш радовішчаў нафты, лёс курдаў пачаў цікавіць свет больш. Канфлікты курдаў з іракскімі ўладамі ў другой палове XX стагоддзя ператварыліся ў войны з умяшаннем мноства знешніх сілаў. ▶




**Геаграфічнае размеркаванне курдскіх моваў.**

**Горад Дахук**
у Іракскім Курдыстане.

## 21-прамянёвае сонца — старадаўні рэлігійны і культурны сімвал курдаў





ФОТА АНЖАЛІКІ ПАБЕДАНОСЦАВАЙ КАЯ

**Заварнік, або «імбрычак шматгаловы»**, як яго завуць у арыгінале. Выкарыстоўваўся ён у чайханах. Гэтыя носікі патрэбныя, каб зручней і зграбней разліваць гарбату колу гасцей (Эрбіль, Іракскі Курдыстан).

WIKIMEDIA COMMONS

# 9 пераломных пунктаў курдскай гісторыі

Пуцявіна курдскай гісторыі моцна адрозніваецца ад нашай. Некаторыя глабальныя калатнечы, што падзялілі беларускую гісторыю на часы «да» і «пасля», як Другая сусветная вайна, засталіся для большасці курдаў чымсьці другарадным. І, наадварот, зацішныя для нас 1970-я і большая частка 1980-х для паловы Курдыстана сталі апакаліпсісам.

**1639** Падзел курдскіх земель між Асманскай і Персідскай імперыямі. Мяжа, праведзеная тады, існуе дагэтуль.

**1855–1867** Скасаванне апошніх, даўно заняпалых, курдскіх ханстваў у Асманскай імперыі (Батан, 1855) і Персіі (Ардалан, 1867). Пляменнік апошняга ўладара Батана, Бедыр-хана, спрабуе аднавіць ханства падчас Крымскай вайны, звярнуўшыся па дапамогу да расійскага намесніка на Каўказе **Мікалая Мураўёва-Карскага** (брата віленскага генерал-губернатара **Міхаіла Мураўёва**). Праект церпіць паразу, праўда, сям'я Бедыр-хана яшчэ доўга грае значную ролю ў курдскім руху, выдае першую курдскую газету.

**1914–1923** Разбурэнні, разня і другі падзел Курдыстана ў выніку Першай сусветнай вайны. З двух Курдыстанаў — асманскага і персідскага — іх робіцца чатыры, бо асманскі Курдыстан дзеляць на турэцкі (самы вялікі), іракскі і сірыйскі (найменшы).

**1946** У савецкай зоне акупацыі Ірана ствараецца першая сучасная курдская дзяржава – **«Мехабадская рэспубліка»**. Невялічкая рэспубліка падае пад націскам іранскага войска пасля вываду савецкага войска з Ірана, а трох яе кіраўнікоў вешаюць.

**1961–1975** (з перапынкамі). Вайна іракскіх курдаў за аўтаномію. Барацьбу ўзначальвае **Мустафа Барзані**, вядомы як «мула» і «генерал», хаця абодва тытулы з'яўляюцца ўмоўнасцямі: ані святаром, ані вайскоўцам Барзані не быў, хаця і вучыўся ў савецкай **Акадэміі імя Фрунзэ**. Іракскіх курдаў падтрымліваюць многія знешнія сілы (найперш Іран). Але ўрэшце Ірак і чарговыя спонсары Барзані дамаўляюцца, і курдскі супраціў калапсуе цягам лічаных тыдняў.

**1984** Працоўная партыя Курдыстана (ППК) на чале з Абдулой Аджаланам пачынае вайну за незалежны сацыялістычны Курдыстан. З цягам часу ППК разгортвае сваю дзейнасць ва ўсіх чатырох Курдыстанах. Як і ў кожнай партызанскай вайне, большасць ахвяраў склалі мірныя жыхары.

**1988** Іракскі ўрад праводзіць аперацыі супраць курдскіх партызан у часе вайны Ірака з Іранам. Гэтыя дзеянні канчаюцца генацыдам і прымяненнем хімічнай зброі.

**1991** На поўначы Ірака паўстае фактычная курдская дзяржава. Гэта становіцца магчымым пасля ўсталявання заходнімі дзяржавамі зоны, дзе забаронены палёты іракскай вайсковай авіяцыі. Уладу пасля кароткай грамадзянскай вайны падзялілі дзве галоўныя курдскія партыі. Хаця з пачатку 2000-х Іракскі Курдыстан часта апісваюць як астравок міру і развіцця ў ахопленым вайной Іраку, сітуацыя там супярэчлівая.

**2017** Правядзенне рэферэндуму аб незалежнасці. 92% з прыкладна трох мільёнаў выбарцаў у Іракскім Курдыстане галасуюць за незалежнасць. Аднак пад ціскам цэнтральнага іракскага ўрада і суседніх дзяржаў улады Іракскага Курдыстана замарожваюць вынікі рэферэндуму.

*Склалі Сяргей Богдан і Анжаліка Пабеданосцава Кая*

### За крок да дзяржаўнасці

У 1991 годзе заходнія краіны, змагаючыся з Садамам Хусейнам, далі курдам магчымасць стварыць сваю аўтаномію на поўначы Ірака. На сёння Іракскі Курдыстан з'яўляецца стабільнай і эканамічна забяспечанай дзяржавай, якой бракуе толькі афіцыйнага прызнання. Улады Іракскага Курдыстана абапіраюцца на даходы ад здабычы нафты і транзіту паміж Іракам і Турцыяй.

Сірыйскія курды, прынамсі ўсходняя іх частка, у выніку цяперашняй грамадзянскай вайны таксама могуць спадзявацца на здабыццё стабільнай крыніцы даходаў ад нафты і транзіту. Іх сілы ва ўсходняй частцы краіны ў хаўрусе з ЗША ды іншымі заходнімі дзяржавамі кантралююць і некаторыя радовішчы, і аб'екты інфраструктуры ды шляхі транспартавання нафты.

Але і Іракскі, і Сірыйскі Курдыстан — два найменшыя кавалкі тэрыторыі, дзе жывуць курды. Гэтыя кавалкі могуць цяпер быць эканамічна жыццяздольнымі. Больш за тое, яны ўпісваюцца ў сусветную раскладку сілаў, бо фактычна з'яўляюцца хаўруснікамі Захаду, кансерватыўных арабскіх рэжымаў і Ізраіля.

Таму «Курдыстан» у тым ці іншым выглядзе рана ці позна з'явіцца на палітычнай мапе свету. Магчыма, гэта гучыць як парадокс, бо рэферэндум аб незалежнасці ў Іракскім Курдыстане летась у верасні скончыўся вялікім палітычным правалам, нягледзячы на пададзеную большасць галасоў за незалежнасць.

Усё пачалося са спробы прэзідэнта Масуда Барзані валявым рашэннем завяршыць працэс стварэння курдскай дзяржавы. Але рэферэндум разгневаў суседнія краіны і іракскі ўрад, а заходнія дзяржавы яго не падтрымалі. У выніку Барзані сышоў у адстаўку, а Багдад забраў назад захопленыя за пару гадоў да таго курдскімі сіламі землі, у тым ліку багаты на нафту Кіркук.

Курдская іракская аўтаномія, а па сутнасці дзяржава, аднак, не спыніла існавання. Яна проста вярнулася ў межы 2014 года, вынікі ж рэферэндуму былі замарожаныя. Часы змяніліся, і цяпер Захад, а перадусім ЗША, іракскіх курдаў Багдаду не аддасць.

### Курды ў Сірыі — апора Захаду

Падобнае здарылася і ў Сірыі. Сірыйскія курды, дзякуючы кантролю над некаторымі радовішчамі, нафтавай інфраструктурай ▶

і маршрутамі транспартавання нафты, таксама сталі ўспрымацца на Захадзе як каштоўны хаўруснік. Гэта адбылося пасля таго, як высветлілася, што жыццяздольнай памяркоўнай сірыйскай апазіцыі, на якую можна было б паставіць у барацьбе з Ісламскай дзяржавай, Башарам Асадам і яго іранскімі ды расійскімі хаўруснікамі, проста не існуе.

## Найбольш зацята змагаліся за незалежнасць курды Турцыі, але менавіта яны маюць найменш шанцаў

Таму далягляды курдскай незалежнасці не падаюцца безнадзейнымі. Адзінага Вялікага Курдыстана не паўстане, але рэальным з'яўляецца завяршэнне стварэння курдскай дзяржавы ў Іраку, ды і сірыйскія курды могуць не застацца ў складзе Сірыі. Любая вайна з Іранам можа прывесці да аналагічнага аддзялення іранскіх курдаў.

Праўда, зусім невідавочна, што гэтыя кавалкі аб'ядноюцца. Ды нават калі і аб'ядноюцца, то без турэцкіх курдаў і гэта будзе толькі цень Вялікага Курдыстана. Турэцкіх курдаў па колькасці больш, чым усіх астатніх курдаў разам узятых, але справа іх выглядае даволі безнадзейна. Яны цесна звязаныя з турэцкай дзяржавай і нездарма жартуюць, што «тры самыя вялікія курдскія гарады — Стамбул, Анкара і Ізмір», гэта значыць, турэцкія гарады далёка ад Курдыстана. Гэта парадокс, бо якраз турэцкія курды найбольш зацята змагаліся за Курдыстан, і ўзровень іх сацыяльна-эканамічнага ды культурнага развіцця вышэйшы за іншыя часткі Курдыстана. Як той казаў, «Бог няроўна дзеліць». ◆

**Персікі з сонечнага Курдыстана (Вялікі Заб, Іракскі Курдыстан).**

ФОТА АНЖАЛІКІ ПАБЕЛАНОСЦАВАЙ КАЯ



ФОТА АНЖАЛІКІ ПАБЕЛАНОСЦАВАЙ КАЯ

**Курдская нацыянальная вопратка як сімвал самасвядомасці (Вялікі Заб, Іракскі Курдыстан).**



WIKIMEDIA COMMONS

**Незалежніцкі мітынг на вуліцы горада Эрбіль, сталіцы Іракскага Курдыстана, перад рэферэндумам адносна незалежнасці рэгіёна ў верасні 2017 года.**

**Кастусь Шыдлоўскі. Васковыя таблічкі: погляд на мінулае і будучыню.** Мінск: Кнігазбор, 2017.

У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет кніга вядомага гісторыка і краязнаўца Кастуся Шыдлоўскага, які доўгі час займаецца адраджэннем старажытных спосабаў пісьма.
У кнізе «Васковыя таблічкі: погляд на мінулае і будучыню» аўтар у захапляльнай форме распавядае пра гісторыю аднаго з найстаражытнейшых пісьмовых матэрыялаў, які шырока выкарыстоўваўся ў тым ліку і нашымі продкамі. Прычым робіць гэта Кастусь Шыдлоўскі віртуозна: кніга напісана вельмі лёгкай моваю, чытаецца на адным дыханні і таму будзе цікавая шырокаму колу чытачоў, а не толькі спецыялістам.
Літаратар Алесь Кіркевіч у рэцэнзіі на кнігу адзначае: «Калі задумацца, Шыдлоўскі закрывае вельмі балючую траўму нашай гістарычнай свядомасці — знішчае чарговы міф пра беднасць нашай культуры і «неадукаванасць» сярэднявечных беларусаў. Ну і што, што мы не маем дастатковай колькасці берасцяных граматаў? У нас былі таблічкі — а гэта значна круцей, бо культурна і эстэтычна набліжае нас да Плінія, Гарацыя, Авідыя, карацей, да еўрапейскай класікі».
Сам жа Кастусь Шыдлоўскі прызнаецца што ўзяўся за вывучэнне вузкай і слабадаследаванай тэмы: «На абшарах славянскага свету няма грунтоўных даследаванняў тых жа пісалаў-стыляў. Ёсць спробы абагульніць калекцыі, якія мы маем з раскопак старажытных гарадоў, вылучыць тыпалогію і г. д. Але ў больш шырокім кантэксце, наколькі ведаю, працаў няма. Іншая справа — увязаць пісалы з таблічкамі, тут наогул вобмаль публікацыяў. Нават у Польшчы за 15 гадоў мне давялося сустрэць усяго аднаго студэнта, які піша дыплом па тэме. Ён са мной кансультаваўся, я паказваў яму практычны бок».
Варта адзначыць, што Кастусь Шыдлоўскі не толькі даследуе гісторыю васковых таблічак, але і вырабляе іх сам! Ён працуе ў Цэнтры славян і вікінгаў у польскім мястэчку Волін, дзе займаецца гістарычнай рэканструкцыяй. Цікава зазірнуць




у апошні раздзел кнігі, дзе аўтар дае парады, як самому зрабіць васковую таблічку ў хатніх умовах.
Багата ілюстраванае выданне стане прыемным падарункам для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй. Набыць кнігу Кастуся Шыдлоўскага пра васковыя таблічкі можна ў найбуйнейшых кнігарнях па ўсёй краіне!

**Ганна Янкута. «Кот Шпрот і таямніца атракцыёнаў».** Мінск: Янушкевіч, 2018.




У выдавецтве «Янушкевіч» пабачыла свет кніга Ганны Янкуты «Кот Шпрот і таямніца атракцыёнаў» з ілюстрацыямі Ліліі Давыдоўскай.
Гэта першая аўтарская кніга ўжо вядомай шырокай беларускай супольнасці перакладчыцы з англійскай і польскай моў. Яе асаблівасць у тым, што дзеянне кнігі адбываецца ў сапраўдных мінскіх мясцінах: завулак Калініна, бульвар Талбухіна, парк Чалюскінцаў… Чытачы могуць здзейсніць падарожжа па рэальным горадзе. Дарэчы, і ў ката Шпрота ёсць рэальны прататып.
Па сюжэце кот Шпрот, які любіць уначы цішком збегчы з балкона і паблукаць па ваколіцах, знаёміцца з прывідамі, што жывуць пад вокнамі яго дома. Так пачынаюцца прыгоды ката і хлопчыка Алеся ў мінскім Парку Чалюскінцаў, завязваецца іх сяброўства з суседзямі — прывідамі, вераб'ямі і мышамі. Героі кнігі ратуюць сяброў, якія трапілі ў загадкавую пастку, і вучацца разам спраўляцца з нягодамі.
Ілюстрацыі ў кнізе жывуць асобным жыццём: калі іх уважліва разгледзець, то можна ўбачыць, што персанажаў трошкі больш, чым у тэксце, і ў гэтых загадкавых персанажаў таксама ёсць свая цікавая гісторыя.
Усяго ў кнізе амаль 50 малюнкаў.
Калі вы не з Мінска ці ніколі не бывалі тут, для лепшай арыентацыі мастачка намалявала карту.
«Кот Шпрот і таямніца атракцыёнаў» — толькі першая кніга з серыі пра незвычайнага ката і яго сяброў.
Чытачоў чакае працяг — каб сабраць усю калекцыю, варта пачынаць ужо цяпер!

**Кнігу можна набыць у інтэрнэт-кнігарні Januskevic.by, а неўзабаве яна з'явіцца ў вядучых кнігарнях Мінска і ўсёй краіны.**

# Мужчыны для вайны, жанчыны для працы

**Чарнагорыя — краіна, куды беларусы едуць плаваць, піць віно і любавацца архітэктурай. Але што там, за тымі зграбнымі фасадамі? Кандыдат гістарычных навук Варвара Кухарэнка адкрывае сапраўднае аблічча гэтай краіны: супярэчлівай і самабытнай, з дзікай і адначасова натхняльнай гісторыяй. І ніякіх турыстычных міфаў.**

Да славян тут жылі ілірыйцы, грэкі, рымляне. Пасля прыходу на ўзбярэжжа Адрыятычнага мора паўднёвым славянам давялося кантактаваць яшчэ і з візантыйцамі, венецыянцамі, венграмі, а потым з асманамі і аўстрыйцамі.

Першая назва Чарнагорыі, **Дукля**, дасталася славянам яшчэ ад назвы ілірыйскага племені, якое тут жыло раней, ці ад назвы рымскага паселішча. Дукля была пратэктаратам Візантыі, але пры дынастыі Вайслаўлевічаў яна набыла незалежнасць і нават была каралеўствам (дакладны час набыцця гэтага статусу невядомы, верагодна, гэта адбылося да 1078 года).

Амаль адначасова з пераходам чарнагорскіх земляў пад уладу сербскага жупана Стэфана Немані ў 1185 годзе пачынае выкарыстоўвацца новая назва — **Зэта** (паходзіць ад назвы ракі). У сербскай дзяржаве Неманічаў Зэта будзе заставацца да смерці цара Душана ў 1355 годзе. Аднаўленне самастойнасці чарнагорскіх земляў звязана з дынастыямі Балшычаў (кіравалі Зэтай да 1421 года) і Црнаевічаў (да 1496 года).

У XV стагоддзі Зэта пачынае называцца **Црна Гора**, г. зн. Чорная Гара. (***Montenegro*** на венецыянскім дыялекце, што цяпер паўсюдна выкарыстоўваецца не толькі як міжнародная назва краіны, але і як турыстычны брэнд).

Іван Црнаевіч перанёс свой двор у Цэціне — новую сталіцу, дзе былі пабудаваныя палац і славуты манастыр. Сталічны статус Цэціне належаў да 1918 года, калі краіна ўвайшла ў склад югаслаўскай дзяржавы. Пасля аднаўлення незалежнасці Чарнагорыі ў 2006-м Цэціне стала «гістарычнай» сталіцай, дзе знаходзяцца рэзідэнцыя прэзідэнта і Міністэрства культуры.



Да XX стагоддзя адрэзаныя галовы ворагаў упрыгожвалі сядзібы чарнагорцаў.

WIKIMEDIA COMMONS

### Як новая Спарта

З 1496-га для Чарнагорыі пачаўся перыяд асманскай улады. Фармальна незалежнасць ад турак Княства Чарнагорыі была зафіксавана толькі ў Берлінскім трактаце 1878 года. Але фактычны статус чарнагорскіх земляў у Асманскай імперыі і раней адрозніваўся ад іншых захопленых балканскіх краін.

Да канца XIX стагоддзя краіна заставалася *terra incognita*, нягледзячы на цікавасць да яе антраполагаў перыяду рамантызму. З аднаго боку, да Чарнагорыі ставіліся з сімпатыяй, лічачы яе няскоранай хрысціянскай цытадэллю сярод ісламскага свету. З іншага боку, горы не толькі перашкаджалі скарыць гэтую краіну мусульманскай цывілізацыі — адначасова яны не давалі прыйсці сюды ў нескажоным выглядзе і цывілізацыі заходняй.

Кнігі і артыкулы XIX стагоддзя, прысвечаныя Чарнагорыі, змяшчалі недакладную інфармацыю, прэзентуючы жыхароў княства як крыважэрных дзікуноў, да таго ж яшчэ і ашуканцаў. Былі нават такія, што лічылі чарнагорцаў

# Чарнагорыя: адзіная ў сваім родзе

Дзяржава на Адрыятычным моры. Яе плошча складае 14 тыс. кв. кіламетраў. Гэта ў 15 разоў менш за Беларусь. А насельніцтва — усяго 600 тысяч. Тым не менш, ваяўнічыя і свабодалюбныя чарнагорцы, аддана верныя праваслаўю, зацята адстойвалі сваю самастойнасць у барацьбе з гіганцкай Асманскай імперыяй. У 1918 Каралеўства Чарнагорыя ўліваецца ў адзіную Югаславію. Незалежнасць Чарнагорыя адновіць толькі ў 2006 годзе, але паспела ўжо ўступіць у НАТА, што выклікала моцную незадаволенасць Расіі, якая паспрабавала ажыццявіць у краіне дзяржаўны пераварот падчас парламенцкіх выбараў 2016 года.

ФОТА OLENA Z, ROYALTY FREE STOCK

еўрапейскімі прадстаўнікамі негроіднай расы. Нават падчас Першай сусветнай вайны адзін брытанец чуў размову двух сваіх суайчыннікаў, якая выдатна ілюструе гэтую версію: «Канешне, я ведаю Албанію. Там выключна альбіносы з белым валоссем і чырвонымі вачыма, і калі хтосьці з іх бярэцца шлюбам з кім-небудзь з Чарнагорыі, дзе жывуць цемнаскурыя, у іх нараджаюцца дзеці, якіх называюць далмацінцамі, бо ў іх чорныя і белыя плямы».

На вандроўнікаў, якія збіраліся ў Чарнагорыю, глядзелі як на асуджаных (прыкладна так, як цяпер глядзяць на тых, хто збіраецца ў Косава, а яшчэ некалькі год таму дзівіліся і жаданню пабачыць Албанію). Тым цікавейшыя дыяметральна супрацьлеглыя сведчанні тых, хто вяртаўся з балканскага ваяжу, захаваўшы не толькі галаву, але нават нос і вушы цэлымі. Наведаўшы Чарнагорыю, еўрапейцы пачыналі праслаўляць яе свабодных, моцных і прыгожых людзей. Часцей за ўсё вандроўнікі параўноўвалі гэта грамадства са старажытнай Спартай.

### Партызаны прыносілі галовы

Што казаць пра прымхі заходнееўрапейцаў, калі нават найбліжэйшыя суседзі ў Котары (зараз адзін з найпрыгажэйшых гарадоў Чарнагорыі, які да XIX стагоддзя быў пад уладай Венецыі) слова «чарнагорац» лічылі абразай. Такі «крыважэрны» імідж стваралі сабе самі жыхары Чарнагорыі. У чарнагорскім грамадстве да XX стагоддзя доказам перамогі над ворагам была адрэзаная галава. Потым звычайна яе насаджвалі на палю, аздабляючы двор героя («юнака», як называлі іх у паўднёвых славян). Дзеці на падворку маглі гуляць з гэтымі галовамі ці ўсаджваць ім у зубы цыгарэты, здзекуючыся з пераможанага ворага.

Той жа лёс, вядома, чакаў і саміх чарнагорцаў, якія траплялі ў турэцкі палон. Але тое, што туркі рабілі з хрысціянамі, разносілася па ўсёй Еўропе з заклікамі пакараць крыважэрных мусульман. Падобныя ж учынкі чарнагорцаў і іншых хрысціян замоўчваліся, апраўдваліся ці нават ухваляліся як праява вызваленчай барацьбы.

Нават калі Чарнагорыя была яшчэ тэакратыяй і кіравалася праваслаўнымі мітрапалітамі, аніякія хрысціянскія прынцыпы міласэрнасці не перашкаджалі вышэйзгаданай традыцыі. Госці, гуляючы з уладаром Пятром II Петравічам-Негашам у більярд (а гульня гэтая для чарнагорцаў настолькі сімвалізавала іх сувязь з цывілізаваным светам, што яны нават палац мітрапаліта, дзе стаяў стол, дагэтуль называюць «Більярдай»), бывалі сведкамі вяртання з чэтавання (так называліся партызанскія ці рабаўнічыя вылазкі дробных атрадаў) чарнагорскіх юнакаў з мехам галоў, якія выкідаліся на падлогу перад мітрапалітам. Уладар плаціў за гэтыя трафеі, а потым яны насаджваліся на палі ў вежы побач з манастыром і палацам.

Ад традыцыі адразання галоў, насоў і вуснаў адмовіліся толькі дзякуючы шырокаму распаўсюджанню агнястрэльнай зброі, бо, пакуль чарнагорац пілаваў адну галаву, можна было паспець застрэліць некалькі ▶

турак. Да таго ж, з гэтымі галовамі было нязручна перамяшчацца, бо насілі іх чарнагорцы да вяртання дадому ў сваёй торбе побач з ежай.

## Вялікія героі

Чарнагорцы лічылі сябе вялікімі героямі, а астатнія народы (акрамя албанцаў) — няздатнымі на сапраўдныя мужчынскія ўчынкі, і таму падобнымі ў паводзінах да жанчын. Параўнанне з жанчынай было для чарнагорца самай страшнай абразай. Прытым што ўся гаспадарка трымалася на жанчынах, менавіта мужчына быў поўным гаспадаром сям'і, амаль што ўласнікам сваёй жонкі.

Для мужчыны правільным заняткам лічыліся толькі вайна і чэтаванне (партызанскія вылазкі супраць туркаў). Фізічная праца была ганебнай, а таму ёй займаліся жанчыны. Адсюль і яшчэ адзін з міфаў (вельмі папулярны сярод турыстаў) пра чарнагорскую ляноту. Чарнагорцаў сапраўды складана было прымусіць працаваць на сельскай гаспадарцы ці ў прамысловасці. Калі была створана першая Югаславія (Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў, 1918 год), улады амаль нічога не маглі зрабіць у гэтым рэгіёне, каб перамагчы падобныя стэрэатыпы.

## Братушкі

Галоўнай тэзай, з якой знаёміцца кожны рускамоўны турыст у Чарнагорыі, з'яўляецца ідэя спрадвечнага сяброўства і любові да рускіх. Але расійска-чарнагорскія адносіны бяруць пачатак толькі ў 1711 годзе, і першыя эпізоды адносін вельмі складана назваць паспяховымі. Усё пачалося з ідэі чарнагорскага мітрапаліта Данілы Петравіча Негаша аб пошуку новага моцнага «сябра» на міжнароднай арэне. Адначасова быў апублікаваны ліст расійскага цара Пятра I да чарнагорцаў з заклікам паўстаць супраць туркаў.


TOURBYNEF.COM

Такія звароты былі накіраваны да ўсіх народаў Балкан, але адгукнуліся тады толькі чарнагорцы, што скончылася для іх поўнай паразай.

Наступны ініцыятар развіцця расійска-чарнагорскіх адносінаў мітрапаліт Васіль (1744–1766), праводзячы працу з чарнагорцамі па стварэнні культу Расійскай імперыі, спрабаваў адпаведныя «піяр-акцыі» праводзіць і ў Расіі. Але царыца Лізавета Пятроўна, даслаўшы свайго эмісара, хутка высветліла, што чарнагорцы не толькі не адданыя Расіі, але некаторыя і не ведаюць пра яе нічога; барацьба з туркамі не сістэматычная, а праяўляецца ў дробных сутыкненнях.


WIKIMEDIA COMMONS

**Більярда — рэзідэнцыя мітрапалітаў Чарнагорыі.** Яны былі і свецкімі кіраўнікамі краіны — князямі. Справа: Пятро II Петравіч-Негаш як мітрапаліт і ён жа — як князь. А Більярдай ягоную рэзідэнцыю празвалі, бо ў ёй стаяў першы ў краіне більярд. Трапіць на більярд да мітрапаліта было вялікім гонарам для яго падданых.


WIKIMEDIA COMMONS



**Сімвалам еўрапейскай цывілізацыі стаў для чарнагорцаў більярд**






На ўрэзцы: **так выглядала капліца Пятра II Петравіча-Негаша ў 1930-я гады.**
Справа: **так маўзалей выглядае цяпер, пасля разбудовы па праекце Івана Мештравіча.**

Першыя эпізоды адносінаў Чарнагорыі з Расіяй, такім чынам, складана назваць паспяховымі. Толькі з XIX стагоддзя сувязі сапраўды сталі рэгулярнымі, а фінансавая дапамога ад Расійскай імперыі стала адным з галоўных артыкулаў бюджэту Чарнагорыі.

### Шлюбная дыпламатыя

Адным з найцікавейшых уладароў у гісторыі Чарнагорыі з'яўляецца апошні кіраўнік дзяржавы — Мікола Петравіч-Негаш. Князем ён стаў у 1860 годзе, а на юбілей свайго праўлення, у 1910-м, вырашыў павысіць свой статус да караля. Мікола Петравіч быў адным з самых яркіх прыхільнікаў «шлюбнай» дыпламатыі. Маючы трох сыноў і дзевяць дачок, ён праварочваў самыя неймаверныя варыянты іх уладкавання. У выніку жартавалі, што ў Еўропе не засталося дынастый, якія б не сталі сваякамі караля гэтай маленькай дзяржавы.

Галоўнымі дасягненнямі сталі шлюбы дзвюх дачок чарнагорскага ўладара — Любіцы і Алены. Першая, больш вядомая як Зорка Чарнагорская, у 1883 годзе стала жонкай сербскага апальнага прынца Пятра Карагеоргіевіча, які ў 1903-м, здзейсніўшы пераварот, стаў каралём Сербіі (Любіцу часам называюць сербскай каралевай, але яна памерла яшчэ ў 1890 годзе). А вось Алена (Савойская) у 1896-м выйшла за спадчынніка італьянскага трона Віктара Эмануіла III і стала каралевай Італіі і Албаніі, імператрыцай Эфіопіі.

Праз шлюб свайго другога сына Мірка Петравіча Мікола быў звязаны і з іншай сербскай дынастыяй, Абрэнавічамі. Менавіта да сына Міркі ад гэтага шлюбу, Міхайла, мусіла перайсці чарнагорская спадчына. Але яшчэ ў 1918-м чарнагорская скупшчына (парламент) пазбавіла Петравічаў-Негашаў усіх правоў на трон і вырашыла далучыцца да фарміравання югаслаўскай дзяржавы. Цяпер праўнук апошняга караля, князь Мікола, мае статус «афіцыйнага прадстаўніка нашчадкаў дынастыі Петравічаў-Негашаў». У студэнцкія гады будучы архітэктар Мікола Петравіч быў анархістам, актыўным удзельнікам парыжскіх падзей 1968 года.

Сучасная Чарнагорыя праз сваё надзвычай прыгожае ўзбярэжжа з'яўляецца перш за ўсё турыстычным аб'ектам, які з кожным годам усё менш нагадвае нам пра гісторыю гэтай краіны. Мінулае саступае сучаснасці, а чарнагорцы, занятыя ў сферы турызму, усё менш нагадваюць сваіх продкаў. Але, вядома, ніякія масавыя экскурсіі не здольныя адкрыць перад намі сапраўдную краіну: прыгожую, але не гламурнай прыгажосцю, цікавую, але не тымі турыстычнымі байкамі, якія ляжаць на паверхні. ◆

Адзін з галоўных турыстычных аб'ектаў Чарнагорыі — маўзалей кіраўніка Чарнагорыі мітрапаліта Пятра II Петравіча-Негаша **на гары Лоўчэн**. Да сярэдзіны XIX стагоддзя кіраўнікі Чарнагорыі называліся ўладыкамі і аб'ядноўвалі ў сваіх руках і свецкую, і духоўную ўладу — былі і князямі, і мітрапалітамі. Гару Лоўчэн сербскія нацыяналісты часта называюць «сербскім Алімпам», але маўзалей, які для турыстаў з'яўляецца адным з кульмінацыйных пунктаў наведвання Чарнагорыі, чарнагорцы і сербы ўспрымаюць як месца абразы, нанесенай ім камуністамі і (у інтэрпрэтацыі апантаных нацыяналістаў) харватамі.
Кіраўнік Чарнагорыі Пятро II яшчэ пры жыцці пабудаваў на Лоўчэне капліцу ў гонар свайго папярэдніка, святога Пятра I. Паміраючы, ён запатрабаваў пахаваць яго ў гэтай капліцы на гары і прыгразіў чарнагорцам праклёнам, калі яны парушаць ягоны запавет. У 1851 годзе Пятро II памёр ва ўзросце 38 гадоў, і да 1854-га ягоныя парэшткі знаходзіліся ў Цэцінскім манастыры. Пераканаўшыся, што яны падвергліся гніенню, а таму на ролю новага святога Пятра нябожчык-мітрапаліт не прыдатны, новы кіраўнік краіны Даніла Петравіч перанёс косткі на Лоўчэн. Аўстрыйцы, часткова зруйнаваўшы капліцу падчас Першай сусветнай вайны, перанеслі рэшткі зноў у Цэціне. У міжваенны перыяд капліцу аднавілі і вярнулі туды труну мірапаліта. У Югаславіі часоў Іосіфа Броз Ціта ўзнікла ідэя дэмантаваць капліцу і пабудаваць на яе месцы грандыёзны маўзалей, што ў 1974 годзе і было зроблена. Прычым тут былі харваты? Справа ў тым, што маўзалей быў пабудаваны паводле праекта Івана Мештравіча, харвацкага эмігранта, сусветна вядомага скульптара і архітэктара. Мештравіч ніколі не быў на Лоўчэне, але не адмовіўся выканаць гэты праект. Распрацаваны ён быў загадзя, а сам творца памёр у ЗША яшчэ ў 1962-м. Дарэчы, маўзалей вельмі нагадвае іншы мемарыял работы Мештравіча на Авале пад Бялградам, прысвечаны невядомаму сербскаму юнаку.

# Зацірка і рэстаран «Стэла»

## Што ўвайшло ў канон беларускай кухні, а што магло ўвайсці?


Беларускі рэстаран „СТЭЛЛА"
быуш. „Т-во АФІЦЭРАУ"
(Міцкевічава вул. 83, проці нямецкай кірхі).
ЗНОУ АДЧЫНЕН
ЦЭНЫ: Сьнеданьне—5 руб. Абеды з 2-х стравау —8 руб. Вячэры з 2-х стравау—10 руб. і ПОРЦЫЯМІ.
АДПУСКАЕЦЦА РОЗНАЯ ГАРЭЛКА.
У часе абеда граець концэртны квартэт ад 1 да 4 гадзіны і у вечары ад 7½ да 11 гадзіны.

**Кожная нацыя мае стравы-сімвалы. Нацыянальная кухня з'яўляецца разам з нацыянальнай дзяржавай. Пра тое з нагоды 100-годдзя БНР піша аўтар кніг «Наша страва» і «Літвінская кухня» Алесь Белы.**

Праз страўнік, як вядома, ідзе дарога да сэрца, і сэрца «масаў» тут не выключэнне. Мала які еўрапейскі нацыянальны рух у XIX—XX стагоддзях абышоўся без рамантызацыі нацыянальнай кухні.

У краінах, якія складаюцца з эмігрантаў, як у ЗША, часта можна назіраць, як людзі, страціўшы нацыянальную мову ў другім-трэцім пакаленнях, працягваюць культываваць уяўленую прыналежнасць да супольнасці продкаў, гатуючы традыцыйныя стравы на святы, наведваючы этнічныя рэстараны ды крамы з этнічнымі прадуктамі. Спажыванне сімвалічна-нацыянальнай ежы часам выходзіць на першы план сярод маркёраў нацыянальнай прыналежнасці.

Ёсць у нашай кухні стравы, якія асацыююцца з эпохамі, вялікімі падзеямі. Напрыклад, аўтар «Прамовы Мялешкі» ў пачатку XVII стагоддзя, малюючы ідылічныя часы да Люблінскай уніі, згадваў «гуску з грыбкамі, качку з перчыкам, пячонку з цыбуляй» або часнаком. XIX стагоддзе абудзіла любоў да іншых страў-сімвалаў, і вялікую ролю ў гэтым сыграла паражэнне паўстання 1830–1831 гадоў і настальгічная любоў паўстанцаў-эмігрантаў да тыпова «літоўскіх» страў і напояў. Паэма Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», напрыклад, вывела на публічную арэну завіваныя зразы ды халаднік — стравы, якія і сёння ў Беларусі гатуе кожная добрая гаспадыня.

У сваю чаргу Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч у «Пінскай шляхце» піша пра крупнік — славуты алкагольны напой з гарэлкі, мёду і спецый. А «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» змяшчаюць нямала згадак пра традыцыйныя сялянскія стравы, хоць і апісваецца гэта ўсё досыць іранічным тонам.

### Зацірка — палякам, а што нам?

Апавяданне Змітрака Бядулі «Пяць лыжак заціркі» (1912) заснаванае на яскравым вобразе канкрэтнай стравы.




**Завіваныя зразы як сімвал справы філаматаў.** Расійскія стражнікі, падазраючы, што сваякі зняволеных могуць перадаць у зразах лісты або халодную зброю, абавязкова разгортвалі іх. Шарж Алесі Галота з кнігі «Літвінская кухня».




З КАЛЕКЦЫІ АЛЕСЯ БЕЛАГА

**Афіша сталоўкі «Беларускай хаткі».**

Праўда, яна выступала там зусім не сімвалам нацыянальнага гонару, а якраз наадварот — нястачы і бяды. Такой і засталася ў нашым уяўленні.

Між тым зацірка, пакуль яна заставалася ў Беларусі папулярнай, не была адназначным маркёрам беднасці. У заможных сем'ях маленечкія клёцачкі зацiралі і сушылі ў запас у вялікай колькасці. У сучаснай польскай кухні клёцкі-*zacierki* дагэтуль застаюцца даволі папулярнымі. Яны выпускаюцца ў тым ліку і як паўфабрыкат.

# Гуска з грыбкамі, качка з перчыкам, пячонка з цыбуляй…

### Рэстаран «Стэла»

На станаўленне нашай нацыянальнай кухні моцна паўплывала Першая сусветная вайна. Яна сагнала са сваіх месцаў мільёны бежанцаў. Нацыянальныя арганізацыі, у прыватнасці, сталі ствараць сталоўкі для ўцекачоў, чым зарабілі не абы-які аўтарытэт. Сталоўка ў гэты час становіцца і сімвалам нацыянальнага змагання: летам 1915 года літоўскія нацыянальныя дзеячы ў Вільні катэгарычна адмовіліся засноўваць супольную дабрачынную сталоўку разам са сваімі польскамоўнымі землякамі. Гэты канфлікт часам лічыцца пачаткам сімвалічнага разрыву паміж прыхільнікамі «краёвай» ідэі (аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага ў дзяржаўным саюзе з Польшчай) і ўласна літоўцамі.

У Мінску ж у гэты час засноўваецца славутая «Беларуская хатка» — клуб, пры якім адкрываецца ажно тры сталоўкі: адна платная гарадская, адна бясплатная для бежанцаў і адна бясплатная сталоўка для беларускіх яўрэяў (праект апошняй прапанаваў пісьменнік Ядвігін Ш.). Усімі сталоўкамі апекаваўся беларускі тэатральны і грамадскі дзеяч Усевалад Фальскі. Гэта былі не проста месцы грамадскага харчавання — яны сталі нефармальным клубам, дзе сустракаліся беларускія дзеячы і абмяркоўвалі грамадскія праекты. Сталоўкі «Беларускай хаткі» сталі адным з першых месцаў нацыянальнай салідарызацыі.

Пры гэтым пра меню, стравы, напоі першых беларускіх сталовак вядома вельмі мала. Як не выяўлена і меню першага беларускага рэстарана з не зусім нацыянальнай назвай «Стэла», які дзейнічаў у Мінску ў 1918–1920 гадах — спярша пад немцамі, а пасля — пад палякамі.

### Верашчака, адназначна

Атрымалася, што, нягледзячы на досыць аб'ёмную пісьмовую спадчыну нацыянальных дзеячаў і айцоў-заснавальнікаў БНР, не захавалася амаль ніякага матэрыялу для рэканструкцыі таго, якім ім уяўляўся нацыянальны кулінарны канон. Але спробы былі. Унікальнай асобай у гэтай справе стаў Вацлаў Ластоўскі. Ён шмат займаўся міфатворчасцю, мяркуючы пра важнасць нацыянальнай міфалогіі, у тым ліку ў яе побытавым вымярэнні, для функцыянавання масавай свядомасці. У гэтай дзейнасці Ластоўскі найбліжэй са сваіх сучаснікаў падступіў да складання канону нацыянальных страў. Ён быў блізка знаёмы з сітуацыяй у літоўскім нацыянальным руху: ягонай жонкай была Марыя Іваноўская (Іванаўскайце), якая разам з сястрой Сафіяй складала вельмі ўплывовы ў першай чвэрці XX стагоддзя літоўскі пісьменніцкі дуэт (сёстры пісалі пад псеўданімам *Lazdynų Pelėda* — Сава з арэшніка). Літоўцы па ступені арганізаванасці апераджалі беларусаў як мінімум на два пакаленні. Першая кулінарная кніга, друкаваная па-літоўску, з'явілася ўжо ў 1893 годзе, а ў 1911 годзе сёстры *Lazdynų Pelėda* выпусцілі па-літоўску «Падручнік для ▶

### Як у Мінску ў 1915 годзе стварылі сталоўку

«Некалькі дзён мы куплялі: талеркі, лыжкі, відэльцы, гаршкі. Варочаліся з возчыкам з цэлай масай пакункаў. Здаецца, усё. Знайшлі кухарку, далі абвестку ў газетах, абвестку на дзвярах сталоўкі... І цяпер выявілася трагічная сітуацыя: не было за што купіць прадуктаў на першы абед. Пайшла я шукаць ратунку ў сваёй маткі. Дала нам мама варыва [агародніны] і пазычыла 3 рублі. Купілі мяса, грачаных крупаў і зварылі боршч ды катлеты з грачанай кашай. Усё добра зроблена, смачнае. Сядзім мы з кухаркай і бядуем: сталаўнікоў — аніводнага... Толькі чую — стукнулі дзверы! Аж дух заняло. Першы госць. Падымаю галаву — і сапраўды госць, ды які — Смоліч! [будучы сустваральнік Акадэміі навук Беларусі] «Можна паабедаць?» — «Калі ласка. Будзеце першым сталаўніком. А рука ў Вас шчаслівая?» — «Напэўна. Плачу за цэлы месяц наперад». — «Што Вы кажаце? Вось добра, на пару дзён абеды будзе за што рабіць». І сапраўды, справа пайшла. Штодзень сталаўнікоў прыбывала. У хуткім часе адчынілі [мы] і дзве бясплатныя сталоўкі».

*Зоська Верас. Успаміны*




**Марыя Іванаўскайце-Ластаўскене, жонка Вацлава Ластоўскага.**

гаспадыняў», заснаваны на «Кухарцы літоўскай» Вінцэнты Завадскай, якая, у сваю чаргу, была зрэдагаваўшы «Літоўскую гаспадыню» шляхцянкі з-пад Мінска Ганны Цюндзявіцкай.

Спроба Ластоўскага асэнсаваць гістарычную кухню ў новым кантэксце бачная праз яго творчасць. Пасля адыходу ад палітычнай дзейнасці ён, апроч іншага, напісаў фантастычную аповесць «Лабірынты» пра нібыта незлічоныя скарбы беларускай старасвеччыны, якія падпольныя крывіцкія жрацы дагэтуль хаваюць у падзямеллях полацкай Сафіі. У гэтым творы аўтар намякае, што славутая старка (моцны алкагольны напой з вялікім тэрмінам вытрымкі) — прадукт старажытнай крывіцкай цывілізацыі, якую ён спрабаваў сканструяваць. Некалькі цікавых спробаў асэнсаваць сімвалічнае значэнне беларускіх страў змяшчае і выдадзены ў 1924 годзе «Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік» (1924). У прыватнасці, нататкі пра кнышы і бацвінне (апошняя страва апісаная з вялікай сімпатыяй менавіта да яе дзісенскага варыянту, памятнага Ластоўскаму з дзяцінства) — гэта паводле жанру хутчэй артыкулы для этнаграфічнай энцыклапедыі ў стылі Зыгмунта Глогера, чым для слоўніка. Да таго ж, адзін з псеўданімаў Ластоўскага, Юры Верашчака, выдае ягоную ўстойлівую зацікаўленасць да справы нацыянальнай кулінарыі.

Менавіта верашчака (ці, па-іншаму, мачанка) была стравай, вакол якой назіраўся захоплены кансэнсус міжваенных аўтараў. Менавіта яе паступова і сталі бачыць кулінарным сімвалам тагачаснай беларускасці. Няма ніводнай іншай стравы, на якую ў 1920-я гады спасылаліся б так многа

Дзень быў святы. Яшчэ ад рання
Блінцы пякліся на сняданне,
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці... Пад рукою
Таўкліся дзеці, заміналі
Або смяяліся, спявалі...
Тым часам маці даставала
Чыгунчык з печы, лыжку брала
І верашчаку налівала.
**А за сталом на верашчаку**
**Падгатаўлялі ўжо атаку, —**
На гэта хлопцы былі хваты,
Аладкі кроілі ў квадраты
(Хоць геаметрыі не зналі)
І на відэльцы іх чаплялі.

*Якуб Колас «Новая зямля»*

і так staноўча. Яскравае апісанне прыгатавання і спажывання верашчакі стварае Якуб Колас у «Новай зямлі», прыхільна адгукаюцца пра яе Кандрат Крапіва («Людзі-суседзі») і Кузьма Чорны («Дарагуся»).

На жаль, далей культурны канон сцвярджаўся ў савецкім рэчышчы ачарнення ўсяго шляхецкага і магнацкага. Сімвалам новай эпохі стала фабрыка-кухня, а не настальгія па вядомых з дзяцінства вясковых прысмаках. Пераемнасць нашых кулінарных традыцый у вялікай меры была страчаная.

У выніку канон беларускай савецкай кухні быў зацверджаны толькі ў 1955–1956-х, пры распрацоўцы Зборніка рэцэптур нацыянальных страў, які вёўся Саветам Міністраў СССР у Маскве. Толькі ў 1958 годзе, праз 40 гадоў пасля абвяшчэння БНР і загадкавай гісторыі рэстарана «Стэла», у Мінску, недалёка ад плошчы Якуба Коласа, адчынілася кафэ беларускай савецкай кухні пад назвай «Бульбяная». Шкада, дарэчы, што тую «Бульбяную» ў 2011 годзе замяніла сеткавая піраговая з нямецкай назвай і вобразнасцю. ◆


Рэстарацыя „ЭЎРОПА“
1-ае Т-во у Менску.
(Францішканская, вул.).
Абеды з 2-х стравау—8 руб.
Вячэры з 2-х стравау—10 руб.

З 1-га гэтага кастрычніка
у БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ
(Менск, Александраўская 32)
пачалося вучэньне хлопцаў і дзяўчат.
Далейшы запіс вучняў ідзе.
Плата 300 руб. з вучня.




**Лагатып кафэ «Бульбяная».**



Міхля Сінаеўна сярод мінчанак, 1950-я гады.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА Д. БАБІНА

# Міхля Сінаеўна і яе кухня

**Рыба-фіш, гусіныя шыйкі і смажаны парсючок: беларускія і яўрэйскія традыцыі спляліся ў яе рэцэптах.**

**Міхля Сінаеўна была дачкой малодшага сына рабіна з Копысі** — таго сына, якому нічога з бацькавай спадчыны не дасталася. Ён стаў краўцом, абшываў сялян: з машынкай за плячыма хадзіў па вёсках і шыў кажухі. Рана памёр ад сухотаў, і сям'я пераехала ў сталіцу.

**Гучная, імклівая, з вялікай прагай да жыцця, Міхля Сінаеўна знайшла сябе ў такім самым горадзе — бурлівым Мінску 1920-х**. Тут яна стала Мар'яй Сямёнаўнай, або проста Маняй. Зрабіла сябе сама, брала ад жыцця што магла. Скончыла курсы, стала стэнаграфісткай. Закахалася, сышлася з мужчынам. Пражылі разам усё жыццё, але распісаліся толькі праз 35 гадоў пасля першай сустрэчы. Ніхто з родзічаў нават не задумваўся, што Маня і Жэня не распісаныя. У Мінску 1920-х, як і ў Мінску 2010-х, свабодны шлюб ніхто не асуджаў.

**Пазнаёмілася з мужам у рабочым клубе, спявала там у хоры, якім кіраваў трохі старэйшы за сваіх харыстак Мікола Равенскі** — аўтар музыкі гімна «Магутны Божа». Каляжанкай Мані па хоры была будучая оперная дзіва Ларыса Александроўская, да таленту якой Міхля Сінаеўна ўсё жыццё ставілася паблажліва: «Яна была такая ж харыстка, як і я, але стала каханкай Панамарэнкі, толькі таму цяпер і прыма».

**Да апошніх дзён насіла невядома адкуль здабытыя саба — прыгожыя туфлі без заднікаў** (можа, яны захаваліся яшчэ з дасавецкіх часоў). Калі ўнучкам падарылі французскі касметычны набор — цені, румяны, памада (такія ў СССР з'явіліся пасля Алімпіяды-80), Мар'я Сямёнаўна, агледзеўшы яго, летуценна ўздыхнула: «Мне б такі...» Яна б у свае 70+ была з гэтым наборам шчаслівая. Але і чужыя людзі заўважалі, што яна мела тонкі густ, умела прыдумаць сабе арыгінальны ўбор. Ёй важна было быць прыгожай і для сваіх, і для чужых, важна было выклікаць захапленне.

**Выжыла ў вайну і ўратавала сына дзякуючы сваёй настойлівасці.** Мінчукоў тады вывозілі на край горада, ва Уручча, адкуль павінен быў ісці транспарт. Але машыны ішлі не спыняючыся, нібы запоўненыя. А салдаты не падпускалі людзей да дарогі. Тады Мар'я Сямёнаўна праявіла хітрасць: «Ну што ж, спыніцца ўрэшце нейкая машына, а мы пачнём здалёк рэчы цягаць. Давайце лепш усе рэчы паднясём да дарогі, каб, як толькі спыніцца машына, хутчэй пагрузіцца». Упэўнены голас і корачка наркамата дзяржкантролю (працавала сакратаркай наркама) надавалі ёй вагі.

## Гэта быў сапраўдны культурны феномен

Салдаты дазволілі ёй арганізаваць жанчын, якія раней сядзелі ў нейкім загоне, каб паднесці рэчы. І калі нарэшце спынілася машына, Мар'я Сямёнаўна адразу штурхнула сына на вольнае месца.

**Яна ўсім гаварыла: я ўсё знаю, я ўсё ўмею, я з дзяржкантролю.** І сапраўды ўмела: усіх арганізаваць, сказаць патрэбныя словы — усе за ёй ішлі. За вайну гэтых сваіх якасцей не разгубіла, ёй нават даручалі суправаджаць параненых. Была праніклівая і адчувала людзей. Але прытым была харызматычнай і аўтарытарнай. Прыходзячы ў госці, займала сабой усю прастору. Вучыла жыццю кожнага побач з сабой. Рэшта сваякоў ціха глытала крыўды («У сям'і было вяселле, і трэба было купіць хлеба: паслалі мяне, школьніцу, каб дапамагчы, і цёцю Маню, бо яна знала, які хлеб выбраць. Мы накупілі многа хлеба, і цёця Маня ішла наперадзе, а я цягнула ўсё за ёй. Мне было вельмі цяжка, я помню, але было няёмка сказаць»). Побач з такім чалавекам няпроста ўжывацца, але здалёк бачыш, што гэта быў сапраўдны культурны феномен.

**Яна не была сардэчнай і шчодрай з чужымі, затое напоўніцу — са сваімі.** Найперш яе цікавіла ўласная сям'я, за яе стаяла гарой. Насіла ў бальніцу гарачыя стравы па тры разы на дзень, даставала ў савецкім Мінску ананас, каб пацешыць пляменнікаў, раздорвала пляменніцам свае футры. Для мужа — ціхмянага беларуса з-пад Заслаўя — не шкадавала энергіі. Штодзень была рознай, штодзень змяняла вобраз, нібы актрыса. «Як зрабіць, каб мужчына кахаў цябе без памяці ўсё жыццё» — о, якую метадычку Міхля Сінаеўна магла б напісаць!

WIKIMEDIA COMMONS

**Адносіны Міхлі Сінаеўны з кухняй былі такія ж, як з адзежай: разумела, адчувала, што з чаго можа выйсці, стварала рэцэпты сама**. Прыдумляла новыя стравы, адаптавала вядомыя. Неймаверна смажыла грыбы, хоць сама ніколі грыбоў не ела — мела адносна іх забабоны. Замест простых адбіўных гатавала «Вароніны гнёзды» — яйкі ўкрутую, абкручаныя адбіўнымі і абвязаныя ніткамі (калі ўжо страва запякалася, ніткі здымалі). Замест бульбы смажыла моркву ў масле, у канцы падтушваючы ў смятане — у такога гарніру быў мясны прысмак. Рабіла, канешне, і рыбу-фіш, і гусіныя шыйкі — роўна пад раздачу кожнаму госцю — і, кажуць, калі-нікалі нават смажыла парсючка (першым у іх сям'і, хто пераламаў яўрэйскую традыцыю, быў Міхлін брат: дзесьці пакаштаваў сала, і яму спадабалася). Мела некалькі каронных рэцэптаў, якія гатуе ўжо чацвёртае пакаленне сям'і. ◆

**Паўліна Скурко**

Хочаце падзяліцца рэцэптамі са сваёй гісторыяй? Пішыце нам на **history@nn.by**

## Салат «Ералаш»

*Патрэбна*:

- 3 сярэднія морквіны,
- 3 сярэднія бульбіны,
- 2 сярэднія бурачкі,
- 2 кіслыя агуркі,
- бляшанка кансерваванага гарошку,
- бляшанка гарбушы (можна сайры або іншай рыбы) ва ўласным соку.

Морква, бульба, буракі варацца і рэжуцца кубікамі. На вялікую круглую талерку выкладаецца ўся рыба (па цэнтры). Вакол рыбы сектарамі выкладаецца рэшта інгрэдыентаў так, каб колеры чаргаваліся. Кожны інгрэдыент утварае два сектары, такім чынам морква, бульба, агуркі і гарошак складаюць 10 сектараў.

Так салата падаецца на стол і ўжо перад гасцямі заліваецца маянэзам і перамешваецца.

*Парада М. С.*: Калі разам з рыбай на талерку патрапіла многа вадкасці, важна пазбавіцца яе, каб «Ералаш» не стаў «мокры».

## Пячэнне «Вожыкі»

*Патрэбна*:

- 5 яек (бялкі асобна, жаўткі асобна),
- 4 сталовыя лыжкі малака або смятаны,
- 100 грамаў маргарыну або масла,
- 1 шклянка цукру,
- 2 шклянкі мукі,
- ½ лыжачкі соды (пагасіць кефірам ці кіслым малаком) ці разрыхляльніка,
- 1 шклянка падробненых грэцкіх арэхаў.

Змяшаць жаўткі, малако (смятану), маргарын (масла), паўшклянкі цукру, 2 шклянкі мукі і соду (разрыхляльнік). Выкачаць цеста як на лапшу. Узяць бляху для запякання, пасыпаць яе мукой, выкласці на яе раскачанае цеста. На блясе нарэзаць слой цеста тонкай саломкай (як найтанчэй) уздоўж, а потым упоперак (каб кавалачкі былі даўжынёй 2–4 см). Разагрэць духоўку. Зарумяніць цеста ў духоўцы, дастаць і пакінуць астываць.

Паступова ўзбіць 5 бялкоў з паловай шклянкі цукру, усыпаць у масу арэхі, добра перамяшаць.



ФОТА ТОМЫ БАБІНАЙ

Узяць вялікую міску, усыпаць туды запечаныя пясочныя «палачкі», дадаць узбітыя бялкі з цукрам і арэхамі, добра перамяшаць. Лыжкай патрошкі выкладаць на змазаную маслам бляху (або пергаментную паперу) — «и запеч в небольшом огне до румяна».

З рэштак бялковага крэму можна спячы арэхавае безэ.

# Культавыя рэчы першага кіраўніка аэрапорта Мінск-2

## Памяць пра сяброў, што загінулі, і самалёты, якія ўпалі

— Гэтыя рэчы з самалётаў, якія разбіліся. Заўжды на месцы катастрофы збіраюць усе фрагменты, да самай дробязі, і потым у вялізных ангарах складваюць усё па чарцяжах, каб зразумець, што адбылося. І ўжо калі расследаванне скончана, самалёт зноў разбіраюць: штосьці ва ўтыль, штосьці яшчэ можна выкарыстаць. І з таго, што выкідаюць, лётчыкі могуць узяць нейкую часцінку на памяць, — кажа Антаніна Іванаўна, 82 гады. — Гэта наша лыжачка для абутку. А насамрэч — турбінная лапатка. Лётчыкі лічаць вялікай удачай, калі ім нехта такое падорыць. Гэта як сімвал авіяцыі. Муж вельмі ёю даражыў і заўжды карыстаўся.

Многа нашых сяброў разбіліся. Муж маёй сяброўкі быў інструктарам на самалёце з нямецкімі школьнікамі ў 1986-м: тады нямецкіх выдатнікаў узнагародзілі пуцёўкай у Мінск. Яны пабылі ў нас, і іх павезлі назад. Найразумнейшыя дзеці Германіі. Бацькі прыйшлі сустракаць, і самалёт ва ўсіх на вачах упаў. Дыспетчар даў ім калідор і не сказаў, што паласа не працуе: няма агнёў, паказальнікаў, лакатараў... Калі гэта заўважылі, дыспетчар дае каманду зноў на ўзлёт, а самалёт ужо нізка, і хуткасць 300 км/г. Дыспетчар кажа: вы павінны сысці на другое кола. Яны, канечне, усе штурвалы выціснулі на сябе, але ўжо позна — хвастом зачапілі дрэвы. Гэта, можа, з таго самалёта гадзіннік...

У лётчыкаў адносіны з самалётамі свае, вельмі цёплыя. Яны іх і самалётамі не называлі, казалі «мая тушка», «твая тушка» (ад Ту-134. — *П.С.*). Калі разбіваўся самалёт, плакалі не толькі па сябрах — самалёт быў для лётчыкаў яшчэ адным сябрам. І гэтыя рэчы, якія ў нас засталіся, — памяць не толькі пра сяброў, але і пра самалёты. ◆

**Паўліна Скурко**




ФОТА П.СКУРКО

**Мы з мужам аднакласнікі.** Я з сяла Дубовы Умёт, ён з Сухой Вязоўкі, гэта пад Самарай. Віктар у школу хадзіў з адным сшыткам у халяве і запісваў туды ўсе прадметы: хімію, алгебру... Але звычайна ён сядзеў на задняй парце і чытаў, у нас была вельмі добрая бібліятэка. Часам яго выклічуць, а ён глядзіць на ўсіх, каб яму падказалі, пра што яго настаўнік пытае. Кепска вучыўся, канешне. Калі ён прыходзіў сватацца, мая сяброўка-выдатніца мне сказала: калі ты выйдзеш за Багранцава замуж, я з табой размаўляць не буду. Маўляў, як я пасмела за такога недарэку замуж выходзіць! Але ў школе яму было нецікава, таму так і вучыўся. А лётнае вучылішча ён скончыў з чырвоным дыпломам. Я за жыццё заўважыла, што самыя неслухі ў школе якраз-такі выбіваюцца ў людзі. У класе трэцім, летам, у іх за сялом лётаў кукурузнік, апырскваў палі. Хлопчыкі назіралі за ім і ўбачылі, як ён сеў. І пабеглі да яго, басаногія, па калючках. Прыйшлі, а лётчыка няма. І яны ўжо там налазіліся! Усе сышлі, а Віктар усё не мог пайсці: пах яму спадабаўся. І ўсё, з тых часоў ён захварэў, хацеў быць толькі лётчыкам. Калі мы з ім ужо сябравалі, у 10-м класе, ён сказаў: ці лётчык, ці ніхто, пайду ў калгас.

**Аднойчы да Віктара ў Мінск прыехаў бацька**. Потым Віктар павёз яго дамоў, у Самару. І бацька, які ўсё жыццё прапрацаваў аўтамеханікам, кажа:
«Якая ў цябе добрая работа, сынку. Ты сядзіш прыгожы, у накрухмаленай беласнежнай сарочцы...» А Віктар гаворыць: «Тата, а дакраніся да маёй спіны...» А спіна ўся мокрая!

## Праект Нацыянальнага аэрапорта французскі, дайшлі да перакрыццяў — а ў нас у СССР нават завода няма, які такія бэлькі робіць

Віктар пачынаў з другога пілота, а ў выніку стаў кіраўніком аб'яднанага авіяатрада — яму падначальваліся ўсе службы аэрапорта. 18 гадоў кіраваў ім. Віктар за час свайго кіраўніцтва назбіраў адпачынку на паўгода. А калі і выедзе ў адпачынак, то толькі патэлефануе ў Мінск — і ўсё, трэба ехаць. Пяць дзён адпачылі, і годзе. Я прывыкла да гэтага. Як будавалі Мінск-2, мы ўвогуле сустракаліся толькі па начах.
Будавалі аэрапорт Мінск-2 з прыгодамі. Праект аэрапорта, увогуле, французскі. І вось будоўля замарозілася.
Кіраўнік БССР Слюнькоў выклікае Віктара Якаўлевіча, і той тлумачаць: праект французскі, дайшлі да перакрыццяў — а ў нас у СССР нават завода няма, які такія бэлькі робіць! Слюнькоў крычыць: «Як хочаце заканчвайце, я ў вас партбілеты забяру!» Яму спрабуюць патлумачыць: нам Францыя бэлек не дасць, гэта на ўрадавым узроўні трэба дамаўляцца... Віктар з намеснікам па будаўніцтве тады прыйшлі да нас дадому бледныя, бедныя, выпілі адразу. А Слюнькоў крычаў-крычаў, а потым, відаць, да яго дайшло, што дамаўляцца ўсё ж трэба.
Усё, аэрапорт да ўзлёту гатовы, да прыёму пасажыраў гатовы, ёсць тэрміналы — але няма будынка! Тады прывезлі з Гомеля нейкі вялікі драўляны спартыўны комплекс. У ім зрабілі касы, багаж, рэгістрацыю. Пусцілі ўжо аўтобусы «Вакзал – Аэрапорт», прывозілі пасажыраў. Але ад рэгістрацыі да вылету паўтары гадзіны, і пасажырам трэба недзе перачакаць. Дык што рабілі? Пасажыраў саджалі ў аўтобусы і на гэтыя паўтары гадзіны везлі ў лес забаўляць!..
Ніколі не забуду, колькі халтуры было, калі аэрапорт будаваўся. Усё гатова — няма цяпла. Сталі шукаць, раскопваць — аказалася, 3 метры не дакладзена трубы! Павінна там быць — а яе проста няма, вада цячэ ў зямлю. А трубы не дастаць — ліміт! Вам гэта не зразумела, а раней было як: грошы хоць і ёсць, але закупка не запланаваная, і ты нічога купіць не можаш. Напрыклад, мне ў дзіцячы садок [Антаніна Іванаўна працавала загадчыцай садка. — **П.С.**] патрэбна 30 гаршкоў, але я не магу іх набыць, пакуль не прыйдзе год, на які яны запланаваныя. Канешне, Якаўлевіч плаціць, трубу робяць. Што загубіла СССР — дык гэта планавая эканоміка. Я ведаю, што мне трэба, а яны мне плануюць!..
Або яшчэ было. Побач з аэрапортам узвялі Сокал — пасёлак авіятараў. І вось аднойчы муж прыязджае на працу, а мамы з дзецьмі з Сокала прыйшлі да яго на прыём. Аказалася, дамы здалі, людзі засяліліся, а ацяплення ў дамах няма. Катлы не паставілі. А ўжо лістапад! Катлы купіць нельга: канец года, ліміт. Тады муж пасылае сваіх ганцоў у Смаленск, каб выбіць гэтыя катлы. Там канкрэтна называюць: давай нам прэзент — дзве лётныя мехавыя курткі, —

## Самыя няслушнікі ў школе якраз-такі выбіваюцца ў людзі

і будуць вам катлы. Але Віктар Якаўлевіч не можа пайсці на склад і ўзяць дзве курткі, значыць, ён плаціць за іх 1200 рублёў і перадае ў Смаленск, добра, што на куртці давалі растэрміноўку. Усё, прывезлі катлы, паставілі. Але жыхары не ведаюць, што гэта ён такі добры, не скажа ж нікому. Яго кіроўца смяяўся: «Антаніна Іванаўна, муж не носіць вам заробак, вы нармальна да гэтага ставіцеся?» Я кажу: «Мой муж мне вельмі талкова тлумачыць, куды ідуць грошы».



З АРХІВУ СЯМ'І БАГРАНЦАВЫХ

**Віктар Якаўлевіч Багранцаў**, першы кіраўнік аэрапорта Мінск-2.

**Віктар Якаўлевіч быў лётчык ад Бога** — і гэта не мае словы. Ужо дзесяць гадоў яго няма, а на магіле, кожны раз як прыходжу, свежыя кветкі. Калі мы з ім ляцелі на поўдзень, ён казаў: «Я пайду схаджу ў кабіну». У сабе ён быў упэўнены, а ў іншых — не. Калі ён быў камандзірам эскадрыллі, яго кабінет называлі кабінетам экзекуцыі — так ён трос лётчыкаў. «Каб зналі ўсё на памяць, за вамі ж людзі!» Сам ён усё знаў, і лётчыкам праз яго прайсці было вельмі складана. Пры гэтым ён ніколі не павышаў голас, і яго калегі былі ўпэўненыя, што ён заўжды такі стрыманы. А дома ён бываў вельмі запальчывы. Але як хутка ўскіпаў, так і адыходзіў. А я потым тыдзень дзьмулася.
Ён быў непадкупны. Аднойчы даведаўся, што нейкая са сцюардэс бярэ дадатковых пасажыраў. Яе начальнік гэта пацвердзіў. Ён выклікаў праваднiцу і сказаў: пішыце заяву. І яе звольнілі. Пасля гэтага званіць яму пракурор нашага горада, кажа: «Вы ведаеце, гэта мая пляменніца». Віктар Якаўлевіч кажа: «Вельмі шкада». Яму ўсё адно было, пракурор ці хто перад ім.
І вельмі не любіў усіх гэтых усхваленняў. Нічога пра сябе пахвальнага ніколі не скажа, заўжды аджартуецца. Як ён ужо быў на пенсіі, шэсць чалавек прыехалі да нас на дачу: угаварыць яго прыехаць на юбілей аэрапорта. Цэлы дзень гулялі, думалі, што па п'янцы ўгаворадь. Не ўгаварылі. Ён страшна гэтага не любіў, не хацеў гэтых услаўленняў, казаў: «Сыходзячы, сыходзьце».

Маеце ў сям'і рэчы з цікавай гісторыяй? Будзем радыя напісаць пра іх. Дасылайце нам лісты на **history@nn.by**

# Як шляхціц Эйсмант прыкінуўся маскоўцам

## ды іншыя гісторыі з гісторыі Жабера — замка, які штурмавалі два каралі

**Калі ехаць з Мінска па трасе М1 і, не даязджаючы да Бярозы, павярнуць на Драгічын, праз паўгадзіны патрапіш у невялічкую вёску Жабер на правым беразе ракі Ясельды. Жыхары гэтых мясцін з імпэтам патлумачаць, дзе ляжыць «шведская грэбля», насыпаная войскам Карла XII, пакажуць месца замка князёў Вішнявецкіх, згадаюць прозвішча каменданта Бутмана і распавядуць пра аблогу і здачу замка, а таксама пра тое, як археолагі знайшлі скарб у «некалькі пудоў звонкага срэбра», піша археолаг Сяргей Лiневiч.**



**Рэшткі замка ў Жаберы**, фота са спадарожніка.

Але ў легендах захаваўся толькі невялічкі фрагмент гісторыі аднаго з найбольш баяздольных замкаў Вялікага Княства Літоўскага часоў Паўночнай вайны.

### Эпізод першы. Каму вайна…

У гістарычных крыніцах першыя згадкі пра маёнтак Жабер адносяцца да сярэдзіны XVI стагоддзя. Вядома, што на сярэдзіну XVII-га існавалі вёска Жабер і двор Жабер, якія належалі шляхецкім родам Дольскіх і Язерскіх. У дадатак двор арандаваў шляхціц Война Станіслаў Чарвінскі. І ён, мяркуючы па далейшых падзеях, не дужа сябраваў з суседзямі.

Падчас Вялікай вайны 1654–1667 гадоў, а дакладней у 1660-м, калі маскоўскае войска пад камандаваннем ваяводы Івана Хаванскага ішло з Берасця, адзін з атрадаў напаў на суседняе мястэчка Хомск. Скарыстаўшыся момантам, мясцовы шляхціц Дамінік Эйсмант вырашыў пажывіцца маёмасцю Чарвінскага. Ён сабраў дваццаць сябрукоў, яны прыкінуліся маскоўскімі салдатамі і з крыкам «Рубі! Рубі!» захапілі двор Жабер. Пры гэтым Эйсмант настолькі адказна падышоў да маскіроўкі, што слуга Чарвінскага, ратуючыся ад «маскоўцаў», са страху ледзь не патануў у рацэ.

Абарончых умацаванняў у Жаберы тады яшчэ не было. З пісьмовых крыніц вядома, што атрад Эйсманта разрабаваў два свірны, пограб і бровар.

### Эпізод другі. Замак? Давайце два!

Дык хто ж і калі паставіў у Жаберы замак, аб які пасля ледзь не зламае зубы непераможны шведскі кароль?

Будаваўся ён на загад палкоўніка Яна Караля Дольскага. За час свайго бурлівага жыцця Дольскі бараніў

інтарэсы Вялікага Княства ў войнах са Швецыяй, Расійскай дзяржавай, Асманскай імперыяй. Яго шанаваў кароль Рэчы Паспалітай Ян III Сабескі, і пры канцы жыцця Дольскі займаў пасаду маршалка ВКЛ. А пачынаў ён свой шлях да ўладных вышыняў пінскім падкаморыем — гэта значыць, чалавекам, які вырашае зямельныя спрэчкі. Жабер, як мы памятаем, быў падзелены паміж Дольскімі і Язерскімі... Але падкаморы ў хуткім часе спрэчку вырашыў і завалодаў маёнткам адзін.

Дасягнуўшы ўладных вяршыняў, Дольскі распачаў умацаванне сваіх маёнткаў у Пінскім павеце. Ён заклаў два замкі: у Караліне — прадмесці Пінска і ў Жаберы. Замкі будавалі згодна з пашыранай у той час старагаландскай фартыфікацыйнай сістэмай. Галоўную ролю адыгрывалі не высокія каменныя сцены і вежы, якія лёгка можна было разбурыць гарматным агнём, а земляныя насыпы, бастыёны і равы з вадой.

Пры планаванні абароны першасная роля адводзілася артылерыі і агняпальнай зброі, а трапіць у замак можна было толькі праз пад'ёмны мост.

### Эпізод трэці. Як гетман Вішнявецкі прыватызаваў дзяржаўную артылерыю

Пабудова абодвух умацаванняў была скончаная да 1690 года. Жыў Ян Дольскі ў Жаберскім замку. Каралін быў для яго рэзідэнцыяй святочнага дня. Пасля смерці гаспадара ў 1696-м усю яго маёмасць успадкавала жонка Ганна. А калі і яна пакінула гэты свет, замкі дасталіся Міхаілу Сервацыю Вішнявецкаму, іх пасынку і адначасова мужу адзінай дачкі Дольскіх, Кацярыны.

Вішнявецкі таксама выкарыстоўваў Жаберскі замак як рэзідэнцыю. Новы гаспадар максімальна яе ўмацаваў: звёз у Жабер палову дзяржаўнай артылерыі ВКЛ. Гэта было нескладана: Вішнявецкі займаў пасаду польнага, а пасля вялікага гетмана літоўскага і распараджаўся дзяржаўнымі рэсурсамі як уласнымі.

Ва ўмовах слабой цэнтральнай улады і магнацкага самаўпраўства ў ВКЛ у XVII—XVIII стагоддзях карупцыя была пашыранай з'явай. А зліццё дзяржаўнай і прыватнай маёмасці на побытавым узроўні было хутчэй нормай, чым выключэннем. Аднак, як пакажа далейшая гісторыя, дзеянні Вішнявецкага былі прадыктаваныя канкрэтнай палітычнай сітуацыяй.

### Эпізод чацвёрты. Як суседзі са шведамі сябравалі

У 1697 годзе ў балтыйскім рэгіёне адбылася падзея, якая карэнным чынам змяніла палітычны расклад у Еўропе. У Швецыі, адной з наймагутнейшых краін рэгіёна, памёр кароль Карл XI. На вольнае месца прыйшоў ягоны 15-гадовы сын Карл XII. Суседзі адразу ж пачалі прыглядацца да зручнейшых і смачнейшых кавалкаў шведскай тэрыторыі. У хуткім часе ўсе зацікаўленыя — Данія, Саксонія, Рэч Паспалітая і Рускае царства — аб'ядналіся ў Паўночны саюз.

**Вішнявецкі звёз у Жабер палову дзяржаўнай артылерыі ВКЛ: ён займаў пасаду гетмана і распараджаўся дзяржаўнымі рэсурсамі як уласнымі**

Інтарэсам Рэчы Паспалітай было вяртанне Інфлянтаў. Так называліся заваяваныя шведамі ў 1660-м тэрыторыі былога Лівонскага ордэна, якія раней падпарадкоўваліся Рэчы Паспалітай, цяпер гэта частка Латвіі ды Эстоніі. У 1697 годзе на трон Рэчы Паспалітай сеў саксонскі курфюрст Аўгуст II Моцны, і адной з умоў яго абрання было якраз вяртанне Інфлянтаў.

У лютым 1700-га саксонская армія пачала аблогу Рыгі, аднак праз некалькі месяцаў адступіла. У сакавіку кароль Даніі Фрэдэрык IV распачаў баявыя дзеянні ў Гальштэйн-Гаторпскім герцагстве, а ў жніўні расійскія войскі рушылі ў кірунку Нарвы. Аднак шведскі кароль адным ударам, правёўшы бліскучы марскі дэсант пад Капенгагенам у жніўні 1700-га, вывеў з вайны Данію. У лістападзе 1700-га ён нанёс катастрафічную паразу войску Пятра I пад Нарвай. Наступнай пазнаёміцца з войскамі Карла XII давялося Рэчы Паспалітай.



**Міхал Сервацый Вішнявецкі,** уласнік замка ў Жаберы.

### Эпізод пяты. Карл XII у палескай багне

Рэч Паспалітая — краіна немалая, вайсковыя камунікацыі расцягнутыя, шляхта шматлікая ды яшчэ і Расійская дзяржава побач. Гэтыя праблемы малады кароль вырашаў з халоднай прагматычнасцю. Каб абараніць вайсковыя камунікацыі, было вырашана не пакідаць у тылах ніякіх умацаваных пунктаў. (Тады і былі паўзрываныя многія беларускія замкі, накшталт Навагрудскага.)

Каб адцягнуць увагу шляхты, Карл XII дабіўся змяшчэння з пасады Аўгуста II і абрання каралём Рэчы ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Карл XII**, кароль Швецыі.

▶ Паспалітай лаяльнага сабе Станіслава Ляшчынскага. Гэта прывяло да ўнутранага расколу ў дзяржаве і пачатку грамадзянскай вайны.

Шведскаму войску супрацьстаяла толькі шляхта, верная Аўгусту II, якую падтрымлівалі войскі Расіі. А кіраваў супраціваm вялікі гетман літоўскі, вядомы нам уладальнік Жаберскага замка Міхал Сервацый Вішнявецкі. І ў 1706-м Швецыя распачала супраць яго ваенную кампанію.

У красавіку Карл XII пераследаваў расійскія войскі пад камандаваннем Георга Бенедыкта Агільві. Яны зімавалі ў Гродне і, дзякуючы паводцы на Нёмане, змаглі адступіць без бою ў кірунку Кіева. Шведскія войскі рушылі на Пінск, каб перахапіць ворага, аднак ім зноў перашкодзіла паводка, гэтым разам на Прыпяці. У Пінску шведы зразумелі, што дагнаць рускую армію не атрымаецца. І Карл XII распачаў выкананне другой часткі плана — знішчэнне антышведскага супраціву.

З усіх замкаў палескага рэгіёна найбольш моцным і падрыхтаваным да баявых дзеянняў быў Жабер. Міхал Сервацый Вішнявецкі сканцэнтраваў тут гарнізон з 815 жаўнераў, узмацніўшы шасцю дзясяткамі гармат. Нават шведскія афіцэры былі ўражаныя: замак меў чатыры бастыёны, глыбокі роў і быў дадаткова ўмацаваны палісадамі. Падысці да яго можна было толькі з усходняга боку, а з трох астатніх яго прыкрывалі багна і рака Ясельда.

Шведы блакавалі замак 5 мая. 9-га на дапамогу ім падышоў чатырохтысячны корпус Юхана Аўгуста Меерфельта. Але камендант замка палкоўнік Ян Бутман трымаў абарону. 12 мая пад замкам з'явіўся кароль Станіслаў Ляшчынскі. Ён запатрабаваў капітуляцыі, аднак гарнізон адказаў гарматнымі залпамі.

Тады пад Жабер прыбыў сам Карл XII. Ён азнаёміўся з сітуацыяй і накіраваўся ў Пінск па цяжкую артылерыю, без якой замак узяць было немагчыма.

Бутману ў апошні раз прапанавалі здацца. У выпадку далейшай абароны дзеянні гарнізона разглядаліся б як бунт супраць караля Станіслава Ляшчынскага. А гэта значыла, што ўсіх абаронцаў чакае смяротнае пакаранне. Камендант вытрымаў яшчэ суткі, і толькі калі шведы пачалі шыхтавацца для штурму, выкінуў белы сцяг.

## Вайна пачалася, калі каралём Швецыі стаў зусім малады Карл XII. Суседзі пабачылі шанц забраць землі ў зялёнага юнака

Абаронцы замка былі ўзятыя ў палон, арсенал спалены, а сам замак зруйнаваны. З таго часу ён ніколі не аднаўляўся. Засталася толькі гісторыка-культурная каштоўнасць Рэспублікі Беларусь «Рэшткі былога замка Вішнявецкіх». ◆


ФОТА СЯРГЕЯ ЛІНЕВІЧА

**Марцірная бомба**, выяўленая падчас даследаванняў.

Аглядная вежа Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Былы комін цукраварні. Вышыня — 40 метраў.

IMG.TYT.BY

# Як будаваліся і як гарэлі панскія цукраварні

**Здабыванне цукру з буракоў — выпадковасць. Калі б не амбіцыі Напалеона, мы, можа, спажывалі б выключна трысняговы цукар, які цяпер каштуем хіба ў кавярні. Не было б заводаў у Гарадзеі і Жабінцы, Скідзелі і Слуцку, не было б мутарных летніх праполак у калгасе… Але ўжо як ёсць. Кандыдат гістарычных навук Андрэй Кіштымаў піша пра тое, як цукар прыйшоў на нашы землі.**

## Як буракі перамаглі

Хоць медыкі і завуць цукар «белай смерцю», любоў да салодкага для большасці з нас застаецца нязменнай. Салодкія стравы можна сустрэць у нацыянальных кухнях усіх народаў.

Цукар у жыцці еўрапейцаў з'явіўся позна. Першымі выраблць цукар сталі старажытныя індыйцы. Менавіта там, у Бенгаліі, у дэльце Ганга, сустракаліся зараснікі дзікарослага цукровага трыснягу. Карысныя ўласцівасці зрабілі яго культурнай раслінай. Для жыхароў Еўропы цукар доўгі час заставаўся дзівам, нярэдка яго нават рэкамендавалі як лекавы сродак.

Эпоха Вялікіх геаграфічных адкрыццяў стала пераломным этапам у гісторыі цукру. Учарашнія першаадкрывальнікі хутка зрабіліся жорсткімі плантатарамі. Новыя калоніі давалі каву і какаву, бавоўну і тытунь, чай і цукар. Трысняговы цукар усё шырэй пранікаў у Еўропу, але нават у XVIII стагоддзі яшчэ з'яўляўся прадметам раскошы. Так працягвалася да таго часу, пакуль трыснягу не склалі канкурэнцыю цукровыя буракі.

Праўда, буракі сталі «цукровымі» толькі ў 1747 годзе, калі нямецкі хімік Андрэас Маргграф вылучыў з іх цукар у цвёрдым стане. Магчыма, панаванне трысняговага цукру працягвалася б і да сёння, але сітуацыю пераламіла кантынентальная блакада Англіі ў час напалеонаўскіх войнаў. Дастаўляць трысняговы цукар з брытанскіх калоній стала цяжка, і на цукровыя буракі ўпершыню паглядзелі як на рэальную альтэрнатыву.



WIKIMEDIA COMMONS

**Андрэас Сігізмунд Маргграф** — нямецкі хімік, член Берлінскай акадэміі навук, ганаровы член Пецярбургскай акадэміі навук.

## Першы беларускі цукар

На землях Беларусі першая цукраварня з буракамі ў якасці сыравіны пачала працаваць у 1830 годзе ў маёнтку Моладава. Цяпер гэта Іванаўскі раён Брэсцкай вобласці. ▶

Спонсар рубрыкі «Гаспадарка» — кампанія «І-Экс-Пі Кэпітал»

Уладальнік гэтага маёнтка, Аляксандр Скірмунт, з юнацтва вылучаўся дапытлівым і практычным розумам. Скончыўшы ў 1818 годзе фізіка-матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, ён выправіўся ў Германію і Францыю, дзе некалькі гадоў вывучаў прымяненне навук у вытворчасці. Вярнуўшыся на радзіму, Скірмунт пабудаваў наватарскае прадпрыемства — цукраварню.

У той жа год Скірмунт атрымаў дзяржаўны патэнт на ўласнае вынаходніцтва — апарат з выкарыстаннем пары для паскоранага выпарэння цукровага сіропу. Сутнасцю вынаходніцтва было прымяненне так званага «пракату» — металічнай, з невялікім нахілам паверхні, па якой тонкім пластом сцякаў цукровы сіроп, награваны знізу парай. «Пракат» дазваляў значна паскорыць тэхналагічны працэс: замест звычайных 4–5 гадзін, выпарванне на ім доўжылася 3–4 хвіліны. Гэта была першая ў сусветнай цукратэхніцы ўстаноўка бесперапыннага дзеяння.

### Хто сурочыў Аляксандра Скірмунта

Аднак першы досвед прадпрымальніцкай дзейнасці Скірмунта нельга назваць паспяховым. Вытворчасць стрымлівалі вадзяны рухавік і вельмі сціплыя поспехі ў вырошчванні новай для гэтых месцаў тэхнічнай культуры — цукровых буракоў. Да таго ж, праз некалькі гадоў пасля заснавання цукраварня згарэла. У 1848 годзе прадпрыемства канчаткова спыніла сваё існаванне.

Праз трыццаць гадоў пасля пабудовы моладаўскага завода Аляксандр Скірмунт зноў вырашыў заняцца вытворчасцю цукру. Цяпер ён дзейнічаў з вялікім размахам. Новая цукраварня, пабудаваная ў маёнтку Парэчча, у 50 разоў перасягнула сваю моладаўскую папярэдніцу





**Аляксандр Скірмунт (1798–1870).** Партрэт работы Валенція Ваньковіча.

## Цукровая геаграфія Беларусі XIX стагоддзя

**Гомель, 1838–1882.** Тут цукраварню завёў уладальнік буйнога маёнтка граф Іван Паскевіч. У якасці кансультанта быў запрошаны памешчык Быхаўскага павета Парэмбскі, які два гады вывучаў досвед цукровай вытворчасці за мяжой. Адначасова пачалі рабіць пасевы цукровых буракоў і будаваць заводскія памяшканні. Абсталяванне для новай цукраварні замовілі ў Варшаве, і ў кастрычніку 1838 года яно было адпраўлена на тэрыторыю Беларусі.
Аднак у 1844 годзе Паскевіч, які займаў пасаду намесніка ў Польшчы і таму пастаянна жыў у Варшаве, атрымаў з Гомеля сумную вестку: ягоная цукраварня згарэла. Пачаліся аднаўленчыя работы, у тым жа годзе прадпрыемства запрацавала зноў. Яго дзейнасць працягвалася да 1882-га. Яшчэ ў 1879 годзе цукраварня, на якой працавалі 232 рабочыя, выпусціла 19 тысяч пудоў цукру (больш за 310 тон).

**Вялікія Нямкі, 1860–1862.** Вёска ў Рагачоўскім павеце, цяпер Веткаўскі раён. Пры 117 рабочых яна вырабляла больш за 16 тон цукру на год.

**Добасня, 1839–1862.** Маёнтак у Бабруйскім павеце, цяпер вёска ў Кіраўскім раёне. Напрыклад, у 1861–1862 гадах за суткі перапрацоўвалася да 900 пудоў буракоў, з якіх штодня атрымлівалі каля 500 кг цукровага пяску.

**Івань, 1838–1881.** Цяпер гэта вёска ў Слуцкім раёне. Тут, у маёнтку князя Пятра Вітгенштэйна, дзейнічала цукраварня з паравой машынай і амаль сотняй рабочых.

**Карэлічы, 1833–1862.** Мясцовая цукраварня таксама належала князю Пятру Вітгенштэйну.

**Крынкі, 1842–1864.** Маёнтак у Аршанскім павеце, цяпер вёска ў Лёзненскім раёне. На невялікай цукраварні тут працавала да 50 чалавек. Паравая машына з’явілася на гэтай цукраварні толькі ў 1861 годзе.

**Мікалаеўка, 1852–1867.** Фальварак у Рэчыцкім павеце, цяпер вёска ў Буда-Кашалёўскім раёне. Мясцовая цукраварня вылучалася высокім узроўнем свайго абсталявання, якое было закуплена ў Англіі і Германіі. Прадпрыемства размяшчалася ў трохпавярховым будынку, першы паверх быў мураваны. У 1859 годзе пры 200 вольнанаёмных рабочых і двух майстрах-іншаземцах Мікалаеўская цукраварня выпусціла 1 тысячу пудоў цукру на суму 7,5 тысячы рублёў. Механізмы на ёй прыводзіліся ў дзеянне трыма паравымі машынамі.

**Наспа, 1856–1862.** Фальварак Рагачоўскага павета, цяпер у межах вёскі Наспа Буда-Кашалёўскага раёна. Працавалі на ёй прыгонныя (у 1859 годзе — 121 чалавек).

**Астэрманск, 1855–1861.** Фальварак Рагачоўскага павета, цяпер Жлобінскі раён. Цукраварня размяшчалася ў двухпавярховым будынку з мураваным першым паверхам. Працавалі на ёй 172 рабочыя (113 мужчын і 59 жанчын), майстар і чаляднік. Гатовую прадукцыю збывалі ў Маскву.

**Чарняўка, 1852–1862.** Маёнтак у Клімавіцкім павеце, цяпер вёска ў Хоцімскім раёне. Як і на ўсіх цукраварнях, вытворчасць тут насіла сезонны характар. Напрыклад, у 1860–1861 гадах прадпрыемства працавала ўсяго 57 дзён.




MA-SHOPS.CO.UK

**Медаль, атрыманы Парэцкай цукраварняй на Сусветнай выставе** ў Парыжы. 1878 год.

па аб'ёмах вытворчасці. Працавала на ёй у 10 разоў больш рабочых. Размяшчалася прадпрыемства ў чатырохпавярховым каменным будынку на беразе ракі Ясельда, мела некалькі паравых машын і выпрацоўвала да 250 тон цукру за сезон.

Прадукцыя збывалася ў Пецярбург, Кіеў, Варшаву, суседнія губерні. Яна неаднаразова экспанавалася на расійскіх і міжнародных выставах, у тым ліку сусветных выставах у Вене 1873 года (дыплом ухвалення) і Парыжы 1878 года (бронзавы медаль). Але, на жаль, уладальніка як усё адно хто сурочыў. У 1879 годзе парэцкая цукраварня згарэла і больш сваёй дзейнасці не аднаўляла.

### Узлёт і падзенне беларускіх цукраварань

Следам за Аляксандрам Скірмунтам пачалі заводзіць цукраварні і іншыя прадпрымальнікі. У Беларусі імі былі выключна памешчыкі: менавіта ў іх руках былі ўсе неабходныя рэсурсы: зямля для вырошчвання цукровых буракоў, лес на паліва для цукраварняў, даходы ад маёнтка як першапачатковы капітал, сялянская праца.

Бывала і так, што памешчыкі заводзілі зусім маленькія цукраварні — не для выгады, а, як пісалася ў тагачасных дакументах, «для хатняга ўжытку».

У другой палове XIX стагоддзя цукровая вытворчасць у Беларусі стала занепадаць, а ў канцы стагоддзя тут зачыніліся апошнія цукраварні. Найперш з адменай прыгоннага права памешчык-прадпрымальнік страціў дармовую працоўную сілу, а таксама магчымасць прымушаць сялян вырошчваць цукровыя буракі. Цяпер за першасную сыравіну неабходна было плаціць, прычым плаціць нямала.

Канчаткова дабілі беларускую цукровую прамысловасць чыгункі. Мясцовыя цукраварні не вытрымалі канкурэнцыі з украінскім цукрам. Буракі ва Украіне раслі лепш, а давоз

## Канчаткова дабілі нашу цукровую прамысловасць чыгункі

чыгункамі быў танны. Да таго ж, цукраварня спажывала даволі шмат паліва. Пачатак здабычы каменнага вугалю ў Данбасе звёў на нішто і апошнюю канкурэнтную перавагу беларускіх губерняў — танны лес. Адраджэнне цукровай прамысловасці ў Беларусі адбылося ўжо толькі ў савецкія часы. ◆

**Богдан Мусял. Савецкія партызаны ў 1941–1944 гг. Міфы і рэчаіснасць.** — Смаленск: Інбелкульт, 2018. — 592 с.

У гэтай працы на прыкладзе Беларусі шырока даследуецца гісторыя савецкага партызанскага руху ў час Другой сусветнай вайны. Робіцца гэта на аснове крыніц з беларускіх, расійскіх, нямецкіх, а таксама часткова польскіх і літоўскіх архіваў, якія да гэтага часу не былі ўведзеныя ў шырокі навуковы ўжытак. У кнізе храналагічна рэканструюецца развіццё савецкага партызанскага руху ў Беларусі ад самага яго пачатку летам 1941 года да роспуску летам 1944 года, а таксама аналізуюцца яго сацыяльна-гістарычныя ды этнічныя аспекты. Акрамя пытанняў, на якіх традыцыйна акцэнтуюць увагу беларускія даследчыкі, аўтар кнігі не абыходзіць увагай і тыя аспекты, якія традыцыйна лічацца на постсавецкай прасторы «нязручнымі»: асабовы склад савецкага партызанскага руху і метады яго фармавання, жаночае пытанне ў партызанскім руху, штодзённае жыццё партызанаў, у тым ліку ўнутраныя канфлікты паміж імі, адносіны паміж партызанамі і групамі НКУС і ГРУ, паміж савецкімі партызанамі і партызанамі іншых нацыянальнасцяў, а таксама такія негатыўныя з'явы ў партызанскіх фармаваннях, як п'янства, марадзёрства, акты гвалту і злоўжыванні ў дачыненні да цывільнага насельніцтва і г. д. Выданне прызначана для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Другой сусветнай вайны.

**Найпрасцейшы і найтаннейшы спосаб набыцця выдання — праз сайт arche.by.**



# З чаго смяялася чалавецтва


BESTIARY.CA

## Кароткая гісторыя гумару

**Смех — бессэнсоўны рэфлекс, вынік скарачэння 15 мышцаў твару. Але як ён стае ў нагодзе! Мы жартуем, каб зняць напружанне ці перамагчы ў спрэчцы. Смяёмся з сябе, каб згладзіць сацыяльныя адрозненні або ўберагчыся ад кпінаў іншых на свой адрас. Усё тое самае рабілі людзі ад з'яўлення цывілізацыі. Ва ўсе часы чалавека весялілі парадоксы і кур'ёзы. Праўда, жыццёвыя рэаліі, якія яны адлюстроўвалі, у кожную эпоху былі свае.**

Некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што гумар маглі разумець нават неандэртальцы — праўда, не слоўныя жарты, а фізічныя паджартоўванні. А вось *homo sapiens* сучаснага віду пачалі ўжо актыўна выкарыстоўваць і моўныя жарты, і каламбуры. Вынаходніцтва пісьменнасці дало магчымасць данесці некаторыя з гэтых жартаў да нашых часоў.

Дзесяць гадоў таму брытанскія навукоўцы (ужо падобна да завязкі анекдота, так?) з Універсітэта Вулвергемптана апублікавалі спіс з дзесяці найстаражытнейшых жартаў свету. Першае месца ў ім заняў шумерскі жарт, які быў зафіксаваны ў 1900 годзе да нашай эры, але, магчыма, існаваў ужо і ў 2300 годзе да нашай эры. Гэты жарт уяўляе з сябе прымаўку і гучыць так: «Са спрадвечных часоў не было такога, каб маладуха не пукнула ў мужа на каленях».

Другі па часе фіксавання жарт таксама цяжка назваць надта цнатлівым:

> Як пацешыць сумнага фараона? Адправіць па рацэ Ніл поўную лодку маладых жанчын, апранутых толькі ў рыбацкія сеткі, і пераканаць фараона выправіцца на рыбалку.

Гэты жарт быў знойдзены ў старажытнаегіпецкім папірусе Весткар і датуецца 1600 годам да нашай эры. Згодна з тэкстам папіруса, гэтую і іншыя гісторыі распавядалі пры двары фараона Хеопса ягоныя сыны.

Найранейшы прыклад гумару на тэрыторыі Еўропы паходзіць, вядома, са Старажытнай Грэцыі. У знакамітай «Адысеі», якая была напісана прыкладна ў 800 годзе да нашай эры, сустракаецца такі эпізод:

> Адысей і яго сябры трапілі на зямлю цыклопаў. Там адзін з цыклопаў захапіў іх у палон і збіраўся з'есці, нягледзячы на просьбы злітасцівіцца. Тады Адысей прыдумаў хітры план, як ім вырatavацца ад монстра. Ён напаіў цыклопа віном. Калі той, п'яны і задаволены, спытаў імя частавальніка, Адысей адказаў яму, што клічуць яго «Ніхто». Уначы, калі цыклоп заснуў пасля вялікай колькасці выпітага, Адысей і ягоныя сябры напалі на цыклопа. Той пачаў клікаць іншых цыклопаў на дапамогу. Калі тыя спыталіся, хто на яго напаў, цыклоп адказаў: «Ніхто!» Так Адысей змог перамагчы страшнага ворага і вызваліцца.

Хоць традыцыйна лічыцца, што аўтарам «Адысеі» быў сляпы паэт Гамер, магчыма, што гэты твор існаваў першапачаткова ў вуснай фальклорнай форме і толькі пазней быў занатаваны. Такім чынам, гэты і падобны смешныя эпізоды маглі пераходзіць з вуснаў у вусны многія стагоддзі.

Найстаражытнейшы са зборнікаў анекдотаў, што захаваліся да нашых дзён, таксама быў складзены ў Грэцыі. Ён носіць назву «Філагелас» і адносіцца, хутчэй за ўсё, да IV стагоддзя нашай эры. У ім змешчана 265 жартаў, згрупаваных паводле тэматычнага прынцыпу. Адным з найбольш папулярных персанажаў з'яўляецца педант —празмерна вучоны і правільны чалавек:

> Плаваючы, педант ледзь не патануў і пасля гэтага даў сабе зарок не заходзіць у ваду, пакуль не навучыцца добра плаваць.
>
> * * *
>
> Нехта, сустрэўшы педанта, сказаў яму: «Раб, якога ты мне прадаў, памёр». — «Клянуся багамі, — сказаў педант, — пакуль ён быў у мяне, ён ніколі так не рабіў».

Старажытныя рымляне не адставалі ад грэкаў, калі гаворка ішла пра гумар. На рубяжы нашай эры папулярным героем жартаў стаў першы імператар Рымскай імперыі Актавіян Аўгуст. Вось які анекдот распавядалі пра яго ў тыя часы:

> Падчас падарожжа па сваёй імперыі Аўгуст заўважыў у натоўпе чалавека, які быў вельмі да яго падобны. Ён зацікавіўся і спытаў у яго: «Скажы, твая маці служыла калі-небудзь у палацы?» — «Не, Ваша Вялікасць, — адказаў чалавек, — але там служыў мой бацька».

Праз два тысячагоддзі гэты жарт стане ўлюбёным для псіхааналітыка Зігмунда Фрэйда. Ён выкарыстоўваў яго ў якасці доказу сваёй тэорыі пра тое, што жарты нараджаюцца з падсвядомага і менавіта

**Бонакон — міфічная жывёла ў выглядзе быка з закручанымі ўнутр рагамі, які абараняецца ад ворагаў, кідаючы ў іх гарачы гной.**

праз гумар чалавек можа выказаць тое, што сацыяльныя абмежаванні не даюць яму сказаць наўпрост.

Некаторыя са старажытнарымскіх жартаў вельмі падобныя да тых, з якіх мы смяёмся сёння. Вось адзін з папулярных анекдотаў таго часу:

Прафесар-схаласт, лысы і цырульнік накіраваліся ў падарожжа. Ноччу яны вырашылі сцерагчы свае рэчы па чарзе. Спачатку была чарга цырульніка. Яму хутка стала сумна, і ён забаўляў сябе тым, што галіў галаву прафесара. Калі прыйшла чарга прафесара, цырульнік пабудзіў яго і пайшоў спаць. Прафесар правёў рукой па сваёй галаве і падумаў: «Ну і дурань гэты цырульнік! Замест таго, каб пабудзіць мяне, ён пабудзіў лысага».

Гумар таксама арганічна прысутнічае ў Бібліі. У ёй нярэдка сустракаюцца згадкі пра тое, што Бог мае пачуцце гумару і здольнасць смяяцца. Іронія ўласцівая таксама і людзям, апісаным у Бібліі. Напрыклад, у кнізе «Выхад», прысвечанай у асноўным таму, як народ ізраільскі выйшаў з егіпецкай няволі і вандраваў па пустыні на чале з Майсеем, сыны Ізраілевы запытваюць Майсея: «Хіба няма магілаў у Егіпце, што ты прывёў нас паміраць у пустыні?»

**Нехта, сустрэўшы педанта, сказаў яму: «Раб, якога ты мне прадаў, памёр». — «Клянуся багамі, — сказаў педант, — пакуль ён быў у мяне, ён ніколі так не рабіў»**

Хоць Сярэднявечча часам і называюць цёмным часам еўрапейскай гісторыі, яно таксама не абышлося без гумару. Прытым гумар гэты быў не толькі вербальным, але і візуальным.

Гумар быў уласцівы не толькі еўрапейскаму, але і азіяцкаму Сярэднявеччу. Напрыклад, у Індыі вядомым персанажам гумарыстычных гісторый і прытчаў быў Тэналі Раман, які быў блазнам і паэтам пры двары імператара Віджаянагарскай імперыі ў пачатку XVI стагоддзя. Адна з гісторый апавядае: Тэналі Раман паспрачаўся з занадта самаўпэўненым фокуснікам на 1000 залатых манет, што ён зможа зрабіць з заплюшчанымі вачыма такое, чаго фокуснік не паўторыць нават з расплюшчанымі. Каб перамагчы ў спрэчцы, хітры блазан заплюшчыў вочы і насыпаў на павекі дзве жмені пяску. Фокусніку нічога не заставалася, як прызнаць сваю паразу.

З развіццём кнігадрукавання папулярнасць набылі зборнікі жартаў і анекдотаў (так званыя *jestbooks*). Самым распаўсюджаным жанрам былі фатэцыі — невялікія жартоўныя апавяданні пра смешныя здарэнні. Упершыню іх літаратурна апрацаваў італьянскі пісьменнік Поджа Брачаліні яшчэ ў 1470 годзе ў зборніку «Фатэцыі». Кніга вытрымала шмат перавыданняў, частка з якіх захавалася і да нашых часоў. Вось адна са змешчаных у гэтым зборніку фатэцый:

Абат Сетыма, вельмі тоўсты мужчына, аднойчы вечарам накіроўваўся ў Фларэнцыю і запытаў у сустрэчнага селяніна: «Як ты мяркуеш, я змагу ўвайсці ў горад?» Вядома, ён меў на ўвазе, ці зможа ён зайсці ў горад да таго, як браму замкнуць на ноч. Але вясковец, жартуючы з яго, адказаў: «Канешне, зможаш; калі ў вароты праязджае воз з сенам, то чаму б табе не прайсці?»

Нават у Англіі XVIII стагоддзя, у грамадстве, якое традыцыйна лічыцца ўзорам ветлівасці і сентыментальнасці, гумар не толькі не быў у заняпадзе, а квітнеў у самых разнастайных сваіх праявах. Вядомы даследчык гумарыстычнай літаратуры Сайман Дыкі сцвярджае, што брытанскія зборнікі жартаў таго часу стракацелі жартамі пра калек, сляпцоў і жабракоў, і жарты гэтыя былі зусім не бяскрыўднымі:

Дай табе Бог добры зрок, — кажа жартаўнік бязносаму чалавеку, — бо насіць акуляры ты дакладна не зможаш.

XIX стагоддзе было адзначана не толькі актыўнай дзейнасцю пісьменнікаў-сатырыкаў (напрыклад, Уільям Тэкерэй у Вялікабрытаніі, Антон Чэхаў у Расіі ці Канстанцін Вераніцын у Беларусі), але і ўсплёскам цікавасці да фальклору. У адрозненне ад сучасных анекдотаў і гумарэсак, якія з'яўляюцца кароткімі творамі з нечаканай канцоўкай, жартоўныя апавяданні XIX стагоддзя былі даўжэйшымі і часта завяршаліся мараллю, як казкі і байкі.

Толькі ў пачатку XX стагоддзя вусны анекдот набывае звыклую нам форму. Гэтае стагоддзе можна лічыць сапраўдным «залатым векам» анекдота, які пранікае ва ўсе слаі грамадства і закранае разнастайныя тэмы: ад палітыкі да сямейных адносін. Быццам падсумоўваючы гэты час, у 2001–2002 гадах ажыццявіўся праект *LaughLab* («Лабараторыя смеху»), дзе ўсе ахвотныя маглі ацаніць жарты і выбраць з іх самы смешны. Пераможцам стаў наступны анекдот:

Два паляўнічыя ідуць па лесе. Раптам адзін з іх падае. Ён выглядае непрытомным, вочы шкляныя. Другі паляўнічы выхоплівае тэлефон, звоніць у хуткую дапамогу і ўсхвалявана крычыць: «Мой сябар памёр! Што мне рабіць?» Аператар адказвае: «Супакойцеся, я магу вам дапамагчы. Спачатку давайце ўпэўнімся, што ён памёр». Пасля секунднай цішыні гучыць стрэл. Вярнуўшыся да тэлефона, паляўнічы кажа: «Добра, што далей?»

У наш час колькасць і разнастайнасць гумарыстычных твораў хутка павялічваецца. Новыя візуальныя жанры распаўсюджваюцца праз інтэрнэт і асабліва сацыяльныя сеткі. Але адно застаецца нязменным — гумар па-ранейшаму ўсім падабаецца. ◆

**Кацярына Скарэйчык**

### Жарты Старажытнай Грэцыі

• Педант размаўляў з сябрамі. Адзін сказаў: «Нядобра забіваць авечак — яны даюць нам воўну». Другі заўважыў: «Нядобра забіваць кароў — яны даюць нам малако». Педант адказаў: «Нядобра забіваць свіней — яны даюць нам мяса».

• У педанта ў доме жыла мыш і грызла кнігі. Каб адпомсціць ёй, ён стаў надкусваць мяса і класці ёй у цёмнае месца.

• У Кімах адзін чалавек прадаваў мёд. Падышоў чалавек, паспытаў і стаў хваліць, што мёд надта добры. «А няўжо ж, — сказаў прадавец, — калі б у яго не ўлезла мыш, я б і не прадаваў яго».

# Падводны рыцар, або Выпадак на вайне

Гэта было ў 1508 годзе. Здраднік Глінскі прывёў у ВКЛ маскоўскае войска.










































Малюнак: **Кацярына Першына**
Сюжэт: **Андрэй Скурко паводле «Хронікі» Аляксандра Гваньіні**

## Выдавецтва «Харвест» запусціла маштабны праект па выданні кніг на беларускай мове

За апошні год выйшла з тузін серый, што ахопліваюць мастацкую і навучальную літаратуру для дзяцей і падлеткаў.

- Давай чытаць: казкі для маленькіх, вершыкі пра жыццё і прыгоды жывёл, паравіны года, дзіцячы свет, пацешкі і загадкі.
- Самая неабходная кніга для падрыхтоўкі да школы: уяўленне і асновы лагічнага мыслення, асновы матэматыкі (лічэнне, простыя задачкі), асновы сэнсорыкі (колеры, формы, катэгорыі, параўнанне прадметаў і з'яў), асновы пісьма (літары, чытанне па складах).
- Мая першая кніга (Зямля, поры года і прыродныя з'явы, жывёлы, экзатычныя насельнікі Зямлі, дрэвы і кветкі, у садзе і агародзе, чалавек, правілы паводзінаў; азбука, чытанне па складах).
- Я спазнаю свет – для дашкольнікаў: Зямля (наша планета, кантыненты, акіяны і моры, паравіны года, прыродныя з'явы і навакольны свет), расліны (садавіна, гародніна, кветкі, дрэвы), жывёлы (дзікія і свойская жывёлы, насякомыя, птушкі, рыбы), чалавек (сям'я, распарадак дня, дом і адзенне, прафесіі).
- Казкі і вершы рускіх пісьменнікаў і замежных аўтараў.
- Энцыклапедыі для дзяўчатак (парады па дамаводстве, кулінарыі, доглядзе за хатнімі жывёламі і раслінамі; прыгажосць і здароўе, мода і стыль, выбар прафесіі).
- Энцыклапедыі для падлеткаў (космас, краіны і народы, чалавек і яго здароўе, жывёлы і расліны).

Рыхтуюцца да выхаду энцыклапедыі пра жывёл, народы свету, дыназаўраў, свет вакол нас — для дзетак сярэдняга школьнага ўзросту.

Кнігі гэтых серый могуць прыдацца як для чытання ў вольны час, так і ў якасці дадатку да матэрыялу, што вывучаецца ў школе. Каляровыя малюнкі і аўтарскія ілюстрацыі захопліваюць увагу і робяць гэтыя кнігі цудоўным падарункам.

Над перастварэннем тэкстаў на беларускую мову працуюць вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты, якіх вылучае любоў да беларускага слова і творчы падыход. Гэта Міраслаў Адамчык, Наталка Бабіна, Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Наста Кудасава.






